ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

5 СТУДЗЕНЯ 1996 г. № 1 (3825) Кошт 2 500 руб.

Антаніна ХАТЭНКА

## СТЫНЬСЛОВА

*Паводле Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА*

**Над Беларуссю белая бясконцасць.
Над Беларуссю чорная туга.
У беспрасвецці акалела сонца.
Знямелы Краю сцішыўся ў снягах.
Над Беларуссю здрадную сякеру
занёс валодна адрачэнец-кат.
Над Беларуссю хісткае бязвер'е.
У Беларусі пустацветны сад...**

**Над Беларуссю выбару пытальнік,
як вісельня, з якой сышоў Кастусь.
Ідзе сама ў глухую катавальню
знявечаная Маці-Беларусь.
Ідзе сама, прагорклую слязіну
глытаючы ў адчаі і журбе.
Ідзе сама, каб у бясчассі згінуць.
Ідзе сама, караючы сябе.**

**Ідзе Краіна — гордая княгіня.
Пераламіўся на пакору стан.
На вуснах Слова амярцвела стыне.
Кароль палюе — ненажэрны Стах.
Кароль палюе каля чорных замкаў —
на Крэўскай і Гальшанскай птах-зямлі.
...Не верыцца, што некалі тут ранкі
палотнамі бялюткімі плылі.
Не верыцца, што тут хадзіў Скарына,
што тут расстанна плакаў паланез.**

**Якая немач белы Край скарыла?
Які чужак на карак чэпка ўзлез?
Якое гора крылле надламала?
Якая здрада дых перацяла?
Тут ноч паходні калісь уздымала
і пад штандары вечныя вяла...
Тут калісь роду цёплая калыска
выгушквала Айчыне ваяроў,
і Перуноў агонь бунтоўна бліскаў —
на белым полі пунсавела кроў.
Было. Было. Змагарна паўставалі
і баранілі роднае гняздо.
А потым годна чары налівалі
жывою спавядальнаю вадой.
А потым зерне кідалі ў калыску,
каб з цемрыва прабілася святло.
І Бацькаўшчыне кланяліся нізка
за ўсё, што ўзыдзе і што ўжо было.
І нітавалі прадзівам нягасным
дзяцей і продкаў, неба й дол сыры.
Няўжо струхлела Роду перавясла?
Няўжо народ мой знічкаю згарыць?
Няўжо, няўжо і я сыду ў нябёсы
з бязроднага, спусцелага жытла?
Няўжо счарнелі на сусветных кроснах
ніты майго крывіцкага святла?
Няўжо, няўжо не збудзімся ніколі?**

*(Працяг на стар. 3)*

У НОВЫМ ГОДЗЕ — З "ЛіМам"?



***Падпісацца на "ЛіМ" не позна і сёння. Кошт падпіскі на месяц — 6 тысяч рублёў, на пяць месяцаў — 30 тысяч.***
***Наш індэкс — 63856***

ЛіМ

# КОЛА ДЗЁН

***Напярэдадні Новага года нас не пакідалі сумнівы наконт таго, ці варта і надалей рабіць "Кола дзён" такім, якім яно ёсць вось ужо цэлых пяць гадоў. Ці, можа, лепш зусім адмовіцца ад яго, як раяць нам тыя, хто лічыць, што "ЛіМ" апошнім часам занадта "запалітызаваўся", маючы на ўвазе найперш "Кола дзён". Хоць газетная калонка можа нейкім чынам уплываць на ацэнку зместу цэлага нумара толькі тады, калі чытаем адну яе і больш нічога. Спадзяёмся, сярод лімаўскіх чытачоў такіх няшмат... Непакоіла нас іншае: паўтарэнне з нумара ў нумар, з году ў год жанру і формы падачы інфармацыі ў рэшце рэшт прыядаецца, надакучвае і чытачам, і аўтару, і хочацца, часам, калі не цалкам, дык хоць нешта змяніць, паднавіць. Спыняе ж іншае: любое паўтарэнне, па сутнасці, ёсць пачатак традыцыі, а традыцыя — не самая горшая рэч, а, мажліва, і абавязковая для кожнага паважанага выдання. Тым больш, што ў тыднёвіку "Кола дзён" — практычна ідэальная форма дзеля таго, каб нагадаць чытачам важнейшыя падзеі мінулага тыдня, каб акцэнтаваць увагу на тым, што, магчыма, засталося "за кадрам", і каб пакінуць нашчадкам летапіс нашых дзён... Падумалі мы так і вырашылі пакуль нічога не мяняць. "Кола дзён" у бліжэйшым часе застанецца такім, да якога вы прывыклі. А там — пабачым...***

### ЗАКЛІК ТЫДНЯ

У навагоднім віншаванні беларускаму народу прэзідэнт краіны А. Лукашэнка звярнуўся да ўсіх грамадзян Беларусі, да палітычных партый і рухаў з заклікам — ператварыць 1996 год у Год еднасці і нацыянальнай згоды. Заклік падхапілі пакуль толькі прэзідэнцкае радыё і тэлебачанне. Лідэры партый сустрэлі прапанову прэзідэнта без воплескаў. Надта ж шмат зрабіў ён летась дзеля канфрантацыі практычна з усімі блокамі, партыямі, рухамі, каб сёлета яны кінуліся ў ягоныя абдымкі.

### СУПРАЦЬСТАЯННЕ ТЫДНЯ

Напярэдадні Новага года Канстытуцыйны суд зрабіў невялікі падарунак грамадзянам краіны: прызнаў не адпавядаючым Канстытуцыі Беларусі Указ прэзідэнта N 349, дзе гаварылася аб скасаванні некаторых ільготаў, найперш — для пенсіянераў. Рэакцыі прэзідэнта не давялося доўга чакаць. Ужо 30 снежня "Звязда" паведаміла, што старшыні КС Валерыю Ціхіні "прапанавана" неадкладна падаць у адстаўку. Прычым прапанова зыходзіла непасрэдна з Адміністрацыі прэзідэнта і ва ўльтыматыўнай форме: калі В. Ціхіня не напіша заяву сам, яго здымуць з пасады спецыяльным указам. Нагадаем, што гэта не першы "наезд" (у пераносным сэнсе, а, кажуць, быў і ў прамым...) на старшыню КС Беларусі. Па законе ж, па той жа Канстытуцыі, вызваліць яго ад пасады можа толькі Вярхоўны Савет і толькі пры наяўнасці пэўных прычын для таго. Развіццё падзей чакаецца ў бліжэйшыя дні і, мажліва нават, да пачатку першай сесіі новага Вярхоўнага Савета. Пакуль жа дэпутаты ВС ад фракцыі камуністаў і аб'яднання "Кансалідацыя" звярнуліся да ўсіх палітычных сіл з заклікам "дзейнічаць толькі на аснове законаў і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь". Якраз іх і ігнаруе прэзідэнт.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Бессаромна хлусяць тыя прадажныя газеткі, якія нахабна сцвярджаюць, што ў вашага прэзідэнта няма дасягненняў. Яны ўражваюць, дасягнута макраэканамічная стабілізацыя крызісу неплацяжоў і паўзучага росту цэн; айчынная прамысловасць даведзена да каматознага стану, а экспарцёры забылі, што яны калісьці імі былі; заменена 4 міністры, Генпракурор, старшыня праўлення Нацбанка і прызначаны 2 новыя віцэ-прэм'еры; 7 маіх указаў прызнаны неканстытуцыйнымі; знята галоўных рэдактараў дзяржаўных газет — 4; абясшкоджана амерыканскіх шпіёнаў, якія хаваліся пад аблічам паветраплавацеляў — 2; аказана дапамога брацкаму пакістанскаму працоўнаму сялянству продажам у страты сабе партыі трактароў МТЗ; закончана будаўніцтва тэнісна-аднаўленчага комплексу імя І. І. Іцынкова; куплены самалёт асабісты камфортны — 1 шт.; і аўтамабіль бранираваны — 1 шт.; зроблена спроба задушыць незалежную прэсу і многае іншае".

*(З "Рождественского обращения к гражданам Беларуси", надрукаванага ў газеце "Фемида", N 1 за г.г.)*

### ПАДАРУНАК ТЫДНЯ

Перад Новым годам БЕЛТА перадало радасную навіну, якую газеты надрукавалі пад загалоўкам: "Беларусь і Расія: у новы год — без даўгоў". Як і належыць навіне — яна ідзе без ніякіх каментарыяў, толькі голы факт: у тэлефоннай размове Б. Ельцын падтрымаў прапанову А. Лукашэнкі пачаць 1996 год з "нулявога варыянта". Гэта азначае для Беларусі, што Расія ў аднабаковым парадку спіша ўсе нашыя даўгі, якія сёння "з'яўляюцца галоўнай перашкодай пры рэалізацыі дасягнутых дамоўленасцей па расшырэнні эканамічнай інтэграцыі дзвюх брацкіх краін". Больш падрабязна пра тое, чым і як заплаціць Беларусь за "нулявы варыянт", калі ён адбудзецца, мы даведаемся пазней (ці позна?).

### ПАДМАН ТЫДНЯ

Увесь канец 1995 года газеты і тэлебачанне паведамлялі пра павышэнне з 1 студзеня 1996 года мінімальнага заробку "працоўных Рэспублікі Беларусь". Не паленаваўся некалькі разоў падкрэсліць гэта ў сваіх выступленнях і інтэрв'ю прэзідэнт. Дзякуй за клопат. Толькі элементарны падлік паказвае, што заробак (і, адпаведна, пенсіі) вырасце на 10 працэнтаў, а ўсе плацяжы, падаткі, штрафы, прывязаныя да мінімальнага заробку, — амаль у 2 разы. Што гэта, як не прыхаванае павышэнне цэн і не падман грамадзян?

### ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні прэзідэнт Беларусі прыняў акадэміка-эмігранта У. Платонава па ягонай просьбе. Акадэмік заявіў, паведамляе БЕЛТА, што гатовы працаваць у інтарэсах развіцця навукі Беларусі, бо гэтаму садзейнічае палітычная і маральна-псіхалагічная абстаноўка, што складваецца ў краіне. Вяртанне блуднага патрыёта адтуль, адкуль не вяртаюцца, у такім выпадку становіцца цалкам зразумелым.

### НА ЎЗМЕЖЖЫ ГАДОЎ

***Як мы паведамлялі ўжо, сёння на лімаўскіх інфармацыйных калонках развагамі пра год 1995-ы і спадзяваннямі на год 1996-ы дзеляцца маладыя літаратары.***

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

## СУМНЫ ЖАРТ



На зыходзе года пачуваюся прыблізна як вулічны факір, які зрабіў на вачах гледачоў надзвычай цяжкі трук, усе яму апладзіруюць, але ў капялюш ніхто не кідае ні манеткі, таму давядзецца небараку класціся спаць з пустым страўнікам. Гэта, канешне, жарт. Але, на жаль, сумны.

Што чакаю ад новага года? Як заўжды, стараюся не загадваць на яго нічога добрага: загадаю — не спраўдзіцца... Дай Божа толькі, каб не было горай, як у мінулым годзе. Гэтага, бадай, і дастаткова, каб не спакушаць лёс.

Максім ЛУЖАНІН

## МАЕ ЗЫЧЭННІ

*Каб жа Бог*
*Дапамог!*
*Ул. ЖЫЛКА*

**Заспеў ізноў я**
**Стрэць Новы Год.**
**Зычу Здароўя**
**Табе, Народ!**

**Хай марнаслоўе і безгалоўе**
**Ідуць на звод,**
**Хай белакроўе**
**і беспрацоўе,**
**Хай безграшоўе,**
**і шматграшоўе,**
**І плойма злыдняў,**
**благіх згрызот**
**Рынуць на спод,**
**Пад глыбокі лёд,**

**Усім жадаю**
**Плённых турбот:**
**Для ураджаю —**
**Добрых пагод;**
**Новым будоўлям —**
**Шпарчэйшы ход;**
**Майстэрням слаўным —**
**Вышэйшы ўзлёт;**
**Для кожнай справы —**
**Умелых рук,**
**Святою праўдай**
**Хай свеціць друк.**
**А наастатак**
**Падбай пра свята,**
**Хоць небагаты,**
**Зрабі дастатак.**

**Дык будзь жа шчодрым,**
**Наш Новы Годзе,**
**Каб словам добрым**
**Цябе праводзіць.**

**Ты ў рунь падцягнеш**
**Надзеі зерне,**
**Што Герб і Сцяг наш**
**На вежы вернем.**

**Каб жа Бог**
**Дапамог.**

Дантэ АЛІГ'ЕРЫ

## МАЛІТВА

**О бацька наш, які ўгары царуе**
**І шчодра верным першынцам сваім**
**Любоў невычарпальную даруе!**

**Тваёю воляй, іменем тваім**
**Спрадвеку ганарацца**
**ўсе стварэнні!**
**І шчырую хвалу прыносяць ім.**

**Святлом сваім зямныя сутарэнні,**
**Сышоўшы з неба, ярка асвяці,**
**Бо мы знаходзімся**
**ў замарачэнні —**

**І да цябе самім нам не дайсці.**
**Хай для людзей**
**жаданне пець "Асанна!"**
**Галоўным самым зробіцца ў жыцці.**

**Хай сыплецца на нас, як тая манна,**
**Твая любоў,**
**каб не пайшоў назад**
**Той, хто наперад сунецца старанна.**

**Як мы — людзям,**
**што бед прынеслі шмат,**
**Ты нам прабач, не беручы на ўвагу**
**Ні нашых спраў вялікіх, ні пасад.**

**Ты дабрачыннасць нашу і развагу**
**На здзек старому**
**ворагу не дай,**
**Які распустай наталяе смагу.**

**Не нам, а тым,**
**што ўслед за намі ўскрай**
**Дарогі вернай пойдуць, ты, о Божа,**
**Як паспрыяй, так і паспагадай!**

**Пераклад Уладзіміра СКАРЫНКІНА**

# БЕЗ КУЛЬТУРЫ НЯМА ДЗЯРЖАВЫ

Напрыканцы мінулага года ў памяшканні Тэатра юнага гледача прайшла беларуска-германская канферэнцыя "Дзяржава, культура, рынак", арганізаваная Інстытутам Гётэ ў Мінску і Міністэрствам культуры і друку РБ. З нямецкага боку ў канферэнцыі бралі ўдзел С. Вандэкрат, якая прадстаўляла Фонд культуры Зямлі Саксонія; прафесар Т. Хайнцэ, загадчык кафедры менеджменту культуры завочнага універсітэта Хаген; Д. Хохмут, кінарэжысёр з Берліна; доктар Х. Шэфер, загадчык літаратурнай часткі Тэатра на Руры (г. Мюльхайм-на-Руры). Ад Беларусі — кандыдат педагагічных навук М. Каралёў (Беларускі універсітэт культуры), намеснік міністра культуры і друку У. Рылатка, доктар мастацтвазнаўства Р. Смольскі (Акадэмія навук Беларусі), кандыдат мастацтвазнаўства Н. Фральцова (Беларускі саюз кінематаграфістаў).

У праграме канферэнцыі было пазначана наступнае: "Дзяржава і рынак: вечнае супрацьстаянне або магчымы кампраміс? Становішча мастацтваў у сучасным свеце: ці можа мастацтва выратаваць цывілізацыю або трэба ратаваць само мастацтва? Рынак і культура: больш свабоды ці больш залежнасці? Культура ва ўмовах крызісу: жаданне захаваць статус-кво ці імкненне да радыкальных перамен? Культура і грамадства. Культура для ўсіх? Ці з'яўляецца гэта задача галоўнай для XXI стагоддзя?" Праўда, спадарыня Вера Багальянц, кіраўнік Мінскага Гётэ-цэнтра, у вітальным слове папярэдзіла: "Не чакайце ад нас рэцэптаў". Бо, зрэшты, каб такія "рэцэпты" былі, не было б патрэбы ў падобных сустрэчах. "Не так ужо шмат розніцы паміж нашымі культурамі, як падаецца на першы погляд", — адзначыла далей В. Багальянц. Прынамсі, праблемы ў гэтай галіне, нягледзячы на розніцу жыццёвых узроўняў, сапраўды амаль аднолькавыя.

У. Рылатка засяродзіў увагу на працэсе фарміравання новых суб'ектаў культурнай палітыкі Беларускай дзяржавы і выказаў спадзяванне, што рынак здолее дапамагчы творцам у тых выпадках, калі дзяржава няздольна гэта зрабіць.

Х. Шэфер гаварыў аб індустрыі культуры, аб супярэчлівасці паміж культурай і рынкам. "Ёсць культура рынку і ёсць рынак культуры. Культура можа існаваць і без дзяржаўнай падтрымкі, але што ёсць дзяржава без культуры? Грошы, укладзеныя ў культуру — гэта грошы, укладзеныя ў будучыню". Дарэчы, доля культуры ў бюджэце ФРГ — 2,5%. Гэта столькі ж, колькі дзяржава выдаткоўвае на развіццё энергетыкі. Спонсары ў галіне культуры, на думку сп. Шэфера, не змогуць замяніць дзяржаву.

Р. Смольскі мяркуе, што эканамічны крызіс найбольш балюча адбіўся на тэатры, бо тэатр — гэта "дорогостоящая игрушка". Жывапіснае палатно можа пачакаць у музейным сховішчы свайго часу, свайго гледача, але спектакль не можа без гледача адбыцца. Між тым, па словах Неміровіча-Данчанкі, "в театр ходят состоятельные люди". А каго сёння ў нас можна лічыць "состоятельным"? Р. Смольскі выказаў думку, што беларускі тэатр павінен знайсці сваё месца ў сусветным рынку культуры і сусветнай сістэме "падзелу працы". Ёсць рэчы, якія мы робім альбо можам рабіць лепш за іншых — вось на гэтым і трэба сканцэнтраваць сродкі, высілкі, талент. Яшчэ сп. Смольскі сцвярджаў, што тэатру на раду напісана быць апазіцыяй любой уладзе.

Дзігмар Хохмут заявіў на пачатку сваёй прамовы, што паколькі ён паходзіць з былой ГДР, значыць, у нейкай ступені з'яўляецца нашым сваяком. Гаворачы пра тое, што сёння адбываецца ў краіне, якая калісь называлася Германскай Дэмакратычнай Рэспублікай, а цяпер стала "новымі федэральнымі землямі", сп. Хохмут папярэдзіў, што ён, магчыма, будзе выходзіць за межы нейтральнага стаўлення

*ФРАГМЕНТЫ*

# ПАВУК НОВЫ І ГАЛОДНЫ

Пераадольваючы свае цяжкасці і змагаючыся з уласнымі драконамі, мы часам забываемся на тое, што ў былым Савецкім Саюзе было шмат рэспублік, у тым ліку аўтаномных, а значыць, і праблемы іх у многім агульныя, і шляхі выйсця пралягаюць у адным кірунку.

"Справа перамены рабскай псіхалогіі з'яўляецца самай цяжкай. Бо і старая псіхалогія часам выступае ў новых апратках, і новую не заўсёды разгледзіш за апраткамі старымі. Пагэтаму людзі з непрывычкі пастаянна блытаюцца пры іх ідэнтыфікацыі. Гэтым можна, дарэчы, растлумачыць феномен многіх сённяшніх дэмакратаў, якія некалі не шкадавалі сябе, змагаючыся за вызваленне з-пад улады маскоўскага Крамля "чужых" народаў (палякаў, венграў, літоўцаў, грузінаў...), а цяпер, калі справа дайшла да народаў "сваіх", сталі ў таго ж Крамля "сабакамі на прывязі".

Атрымалася цікавая метамарфоза. Мы ведаем, што асноўным абавязкам нядаўніх абкомаўскіх структур было ажыццяўленне васальных функцый перад цэнтрам. Менавіта сеткай абкомаў правадыры замянілі губернскія ўпраўленні манархіі і звілі такім чынам сваю павуціну для народаў замест дзяржаўнай. Толькі праз доўгія 70 год народы зразумелі, што камуністычны павук адрозніваецца ад царскага толькі фразеалогіяй. А сутнасць іх як была, так і застаецца выключна феадальнай.

На сённяшні дзень, калі былыя васальныя абкомаўскія структуры з вядомых прычын вымушаны самі рваць павуціну рабскай залежнасці ад цэнтра (цяпер ужо "дэмакратычнага"), многія дэмакраты не толькі не спрыяюць гэтаму працэсу, але і дапамагаюць яго задушыць. Яны аргументуюць свае дзеянні тым, што новая "дэмакратычная" павуціна не можа, маўляў, быць благой. Аднак жыццё даказала ідэалагічным сляпым, што наколькі камуністычны павук аказаўся больш жорсткім за самадзяржаўнага, настолькі і "дэмакратычны" горшы за камуністычнага. І горшы менавіта таму, што новы і яшчэ галодны. "Дэмакраты" купіліся на тое, што малады павук папярэдне зжэр сваю родную матулю — камуністычную манаполію на ўладу.

Зараз такія людзі, як М. Шаймiеў, Э. Росель — паспяхова ці не — дэманціруюць манаполію ўлады крамлёўскага страшыдлы. Пагэтаму яны з'яўляюцца падзвіжнікамі дэмакратыі. І наадварот, людзі, якія жадаюць захаваць для народа Расіі сённяшнюю, закамуфляваную пад новы воблік адміністратыўную структуру, сталі вобаратнямі і рэакцыянерамі.

(...) Павінен сказаць, што любым грамадствам упраўляюць не тыя законы, каторыя прымаюць людзі, а тыя, што называюцца аб'ектыўнымі законамі сацыяльнага развіцця. У Расіі яны не супадаюць. таму і не кіруюць. Хоць ты лопні. А вось у Татарстане прынятыя людзьмі законы працуюць, нягледзячы на тое, што ўсемагутная маскоўская ўлада ім супроцьдзейнічае.

Сутнасць у тым, што згодна з аб'ектыўнымі законамі жыцця лідэры суверэнных рэгіёнаў Расіі не толькі маюць прывілею ствараць для свайго народа дэмакратыю, але і вымушаны — хочуць яны таго ці не хочуць. І наадварот, прэзідэнты Расіі ў цэлым вымушаны быць для свайго народа тыранамі — нават калі і не жадаюць гэтага".

**Ільдар САГАДЗЕЕЎ**

*(Газета "Татариле", N 36 за 1995 г.)*

---

да падзей. На ягоную думку, тая акалічнасць, што ФРГ прыдбала ГДР фактычна задарма, без вайны, барацьбы, можна нават казаць — нечакана, спарадзіла ў заходнікаў паблажлівае стаўленне да сваіх братоў на ўсходзе Германіі. Апрыёрна лічыцца, што на ўсходзе — усё кепскае, таму не вартае дзяржаўнае падтрымкі. Многім дзеячам культуры ГДР давялося перажыць шок, калі выдавецтвы, тэатры, аркестры, кінастудыя за адну ноч змянілі гаспадароў. Ці была патрэба так хутка ўсё прадаваць? — пытаюцца яны. Тым болей, што новыя гаспадары — не надта дасведчаныя ў галіне культуры, часта іх цікавіць толькі нерухомасць, якую яны потым скарыстоўваюць у зусім іншых, не культурніцкіх, мэтах. Сп. Хохмут быў вельмі здзіўлены, што ў Мінску людзі яшчэ ходзяць у кіно (у Германіі кінатэатры часта нерэнтабельныя) і што па-ранейшаму выдае прадукцыю наша кінастудыя. Ён раіў нам не спяшацца прыватызоўваць культурніцкія ўстановы, найперш трэба падумаць, што ўрэшце мы губляем і што набываем.

Н. Фральцова прадоўжыла тэму кіно ў рынкавай стыхіі. Праблему "мастацтва і ўлада" яшчэ неяк можна вырашыць, тут і вопыт пэўны ёсць, а вось "культура і рынак" — гэта цяжэй, лічыць сп. Фральцова. Сёння кінематограф павінен заваёўваць тэлегледача — вось галоўная думка яе выступлення.

Соня Вандэкрат распавядала, як у Саксоніі вырашаецца праблема фінансавання культуры, хто плаціць і за што, як размяркоўваецца падатковы цяжар.

М. Каралёў нагадаў, што мы сёння пры ўсёй нашай беднасці часам у галіне культуры дазваляем сабе "раскошу", немагчымую ў краінах, багацейшых за нас. Скажам, у шэрагу краін амаль няма стацыянарных тэатраў, у асноўным гастралюючыя групы. У Даніі няма кінавытворчасці, няма моцнай кінаіндустрыі і ў Англіі (прытым, што ангельскае тэлебачанне, на ягоную думку, — адно з лепшых у свеце). Чаму няма? Рынак...

Прафесар Т. Хайнцэ ў агульных рысах растлумачыў, што такое культур-менеджмент. Ён параіў нам зыходзіць у сваёй культурніцкай дзейнасці з рэальнай сітуацыі і доўгатэрміновай перспектывы. Напачатку някепска было б мець перспектыўны план хоць бы для сталіцы краіны — Мінска...

Потым была дыскусія, у часе якой прагучалі досыць цікавая інфармацыя, меркаванні. Так, напрыклад, у ФРГ у вышэйшых навучальных установах, якія рыхтуюць спецыялістаў для культуры, звычайная з'ява недабор. Бо не прыбытковая гэта сфера, на культуры не разбагацееш.

Прагучала і такая думка. Сёння дзяржава — вораг чалавека і чалавецтва. Трэба зрабіць так, каб дзяржава была інструментам грамадства, а не наадварот (грамадства — інструмент дзяржавы).

Сёння культура ў пэўнай ступені свабодная ад дзяржавы — і як аб'ект фінансавання, і як аб'ект рэпрэсій. Так што свабода мае два бакі. Няма сэнсу жаліцца, што сёння можа сканаць мастацтва "андэграўнда" — няўжо дзяржава будзе аплачваць мастацтва, аб'ектыўна накіраванае супраць дзяржавы? Дарма спадзявацца і на тое, што нехта будзе даваць грошы на культуру добраахвотна. Такога няма ў Германіі, такога не будзе і ў Беларусі. Таму і патрэбна дзяржаўная палітыка ў галіне культуры. Бо без культуры — няма дзяржавы.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

---

## З Нараджэньнем Хрыстовым!



Гравюра з тытульнага ліста "Акафіста Ісусу" з "Малой падарожнай кніжыцы" Францішка Скарыны. 1525г.


е пытайся, якое сузор'е большае мае значэньне ў жыцьці.
Валадар твайго лёсу і многіх сусьветаў Адзін.
Шлях над усімі шляхамі - зорка Славы Яго.
Сын Божы... Успамога твая і бліжэйшы прыстан.

Dainova

# СТЫНЬСЛОВА

*(Праця г. Пачатак на стар. 1)*

**Разгойдваецца роспачы ладдзя.**
**А ў Космасе блукае Панна-Воля**
**і засынае ў Бога на грудзях...**
**А з Космасу ўстрывожаны Ўладзімір**
**пытаецца балюча, "Дзе мой Край?",**
**дзе Дрэва беларусы пасадзілі**
**і скуль усходзіць іхняя зара?..**

**Зара ўзыходзіць з нашых помных сэрцаў.**
**Край вырастае з нашых даланёў,**
**І нам датуль не зікнуць, не памерці,**
**пакуль чутно дыханне каранёў.**
**Пакуль над хіжай прорваю бязвер'я,**
**над немасцю апошняе мяжы**
**адчыненыя Богавыя дзверы**
**і пуцявіна дольная ляжыць.**
**Ляжыць, як шнар балесны ў белым свеце,**
**дарога павяртання да сябе.**
**Яшчэ мы лёс наступнікам уквецім.**
**Каб толькі шлях крывіцкі ўгору ўзбег!**
**Каб толькі не спынялася Пагоня —**
**прадаўні наш, высокі, горды Герб.**
**І лягуць ускалыханыя гоні**
**даверліва пад мамін цёплы серп.**
**І залунае над Сусветам песня**
**блакіт-пралескай дайнае зямлі.**
**І чуйняе чаканае прадвесне**
**ажывіць заімшэлыя камлі.**

**І ў схаладнелы непраглядны морак**
**слязінаю гаручаю ўпадзе**
**нязбытная, нявыспаная змора,**
**каб развінуўся распачынны дзень.**
**І заспяваюць над сцішэлым Краем**
**нябесныя прачыстыя званы.**
**З высокага прасветленага раю**
**лятуць дамоў Купалавыя сны.**

**Лятуць дамоў знямоджаныя птахі:**
**на Беларусі ж Бог спрадвек жыве.**
**У Бацькаўшчыны грэемся пад пахай**
**і паміраем соладка ў траве.**
**А Бацькаўшчына сцежкі высцілае**
**у непазнаны неабсяжны свет.**
**Бяспомныя, мы ў бацькаў кут вяртаем**
**бяздумнае забыўлівасці след...**

**А без Айчыны хто мы ў свеце? Хто мы?**
**Навошта мы без голасу, імя?**
**Куды вяртацца ў радасці і стоме?**
**Ці прыме нас блудліўцамі зямля?**
**Ці нас, бязмоўных, на Зямлі пазнаюць?**
**Ці нас прывеціць зоркавы Ўсясвет?**
**Мая гарота горкая, скразная —**
**згубіўся абярожны запавет.**
**Згубіўся недзе ў прыцемках гасцінец,**
**што праставаў з прадаўнасці ў прадзень.**
**Маўчыць мая ліцвінская гасціна —**
**ні слоўца, ні пазнакі анідзе.**
**Маўчаць сцягі, саборы і пісьмёны,**
**альбо гавораць моваю чужой.**
**Наступнікаў гадуем без імёнаў**
**і аддаем пад цень чужых крыжоў.**
**Ні белы дзень, ні чорна ноч не збавіць**
**ад рабскае пакоры і нуды.**
**Не ўваскрасае ратавальна памяць —**
**не прарастае вера праз гады.**

**Над Беларуссю прамянее ранне.**
**...Над чыстым золкам выбару лязо.**
**Не дай нам, Божа, долю зноў параніць,**
**гісторыі перакруціць узор!**
**Не дай нам, Божа, са свае гасподы**
**у прысуседства-наймітства пайсці!..**
**Мой Божа! Дай відушчасці народу**
**НАРОДАМ на Радзіме прарасці!**

Эдуард АКУЛІН



## ЗА ГОМЛЕМ ТАКСАМА ПОСТМАДЭРНІСТЫ Е!..

**Схіл 1995 года ў маім жыцці стаўся неверагодна "крутым" і хуткаплынным. "Пад зоркаю Пагоні" і з "Крылом гітары за плячыма" (так называліся вечарыны, якія мне давялося падрыхтаваць і правесці на пачатку снежня ў Доме літаратара) я амаль 2 месяцы знаходзіўся ў своеасаблівым творча-арганізацыйным экстазе.**

**Вывеўшы на арбіту глядацкай увагі гэтыя дзве імпрэзы, я згубіў каласальную колькасць жыццёвай энергіі, але і набыў шмат... І ў першую чаргу — велізарную практыку кантактавання з людзьмі — артыстамі, пісьменнікамі, навукоўцамі, бізнесменамі. Яшчэ раз пераконваючыся ў праўамоцнасці вядомай народнай прымаўкі — "пад ляжачы камень вада не цячэ". Майму пакаленню, пакаленню 30-гадовых літаратараў, зараз вельмі бракуе ўмення "самараскруткі" — чым геніяльна валодаюць маладзейшыя, так бы мовіць, наш літар'ергард.**

**Гэта яны з імпазантнай саманадзейнасцю бяруцца карчаваць сацрэалістычнае "ляда" недзе пад Полацакам, і на вачах захопленых зявак з саюзпісьменніцкіх структур сублімуюць яго ў сучасны касмапляц беларускага постмадэрну. А тыя, каму не хапіла месца ў першых элітэкіпажах авангардовых "літшатлаў", не спяшаюцца засмучацца. Бяруць у рукі, што патрапіцца: тазікі, балеі, вёдры ды іншую звонкую галантарэю і грукаюць, бум-бам-ліцяць наўздагон сваім міжпланетна-касмапалітычным постмадэрнаўтам.**

**Вось чаму ў гэтым шуме-буме і ў самога ўзнікае дзіўнае патаемнае жаданне — дастаць з запыленых шуфлядаў рукапісы 10—15-гадовай даўнасці, сабраць пад адной вокладкай усе юначыя "мадэрнопусы" — глядзіш і атрымаўся б постновы па часе выдання, псіхадэлічны шэдэўр пад назвам "Паралельныя сны, або Спроба ўпісацца ў інтэр'ер сучаснага постмадэрну". Ды й выгукнуць праз усю айчынную літпрастору: — Хлопцы-палачане, а за Гомлем таксама постмадэрністы ё!..**

**Але гэта, як мне здаецца, ужо спадзяванні на 1996 год. А калі ўсур'ёз — хочацца ў наступным годзе прыдумаць таленавітую назву для свайго новага зборніка вершаў, праца над якім толькі пачалася.**

Уладзімір СЦЯПАН



## ГОД БЫЎ ШЧАСЛІВЫ

**Менавіта для мяне 95-ты год — шчаслівы. У нас з жонкай (напрыканцы гэтага года) нарадзілася дачка. І адным беларусам на гэтым свеце зрабілася болей. Усё маё жыццё закруцілася вакол немаўля, а іншыя праблемы, што здаваліся значнымі, імгненна здрабнелі. І я ўсё часцей згадваю фразу Ярослава Гашака: "Што значыць нейкі там обер-лейтэнант у параўнанні з веліччу прыроды..."**

**За мінулы год я склаў кніжку ўласнае прозы, зняў колькі фільмаў. Ад 96-га года я чакаю: што дачка будзе здаровaю, што змагу выдаць кніжку, што здыму яшчэ колькі фільмаў. А на большае загадваць не хачу.**

*Меркаванне*

# ЯКАЯ СПРАВА — ТАКАЯ І СЛАВА

"Беларускі Вашынгтон"... Што за гісторыя з геаграфіяй? Гэтак, паводле белтаўскай інфармацыі, назваў А. Лукашэнку, калі ён быў у ЗША, адзін тамтэйшы бізнесмен. Выпадак, вядома, прыемна ўражвае, але азначае, на добры розум, усяго толькі тое, што абедзве згаданыя асобы сталі першымі прэзідэнтамі сваіх краін. У вас ёсць яшчэ нейкія падставы, акрамя жадання сказаць камплімент "молодому политику", каб паставіць іх у адзін рад? Асабіста ў мяне, па вялікім рахунку, няма.

Энцыклапедычныя выданні розных гадоў і эпох згодна адзначаюць, што Джордж Вашынгтон увайшоў у гісторыю як знакаміты прагрэсіўны дзяржаўны дзеяч другой паловы XVIII стагоддзя. Ён узначаліў узброеныя сілы трынаццаці англійскіх калоній падчас вызваленчай вайны, у ходзе якой створана незалежная дзяржава — ЗША. Больш за дзвесце гадоў назад пад яго кіраўніцтвам выпрацавана Канстытуцыя краіны, якая з нявялікімі зменамі дзейнічае і цяпер. Ну, а што напішуць калі-небудзь у энцыклапедыях пра Аляксандра Лукашэнку, можна толькі здагадвацца. Затое мы, яго сучаснікі, на ўласныя вочы бачым, як ён цягне нас назад, у імперыю, крок за крокам здае суверэнітэт Беларусі, як не шануе прыняты Асноўны Закон нашай дзяржавы і разбурае яе канстытуцыйны лад.

Д. Вашынгтон і А. Лукашэнка — не інакш як антыподы, паміж імі знак роўнасці не да месца. Але сёй-той, каб дагадзіць начальству, абедзвюма рукамі ўхапіўся за "ацэнку" беларускага прэзідэнта, зробленую амерыканскім бізнесменам хутчэй за ўсё дзеля ветлівасці. Яна, маўляў, "заслугоўвае ўвагі", бо пачута з "вуснаў людзей, якія ведаюць цану, што іх продкі плацілі за свабоду і дэмакратыю". Так, амерыканцы касцямі лажыліся за сваю волю і незалежнасць, як гэта, дарэчы, робяць сёння чачэнцы. Нашы ж улады здзекуюцца з сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны, лічаць ворагамі тых, хто дбае пра яе нацыянальнае Адраджэнне і суверэнітэт.

Жорсткае падаўленне элементарных дэмакратычных свабод, укараненне аднаўладдзя, аднадумства і аднастайнасці на Беларусі не перашкодзіла яе кіраўніку выказацца ў Савеце па замежных справах Злучаных Штатаў у тым сэнсе, што нам ледзь не пагражае нейкае таталітарнае (можа, татальнае?) насаджэнне... дэмакратыі. На той сустрэчы, між іншым, прысутнічалі прадстаўнікі розных палітычных партый і рухаў, зразумела, тамашніх, а не нашых: для спаткання з партыйнымі дзеячамі сваёй краіны Лукашэнка пасля ўзыходжання на дзяржаўны Алімп ніяк не здолее знайсці часу. Але вернемся да прыгаданага выказвання. Што меў на ўвазе прамоўца — мабыць, небяспеку спаўзання да анархіі? Дык гэтаму ж спрыяе якраз той шырокі наступ на законнасць, які вядзецца ім самім. Пры чым тут, аднак, народаўладдзе?

Уласна кажучы, прэзідэнцкія пралікі пачаліся яшчэ дома, калі фарміравалася світа. Месца на борце, трэба думаць, было зашмат, бо паляцеў Аляксандр Рыгоравіч не звычайным рэйсавым самалётам, як гэта зрабілі каля сотні лідэраў іншых краін, а спецыяльным, дакладней асабістым. Тым не менш, не ўсе, хто, на мой погляд, мог спатрэбіцца на амерыканскай зямлі, аказаліся ў яго пад рукой.

...У горадзе Жоўтага Д'ябла нашы суродзічы стрэлі сп. Лукашэнку не надта абыходліва. У славян ёсць добры звычай вітаць дарагога госця хлебам-соллю, а эмігранты напрыдумлялі розных дзёрзкасцяў і штук — шэсце, мітынг, пікетаванне. Ды яшчэ з фантастычнымі патрабаваннямі, накшталт таго, што Беларусь павінна быць вольнай, дэмакратычнай, а цэнзуры, наадварот, на Беларусі не павінна быць зусім. Паспрабуй даўмецца, што тут да чаго.

Вось тут і быў бы больш вартым палкоўнік У. Замяталін. Ён ні ў якім разе не пакінуў бы ўбаку дзеянні нью-йоркскай мэрыі, якая дазволіла амерыканскім беларусам правесці вышэйпамянёныя акцыі. Прэзідэнцкі ідэолаг добра ведае, што такія непрыстойныя выбрыкі не практыкуюцца ні ў Іраку, дзе яму пашчасціла нядаўна пабываць, ні ў іншых сапраўды дэмакратычных краінах. Але асабліва пільна ён наглядаў бы за тамашняй "жоўтай" прэсай. Яму, мусіць, і не ўдалося б забараніць друкаванне і распаўсюджанне газеты "Вашынгтон таймс", апублікаваўшай брыдкі артыкул пад загалоўкам: "У Мінску — тыран старой школы". Затое замяталінскі пратэст, адрасаваны палаце прадстаўнікоў ЗША (на манер вядомага пісьма ў Дзярждуму Расіі), быў бы вельмі карысным.

Ну, а чаму маўчалі тыя, хто быў побач? Няўжо мэр Мінска У. Ярмошын не мог, няхай сабе больш-менш дыпламатычна, выказаць свайму нью-йоркскаму калегу адзіна правільны погляд на тую ж мітынгоўшчыну? Цікавячыся, напрыклад, як выканаўчая ўлада буйнейшага горада Злучаных Штатаў ажыццяўляе свае паўнамоцтвы, падзяліўся б вопытам забароны ў сталіцы Беларусі розных зборышч і разгону людскіх натоўпаў. Тут, як бы незнарок, закінуць бы слоўца за свайго шэфа, намякнуць на яго незадаволенасць паводзінамі беларускай дыяспары. І калі мэр Нью-Йорка кемлівы, дык — чым чорт не жартуе! — мажліва, папрасіў бы прабачэння ў Аляксандра Рыгоравіча.



*Малюнак А. КАРПОВІЧА*

Ён гэтага, дапраўды, заслугоўвае. Хаця б таму, што ў яго самога прыроджаная далікатнасць, якую неаднойчы дэманстраваў, калі быў дэпутатам. Яшчэ больш вытанчанымі сталі ягоныя манеры пасля прэзідэнцкіх выбараў. Відаць, менавіта гэта перашкодзіла яму самому зрабіць захады, каб абараніць сваё добрае імя. Мэр Нью-Йорка, зразумела, не старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі, яго не паклічаш "на дыван", нават разасланы ў шыкоўным нумары дарагога амерыканскага гатэля, дзе жыў наш прэзідэнт. (Дарэчы, Б. Ельцын, кіраўнік вялікай дзяржавы, задавольваўся сціплай гасцініцай пры прадстаўніцтве Расіі. Нічога дзіўнага тут няма: бюджэт Расійскай Федэрацыі пільна кантралюецца парламентам, а ў нас ім распараджаецца, паводле свайго меркавання, выканаўчая ўлада). Затое падчас абеду ў нью-йоркскага мэра, дзе прысутнічалі лідэры краін — членаў ААН, сп. Лукашэнка меў цудоўную магчымасць, каб узяць, як кажуць, сваё.

Прапанаваў бы напрыканцы прыёму, калі госці сядзелі ўжо пад градусам, тост: "За наведение порядка на улицах и площадях городов мира!". А каб лепей зразумелі намёк, няблага было б давесці тое, чым з трыбуны Генеральнай Асамблеі казыраць не з рукі. Наконт таго, напрыклад, што на Беларусі ў год паўвекавога юбілею ААН раз і назаўсёды скончана з рознымі акцыямі незадаволеных, іншадумцаў і іншых пазадкаў грамадства; што з коранем вырываецца такое дзікунства ў цывілізаваным свеце, як спроба газетных пісак замахнуцца на аўтарытэт першай асобы краіны...

Зацікавіліся б калегі падрабязнасцямі лукашэнкаўскіх "демократических преобразований" на Беларусі — і давялося б тады прыгадаць забыты ў нас апошнім часам пушкінскі радок: "Все флаги в гости будут к нам". А то жывём у цэнтры Еўропы, грукату бамбёжак і гармат, дзякуй Богу, не чуваць, аднак краіна — нібы ў стане аблогі: чужаземныя прэзідэнты не спяшаюцца ні візіты рабіць нашаму, ні яго запрашаць да сябе ў госці.

І, нарэшце, пра апошнюю, але далёка не дробязную прамашку Аляксандра Рыгоравіча. Такі бясстрашны ў барацьбе супраць шматлікіх унутраных ворагаў: ад контры, што акапалася ў нелігітымным парламенце, да ветэранаў, што не жадаюць пазбаўляцца часткі кроўнай пенсіі, — ён не адважыўся паглядзець у вочы выхадцам з Беларусі, якія пратэставалі супраць яго мудрай палітыкі. А чаму яны не разумеюць яе і лічаць, мякка кажучы, мудрагелістай? Ды таму, перш за ўсё, што пазбаўленыя жыватворнага ўплыву нашага падкантрольнага друку. І калі б ён выкраіў для палітгутаркі з імі хоць бы гадзіну-другую з таго тыдня, што правёў у Штатах, дый далучыў да гэтай добрай справы сваё атачэнне, дык быў бы шанц забіць адразу двух зайцоў. І ліквідаваць палітычную непісьменнасць суайчыннікаў, і даказаць эфектыўнасць адзінага паліт-дня. У самой цытадэлі капіталізму! Паспрабаваў бы тады хто-небудзь хіхікнуць з нагоды яго бліскучай ідэі эпохі рынкавага сацыялізму!

А я пастараўся ўявіць сабе ўжо перавыхаваных на той палітінфармацыі нашых суродзічаў. Зажмурыў вочы і ўбачыў іх у аэрапорце перад адлётам "бацькі" дамоў. Яны трымалі ў руках чырвона-зялёныя сцягі і плакаты са словамі ўдзячнасці "беларускаму Вашынгтону", напісанымі па-руску...

Жарты жартамі, але ёсць і сур'ёзнае пытанне: ці зменяць калі-небудзь беларусы, якія пачуваюць сябе менавіта беларусамі, незалежна ад месцапражывання, свае адносіны да сп. Лукашэнкі? Гэта, упэўнены, залежыць выключна ад самога прэзідэнта. Будуць яго справы дастойныя суверэннай дэмакратычнай краіны — будзе і падтрымка іх з боку кожнага, хто бярэ блізка да сэрца лёс маці-Айчыны.

На жаль, пасля заакіянскага вояжу ён зрабіў новыя крокі на шляху да аўтарытарнага рэжыму. На ўзбраенне, пэўна, ці не бярэцца ўжо, шануючы вас, вопыт Германіі 30-х гадоў, калі там уладарыў ашалелы Гітлер. Ну, што ж: якая справа — такая і слава. І калі гэтая слава благая, дык наракаць трэба на сябе, а не на тых, хто пратэстуе супраць ганебнай справы.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

***Сустрэча сяброў творчага аб'яднання "Літаратар" (пры часопісе "Першацвет") з народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам праходзіла ў адзін з першацветаўскіх панядзелкаў, а менавіта 11 снежня 1995 года — назаўтра пасля выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета краіны. Апошняя акалічнасць істотна паўплывала на змест гутаркі — асноўным прадметам яе з першых жа хвілін зрабілася палітыка.***

***Як ні дзіўна, сур'ёзнасць і "дарослась" гэтай тэмы нікольхі не збянтэжыла першацветаўцаў, наадварот, большасць пытанняў іх сведчыла пра непасрэдную зацікаўленасць літаратурай моладзі ў тым, што адбываецца ў беларускай палітыцы... Ды ўсё ж малады ўзрост суразмоўцаў Ніла Гілевіча часам браў сваё, і па-дзіцячы наіўнае пытанне адной зусім юнай першацветаўкі "Дык вы хто болей — паэт ці палітык?", мабыць, крыху збянтэжыла ды прымусіла горка ўсміхнуцца якраз не слухачоў, а самога паэта, — усміхнуцца ці не з крыўдай на ўласную, несумненна, суджаную долю паэта і палітыка, паэта і грамадскага дзеяча, зрэшты, паэта-палітыка... А тым не менш згаданае пытанне, відавочна, мелася быць крыху іншым: "Вы ж паэт, любімы і паважаны паэт, а гаворыце нам пра палітыку... Чаму?" А вось чаму, чаму пра палітыку вымушаны гаварыць паэт, чаму не гаварыць пра яе сёння наогул немагчыма і чаму і для чаго ён прыйшоў у яе — з адказаў на гэтыя (адразу не зададзеныя, але патэнцыяльна непазбежныя) пытанні і пачаў сваю гутарку Ніл Сымонавіч.***

# "ХОЧАЦЦА ВЕРЫЦЬ, ШТО НАШЫ ЛЮДЗІ ПАЧАЛІ ДУМАЦЬ..."

## НІЛ ГІЛЕВІЧ — У СЯБРОЎ ЛІТАБ'ЯДНАННЯ "ЛІТАРАТАР"

— У мяне сёння крыху палепшыўся настрой. Учора было трывожна надзвычай, сёння — як бы павесялела на душы. У тым, што адбылося на выбарах, я хачу бачыць нешта больш істотнае, чым проста прыватны факт. Канешне, яшчэ рана гаварыць пра нейкі там перапом ці зрух, аднак жа пачатак нейкага пачатку, думаю, трэба ў гэтым бачыць. Мне здаецца, што нашы людзі пачынаюць думаць. А ўсё добрае, мудрае зыходзіць ад людзей тады, калі яны думаюць. І ўсё дрэннае, нядобрае — калі не. Калі б думалі і асобныя людзі, і народы, тады, відаць, і ўсё чалавецтва пазбегла б вялікіх няшчасцяў, якія здарыліся ў гісторыі. Ну, напрыклад, папярэджваў жа Бісмарк: "Богам прашу, толькі не хадзіце на Расею вайной..." Не, замест таго, каб падумаць і ўважыць перасцярогу, усё-такі пайшлі — пайшлі вайной, і адзін раз, і другі. А вынік...

Дык вось, вяртаючыся ў дзень сённяшні, хочацца верыць, што нашы людзі пачалі думаць. Можа, гэта якраз і ёсць самы пачатак, а далей — далей будзем думаць больш і глыбей. І, можа, цяпер не трэба надта і засмучацца, што ў новы Вярхоўны Савет прайшло шмат дэпутатаў ад партый, якія выступаюць супраць нашай свабоды і незалежнасці, што за чатыры туры выбараў у парламент не прайшоў ніводны прадстаўнік БНФ. Кепска, канешне. Было б непараўнана лепш, каб хаця б некалькі чалавек, хаця б самыя вядомыя франтаўцы сталі дэпутатамі. Але, паўтаруся, не будзем засмучацца, бо сёння самае важнае — не дапусціць дыктатуры адной асобы, аўтарытарнай улады. Здаецца, людзі гэта зразумелі, у тым ліку і дэпутаты новага склікання.

Я не ведаю, у якой меры вы цікавіцеся палітыкай — вялікай палітыкай, ад якой сёння залежыць лёс нашай Беларусі, народа нашага, нацыі нашай, а значыць, і літаратуры нашай. Звычайна "маладому з маладою маладое ў галаве", ну а такая ўжо перавага, "прэрагатыва" старых людзей — перш за ўсё думаць пра палітыку, палітыку ў шырокім сэнсе слова: што адбываецца, куды ідзём, што нас можа чакаць і г. д. Палітыка — вельмі складаная рэч. Вы вось можаце спытаць: ну, а чаго ж палезлі ў яе? Паспрабую растлумачыць. Увогуле паэтам лепш не лезці ў палітыку. Маю на ўвазе — непасрэдна ў палітычную дзейнасць. Вершы ці прозу пісаць з палітычнай "падлівай" — гэта натуральна. І ў Пушкіна, і ў Купалы мы знойдзем дзесяткі, сотні вершаў, калі не палітычнай, то ва ўсякім разе грамадзянскай лірыкі. У паэзіі таго ж Купалы перыяду першай рускай рэвалюцыі, усяго наступнага дзесяцігоддзя, перыяду БНР, грамадзянскай вайны — палітычных матываў не абыдзеш. Але гэта вершы, а іншая рэч — трапіць у становішча, калі трэба кожны дзень хадзіць і думаць, што зрабіць, якім чынам зрабіць, каб выстаяць, каб не даць нас расталтаць, зламаць і адкінуць назад, каб хоць яшчэ на адзін маленькі крок прасунуцца наперад у нацыянальным адраджэнні. А гэта ўжо, канешне, палітыка. А дзе палітыка — там барацьба за ўладу, дзе барацьба за ўладу — так ні з чым не лічацца. Будзь ты вельмі паважаны ў народзе чалавек, але тыя, што рвуцца да ўлады, на гэта зважаць не будуць...

У канцы 1988-га я балатаваўся ў Вярхоўны Савет СССР. І недзе на палавіне дарогі я сам сышоў з дыстанцыі. Мне стала невыносна: я на ўласнай скуры адчуў, што значыць укачацца ў бруд палітычнай барацьбы — барацьбы за ўладу. Ну, вось, напрыклад, прыходзіш на перадвыбарчую сустрэчу, і тут пачынаецца. "У меня вопрос: сколько вам лет?" Адказваю. Тады: "А вам не стыдно в таком возрасте претендовать?" Кажу: "Не, не сорамна. Малады ўзрост — гэта вельмі добра, калі збіраешся жаніцца, а дэпутату Вярхоўнага Савета, апрача маладой энергіі, патрэбны жыццёвы вопыт, дасведчанасць, мудрасць, калі хочаце". Падымаецца другі: "Я ничего спрашивать не буду, только скажу. Запомните и десятому закажите: никогда не голосуйте за этого человека! Я приходил однажды в Дом литератора, я слышал, что он говорит!" Разумееце, і ўсё гэта — пырскаючы слінай. Вось тут і задумаешся, што такое палітыка...

Тады, у 88-м, я думаў, што сышоў з дыстанцыі ўжо назаўсёды. Але недзе праз год пачаліся вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. І вось мае лепшыя сябры пачалі запэўніваць мяне: абавязкова трэба ісці — трэба ісці, каб у беларускім парламенце былі людзі, якія б змагаліся за нашу справу. Гэта ж канец 89-га быў: ТБМ працуе, БНФ ужо ўтварыўся, карацей кажучы, прыйшлі спадзяванні, што нарэшце настаў час вялікіх перамен у нашым гістарычным лёсе. І я тады, як кажуць, горка ўсміхнуўся, маўляў, не мінуць мне гэтай долі: трэба ахвяраваць часам, творчасцю — няхай яшчэ паляжаць усякія там задумы празаічныя і паэтычныя, пайду змагацца! Вось так і выйшла, што на цэлых пяць гадоў, нават амаль на шэсць ужо...

Цяпер у нас сітуацыя вельмі неважнецкая. Божа мой, яшчэ два гады таму, калі быў на чале Вярхоўнага Савета Шушкевіч і калі мы ўсе адчулі, што ідзе працэс беларусізацыі, я радаваўся і казаў сам сабе: "Няўжо дажыўся-такі і будзе лёгка паміраць? Няўжо дачакаўся таго, што хацеў убачыць? Няўжо?.." І вось, дачакаўся! Раптам усплываюць нейкія чэрці з балота, і ўсё закруцілася ў другі бок. Ды так закруцілася, што заўтра можа быць яшчэ горш, чым было. Падумаць толькі: цяперашні закон аб мовах, які пакуль існуе, а неўзабаве будзе перараблядца, быў прыняты яшчэ папярэднім Вярхоўным Саветам — са згоды ЦК КПБ і, зразумела, са згоды ў Маскве. І вось парадокс: камуністы зразумелі, што зайшлі вельмі далёка, што паспяшаліся ў справе дэнацыяналізацыі, што трэба рабіць паслабку (інакш нацыянальная інтэлігенцыя ў кожнай рэспубліцы проста ўзарвецца), — а цяпер людзі, якія знаходзяцца пры ўладзе, гэтага не разумеюць і хочуць задушыць тое, што дазволілі нават камуністы, хочуць перарабіць закон аб мовах у сваіх подлых інтарэсах!

А між тым сітуацыя магла б так і не скласціся. Сёння мы мелі б куды большы выйгрыш, калі б дэмакратычныя сілы былі больш здатнымі да кампрамісу, былі большымі дыпламатамі, а папросту кажучы — больш хітрымі. Я тлумачыў у свой час, гаварыў на першых пасяджэннях аргкамітэта БНФ, і нават у друку тады выступіў, што мы не можам дакладна капіраваць Прыбалтыку, як і не можам рабіць стаўку на антырускую карту, будзем помніць: літоўскі камуніст — перш за ўсё літовец, а тады ўжо камуніст. А ў нас — наадварот. Рэальнасць нашая — зусім не тая, што ў Прыбалтыцы. А таму спярша мы павінны прайсці пераходны перыяд, на які спатрэбіцца, можа, 30 ці ўсе 50 гадоў — ну і хай сабе, у нас вечнасць наперадзе! Але ж затое мы будзем мець верную гарантыю на тое, што памалу-патроху ды прыйдзем да таго ўзроўню нацыянальнай свядомасці, якая ёсць у Літве ці ў Латвіі... Іншая рэч — калі б нам удалося ў свой час адстаяць БНР і пажыць хаця б дваццаць гадоў незалежнымі, тады і мы, канешне, маглі б цяпер усё пачынаць так, як пачалі літоўцы, латышы, эстонцы. Той, хто ідзе ў палітыку, павінен усё гэта разумець, бачыць рэальны стан рэчаў...

Гэта — першае, чым я хацеў з вамі падзяліцца, — каб вы зразумелі, чым я жыву... А каб скончыць першае, я ўсіх вас хачу запытацца: вы ўчора хадзілі галасаваць? Калі хадзілі, то добра зрабілі. Бо сама па сабе лепшая доля ніколі не прыйдзе. Ну, а як не прыйдзе лепшая доля, што ж тады будзе з намі і з літаратурай нашай?!

Цяпер — другое. Як бы ні было нам сёння цяжка і горка, што б нас ні чакала яшчэ наперадзе, але, на злосць усім душыцелям беларушчыны, я хачу выказаць сваю радасць — радасць за ваш часопіс, за вашыя творы, за вас саміх. Гэта ж ажно пяць пакаленняў увайшло ў літаратуру за маёй памяццю (калі лічыць так: кожныя дзесяць гадоў — адно пакаленне), і ніколі, ніколі не было нічога падобнага, ніколі яшчэ дагэтуль маладыя таленты не ішлі так густа ў літаратуру. Дзесяткамі, сотнямі! І прычым — невыпадковыя людзі. Усяго 17 ці 18 гадоў — і з такой упэўненасцю пачынаць, падаваць свой голас! З такой вершатворнай культурай! Я вось пагартаю "Першацвет", пачытаю, пагляджу — дый кажу сабе ў паўголаса: а вось, скулу вам, спадары-нядобразычліўцы! Калі столькі моладзі, гэта значыць, нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, людзей-творцаў ідзе ў літаратуру — то не задушыце вы нас, як бы ні стараліся! Ад гэтага — і радасна. І вы ведаеце, што гэта ж не проста так, гэтаму ж ёсць тлумачэнне нейкае. Можа быць, я з ходу і не растлумачу, чаму і адкуль, як грыбы пасля дажджу... Але ўсё-такі я хацеў бы звязаць гэты феномен, феномен "Першацвета", з тым, што пачалося дзесяць гадоў таму: з перабудовай, з рухам за нацыянальнае адраджэнне, з беларусізацыяй. Відаць, усё гэта спрычынілася. Калі ў школе настаўнік пачынае гаварыць вучням усю праўду пра лёс, культуру, гісторыю нашага народа, чытаць вершы, якія раней былі забароненыя, — такое бясследна не праходзіць. Гэта ж толькі цяпер мы пачынаем адкрываць дзесяткі выдатных імёнаў: Гарун, Ластоўскі, Геніюш... Ды і Купалу пачынаем чытаць нанова! Я, напрыклад, не мог у вашым узросце пачытаць добрую сотню бадай ці не самых лепшых Купалавых твораў. Толькі ўжо будучы аспірантам, маючы доступ да архіваў, змог пазнаёміцца з імі. Дык я — прафесіянал-філолаг. А што казаць пра масавага чытача?.. Не памылюся, калі скажу: вы прыходзіце ў літаратуру ў шчаслівы час. Я не думаю і зусім не хачу думаць, што паўторыцца нешта такое, як ужо было гэта ў трыццатыя гады. Час не той, свет вакол не той, дый у нейкую гістарычную справядлівасць я ўсё ж веру. Мне здаецца, што не маюць рацыі тыя, хто кажа: надта лёгка нам далася незалежнасць, трэба за яе ўсё-такі плаціць. З гэтым не магу пагадзіцца. Як падумаеш пра наш лёс, дык хіба можна сказаць, што танна нам каштавала наша незалежнасць? Хіба яна далася нам малою цаной?! Давайце ўдумаемся: у 1936 годзе ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі было каля 100 чалавек, а ў канцы 38-га — усяго 12. У маладым яшчэ ўзросце загінулі Хадыка, Маракоў, Зарэцкі, Калюга, Каваль, Мікуліч... А што кожны з іх мог бы зрабіць у літаратуры!.. Гэтак жа выразалі і тэатральную нашу інтэлігенцыю, і мастакоў, і кампазітараў. А што значыць вывезці сотні тысяч лепшых людзей беларускай вёскі ў час калектывізацыі? Не басякоў ды п'яніц, а самых руплівых, працавітых, разумных гаспадароў! Іх называлі кулакамі, серадняками, падкулачнікамі, а гэта былі проста лепшыя, найбольш культурныя сяляне, якія выпісвалі аграномічную літаратуру, газеты чыталі, дзяцей вучылі гаспадарыць. І вы ўдумайцеся толькі: Паўлікі Марозавы, замест таго, каб шкадаваць і плакаць, што вывозяць на змор-пагібель добрых людзей за нішто, беглі ўслед і радаваліся. А чаму? Таму што ім паспелі ўжо закінуць д'ябла ў дзіцячыя душы: маўляў, вось і добра, іх выселяць, а мы пабяром іхняе ўсё... Гэтак жа і ў 17-м было. Забіралі, цягнулі з панскіх маёнткаў дываны, ложкі, посуд. Ну ды гэта ладна. А бібліятэкі? — у кожным жа маёнтку была бібліятэка, дзе, можа, захоўваліся рарытэты, якім і цаны няма! А іх — на падпал, у печ, на самакруткі!..

Гэта ўсё — да пытання аб нашай культуры і нашай незалежнасці. Без культуры апошняе не будзе. І тое, што маладая інтэлігенцыя ў нас становіцца ўсё больш нацыянальна свядомай, на схіле гадоў мяне вельмі радуе. Сёння ідзе самы сапраўдны наступ на культуру. Што ж, значыць трэба супраціўляцца. А самая лепшая форма супраціўлення — гэта тварыць добрыя, таленавітыя рэчы. Калі будуць з'яўляцца выдатныя кнігі, спектаклі, песні, скульптуры, архітэктурныя збудаванні, і ўсё гэта будзе прызнаваць свет, — цяжэй будзе распраўіцца з намі. Слынны таленавітасцю народ знішчыць немагчыма.

**— Ніл Сымонавіч, вы кажаце: "народ", — і, напэўна, усё ж такі верыце ў народ. Але ці не падаецца вам, што менавіта ў гэтым і крыецца памылка нашай інтэлігенцыі — былой і сучаснай? Ці не думаеце вы, што наіўнасць нашай інтэлігенцыі ў стаўленні да народа адно перашкаджае ёй у яе ж памкненнях?**

— Пытанне не з простых. Сапраўды, наша інтэлігенцыя была доўгі час у стане наіўнасці. Больш таго, яна і ёсць такая — наіўная, мяккая, даверлівая. Можна гэта і па-іншаму назваць, але тое, што ў нашым беларускім характары такія рысы ёсць, — несумненна. Гэта — наш гістарычны набытак, менталітэт нашага народа. Таму і нядзіўна, што і нацыянальна свядомая інтэлігенцыя, якая ёсць часцінка народа, гэткая ж па сваім характары, як і сам — **беларускі** — народ. Вы ж паглядзіце, з каго наша новая літаратура пачыналася, адкуль наша інтэлігенцыя выходзіла. З самых нізоў выходзіла. Нават калі хто і меў тытул шляхціца, то які гэта быў шляхціц? Найчасцей — засцянковы... У свой час такой жа сялянскай у сваёй масе была балгарская інтэлігенцыя, але, напрыклад, пра Польшчу ці Чэхію гэтага не скажаш. Вы лічыце, што наша інтэлігенцыя не хацела і не хоча бачыць, што народ наш цёмны і забіты? Але ж якраз бачыла і бачыць! Багдановіч яшчэ восемдзесят гадоў назад напісаў: "Народ, Беларускі Народ! Ты — цёмны, сляпы, быццам крот".

Галоўную прычыну нашых бед, думаю, трэба бачыць у тым, што з нас непараўнана ў большай меры, чым з каго, выбівалі і выбілі пачуццё нацыянальнай годнасці. І што ж дзівіцца, што народ цёмны, калі нават дэпутаты парламента прагаласавалі вясной за рэферэндум, а значыць, за тое, каб адмяніць нацыянальную сімволіку, устанавіць дзве дзяржаўныя мовы. Якая ж у іх свядомасць — нацыянальная? Патрыятычная? Ці вось яшчэ: нідзе ў былым СССР, апрача як у Беларусі, не было такога, каб на чале дзяржавы стаялі людзі, якія, хоць і карэннага паходжання, а не могуць гаварыць на мове свайго народа. Вось вам сведчанне таго, як у нас далёка зайшло ў сэнсе нацыянальнага нігілізму. Мы ўвесь час скасабочвалі погляд на гісторыю — глядзелі толькі ў адзін бок. Адно пачынаем разумець, адкуль ішло самае для нас страшнае... Таму, што датычыць сучаснай нашай інтэлігенцыі, думаю, яна ж не ўраджай стагоддзяў, ураджай страшэннага ўціску. Спатрэбіцца, як я ўжо казаў, яшчэ многа-многа часу, каб наша свядомая інтэлігенцыя змагла апрацаваць душу народа, перарабіць яе на беларускі лад, вярнуць народу пачуццё яго нацыянальнай годнасці...

**— Але ж для таго, каб "апрацаваць душу народа", патрэбна ўлада. А яна ж, вядома, у адноснай ступені, была ўжо ў дэмакратаў. Ці не вінаватыя яны самі ў тым, што страцілі нават і тое невялікае, што ў іх было — страцілі дзякуючы ўсё той жа сваёй мяккасці і наіўнасці?**

— Я разумею, што і каго вы маеце на ўвазе. Цяпер многія абвінавачваюць Шушкевіча ў тым, што ён не скарыстаў магчымасцяў. Але ж у тым і "бяда", што і Шушкевіч, і многія іншыя дэмакраты, — гэта людзі культурныя. Яны

*(Працяг на стар. 12)*

Галіна БАГДАНОВА



## БОЛЬ І СОРАМ

**Мінулы год быў годам вялікіх страт. Памёр бацька. Барыс Сачанка. Мы страцілі ў якасці дзяржаўных свае гістарычныя сімвалы — герб і сцяг. Мы страцілі ў якасці адзінай дзяржаўнай беларускую мову — светлага анёла-ахоўніка нашае зямлі. Мы страцілі ў рэшце рэшт апазіцыю БНФ у парламенце.**

**Кажуць, што выпрабаванні вучаць людзей думаць. Але думаць мне замінаюць боль і сорам. Сорам перад дзецьмі за тое, што ў мікрараёне Сухарава, дзе мы жывём, засталося ўсяго некалькі беларускіх класаў, а новая школка поабч з нашым домам, у якую яны марылі пайсці, — цалкам рускамоўная. Сорам перад жыхарамі іншых дзяржаў за тое, што можам дазволіць біць да крыві парламентарыяў і рваць на шматкі свой дзяржаўны сцяг.**

**Я знямела. І мяне балюча раняць сёння і рускамоўныя артыкулы ў "Свабодзе" (з дзяцінства на дух не пераношу наўмыснае "трасянкі"!), і нягеглае вымаўленне радыёжурналістаў, якім пэўна ж загадалі часцей гаварыць па-руску (а хіба ж магчыма правільна гаварыць па-руску з беларускім фанетычным апаратам!?).**

**Гэта ўсё фон, на якім мы з сям'ёю сустракаем Новы 1996 год. А ў душы маёй, як заўжды, спеліцца адна-адзіная малітва...**

**Дай Бог усім нам Любові і Цярплівасці!**

Пятро ВАСЮЧЭНКА



## ЧЭРСТВЫ АКРАЕЦ ПРАЎДЫ

**Некалі Алесь Адамовіч пад уражаннем крывавага досведу другой сусветнай вайны і магчымых апакаліптычных наступстваў вайны "халоднай" праказаў: "Жыццё начыталася Дастаеўскага — і пераўзышло яго". Сёння, напрыканцы 1995-га, уражанне такое, быццам жыццё начыталася Оруэла, і мы апынуліся ў "1984-ым". Некаторыя прадстаўнікі афіцыйнай прэсы кінуліся засвойваць "навамоўе". З тэлеэкрана гледачоў частуюць "хвілінамі" і "гадзінамі" нянавісці, распачаўся актыўны пошук "дзяцей хлусні".**

**Інтэлігенту, які жыве напрыканцы XX стагоддзя, у эпіцэнтры інфармацыйнага выбуху, цяжка адгарадзіцца ад усяго гэтага ў вежа са слановае косткі. Бо інфармацыя для яго — што вада для рыбіны, і мусіць глытаць ваду з атрутай, каб адфільтраваць распушчаны ў ёй кісларод.**

**Развітанне са старым годам можна ўвасобіць у філалагеме універсальнай бібліятэкі, дзе сівенькі адвечны Бібліятэкар бярэ ў вас з рук фаліянт з надпісам "1995" на карэньчыку і выдае наступны. І ў першым, прачытаным ад коркі да коркі, чужы почырк пазначыў тое, што было: і травеньскую ганьбу, і ўрокі нянавісці, і жыццё паводле Оруэла. А новы выглядае так, як быццам толькі-толькі выйшаў з "бумбамлітаўскай" друкарні: чыстыя, нечапаныя старонкі. Пытанне хіба адно: чыім почыркам на гэты раз пачнуць запаўняцца старонкі?**

**Жадалася, каб літаратары пазналі б у гэтым будучым томе ўласны почырк. Мне думаецца, што сённяшняга чытача можа прывабіць і чэрствы акраец праўды. Проста праўды. Зрэшты, і ў містыфікацыі, літаратурнай гульні таксама ёсць свая праўда, тая адэкватнасць быццю, якой мы прагнем. Няма праўды ў адным — маўчанні. Маўчанне для літаратара сёння — гэта непрафесійна.**

*Уражанні*

# ПРАЦЯГ МАЙГО ЖЫЦЦЯ

## АБГРУНТАВАННЕ ФОРМЫ

"Судовы працэс, што праходзіў на працягу апошніх некалькіх тыдняў, вельмі нагадваў цырк, хаця было б даволі складана зацягнуць сланоў у будынак суда", — пісаў журналіст Вудзі Ален у адным са сваіх артыкулаў. Падобная сітуацыя назіраецца і ў сучаснай крытыцы: мы спрабуем уціснуць велізарныя (па ролі і сэнсе) творы ў стойла, збітае з вызначаных некалі тэрмінаў і дэфініцый. Нашыя намаганні пісаць пра паэтаў-рамантыкаў ці сюррэалістаў нагадваюць спробу растлумачыць катэгорыю трагічнага пры дапамозе лексікі кулінарнай кнігі.

Мы даўно ўжо задушылі, як непажаданае дзіця, аб'ектыўнае адчуванне патрабаванняў часу. Нельга рэалістычны раман аналізаваць з пазіцыі постмадэрнізму. Але нельга і авангардысцкую літаратуру анатаміраваць наборам акадэмічных фраз.

Рэфлексійнасць сучаснай прозы проста **вымагае** адпаведнай рэфлексіі крытыка (звернем увагу на шматлікія эсэ). "Літаратура люстра" не мае патрэбы ў "цэласным аналізе". Крытык можа толькі інтэрпрэтаваць яе з мэтай падштурхнуць чытача да ўласнай інтэрпрэтацыі. Сегментарнасць сучаснай прозы (па-мастацку асэнсаванае чляненне інфармацыйнай плыні на зручныя для ўспрымання "кавалкі") і росквіт "малых" форм (абразкі, мініяцюры, імпрэсіі, экспрэсіі, пункціры і г. д.) спараджаюць і сегментарнасць літаратуры крытычнай (літаратуразнаўчыя абразкі, мініяцюры, крытычныя нататкі і г. д.).

Я хачу ісці за Анатолем Франсам, які заклікаў крытыка "вяршыць шэсце паміж шэдэўрамі". Не трэба несціся паперадзе аўтара ці наступаць на хвост ягонай фантазіі. Магчыма, тады крытыка стане **арыгінальнай.** Роўнай сярод роўных.

●

Іду разам са снегам па горадзе жыцця свайго. Адчуваю настальгію па свеце, які ёсць. З нетутэйшых вокнаў струменіцца лучнасць са мною і снегам, што прыйшоў паглядзець на гэты горад. Цені лістоў брыдуць у той бок, адкуль з'явіўся снег. Яны ўжо страцілі імпэт таго меланхалічнага аптымізму, які рабіў іх знакамі Прысутнасці. Аднак нішто не жыве даўжэй на гэтым наіўным свеце, чым ілюзія значнасці. І за натоўпам зданяў-лістоў мроіцца нам са снегам шчымліва-недасягальная таямніца сэнсу.

●

Таямніца сэнсу асенняй кучы лісця для мяне тое ж, што таямніца тэксту, скажам, для Айвара Армстронга Рычардса. Бацька "Новай крытыкі" настойваў на "глыбокім прачытанні" мастацкага твора, на высвятленні мноства сэнсавых пластоў тэксту і адначасова сінтэзу іх ва ўсеагульны сэнс. Здаецца, ён персаніфікуе тэкст. Дык чым лепшы ягоны фетышызм, скажам, за мой анімізм? Адсутнасцю парадоксаў?..

●

Адсутнасць парадоксаў і эпатажу (у любым выглядзе) ідзе на карысць кнізе Сакрата Яновіча "Лістоўе". Калі ўсе багі, па сведчанні Ніцшэ, аддалі некаму душы ўжо стагоддзе таму, дык зараз павольна, але ўпэўнена канае сам час. Скіраванасць сучаснага быцця на інфармацыйнасць адмаўляе патрэбу, неабходнасць існавання свету літаратурных герояў, у рэальнасць якога заклікаў паверыць Данііл Андрэеў. С. Яновіч у сілу ці то свайго светабачання, ці то тэмпераменту, ці то нейкіх аднаму яму вядомых прычын проста ігнаруе бесперапынны рух, спараджэнне тэхналогіі, як павярхоўнасць і адназначнасць. У дадзеным выпадку можна гаварыць нават пра космас кнігі з усімі ўласцівымі звычайнаму космасу атрыбутамі, метэарытным дажджом разнавартасных тропаў, туманнасцямі асацыяцый і высноў ды цэлай плеядай "танцуючых" зорак. Гэты свет нечым нагадвае неруш, дзе час не развіваецца ні па спіралі, ні цыклічна — ніяк, ён проста існуе, застылы ў бясконцасці аднойчы прамоўленага. Аднак падобная матэрыяльнасць на самай справе аказваецца даволі ілюзорнай. Дваістасць рэчаіснасці служыць своеасаблівым раздражняльнікам: прадметная рэальнасць існуе толькі ва ўспамінах С. Яновіча, мы бачым перад сабою не быццё, а памяць пра яго. "Лістоўе" — кніга намёкаў.

●

Кніга намёкаў і трывожыць, і супакойвае. Трывожыць няўпэўненасцю ў адэкватным успрыманні таго, што хаваецца за містэрыяй асацыяцый; супакойвае надзеяй на ўласную значнасць, бо практычна любое вытлумачэнне здаецца ісцінным. Па прынцыпе гэткай дваістасці ў С. Яновіча арганізуецца не толькі змест, але і форма. "Лістоўе" распадаецца раптам на дзве часткі: "вершы" і "прозу". Не шукаю кошку ў цёмным пакоі, калі яе там няма. "Вяртанне ў Крынкі", "Роднае", "Веру", "Фэст" — вершы, дзе фраза не проста рытмізуецца, а **гарманізуецца.** Падобныя творы ў "Лістоўі" маюць шэраг фармальных прыкмет: інверсійная пабудова сказа ("Я свечкі запаліў, у пакоі цішыня велікодная"; "Хочаш песню сваю захаборыць усмешкаю тлустаю, каб штурхануць яе ў бездарожжа гасцінцаў вясковых"), безліч аказіянальных эпітэтаў (крынкі халаднаногія, акно цве-та-ліпнёвае, пушча стрункахвойная, рохканне пудовае, рыканне белапеннае, годнасць тапалеблакітная). Магчыма, гэта і не паэзія з пункту гледжання Рыфмы, аднак асобныя тэксты С. Яновіча нельга пераказаць (як і сапраўдныя вершы) "прозай", змяніўшы будову фразы. Тым больш, што побач традыцыйныя абраз-кі ("У бок Юраўцаў", "Лета ў Мокрым", "За Ярашоўкаю") спакваля "пераліваюцца" ў філасофскі, з прысмакам дыдактызму, празаічны сарказм ("Вёскішча, багіня ганьбы", "Адысея паўмешчаніна", "Прыгожай"), на дно якога стомлена асядае працяг старога аповяду пра свет і людзей у ім: "Было адліжна. Юзік сышоў на ўскрай тратуара" ("Аднойчы"); "Ядзя выйшла замуж. Яна пайшла за Стася. Пайшла за яго таму, што ён хацеў жаніцца" ("Трэцяя пара").

Ды тут ужо — што як каму на душу кладзецца. Універсальнасць жа высноў і шматмернасць (як адзнакі творчасці С. Яновіча) мэтазгодна разглядаць у святле тэорыі інтэрпрэтацыі тэксту, згодна з якой "зразумець" — значыцца так вытлумачыць тэкст, каб за адным сэнсам убачыць другі, што нараджаецца ў самім працэсе інтэрпрэтацыі.

●

У працэсе інтэрпрэтацыі таго ці іншага твора "Лістоўя" можна ўбачыць і тое, чаго няма, і не заўважыць таго, што ёсць. Паколькі аўтар вольна пачувае сябе ва ўласных успамінах пра свет, то і чытачу даецца магчымасць гэтак жа вольна прыстасоўваць чужыя асацыяцыі і рэфлексіі да сціплай постаці свайго светапогляду. С. Яновіч, як абачлівы шавец, дапамагае "падагнаць" тую ці іншую ідэю ў адпаведнасці з густам і магчымасцямі "кліента". Цяга да сцісласці і лаканізму дасягае піку, максімуму звычайна ў фінале твора. Здаецца, што С. Яновіч добра разумее — ісціна ў выглядзе формулы-афарызму мае больш шанцаў стаць аксіёмай, чым яе ж тлумачэнне-трактат, якое доўга і нудна канае, так і не дасягнуўшы свайго эпігона:

"Беглася мне з долу. З казытлівым пауццём уласнае смешнасці" ("У калядны адпачынак").

"Гора хаваецца ў бяссоннай ночы. Спачуванне здаровым сном храпе да світання" ("Фэст").

"Свечкі гаснуць без памяці" ("Вяртанне ў Крынкі").

"Хто зразумеў сваю непатрэбнасць — памірае..." ("Існаванне").

Але гэта не ісціна-дагмат. Гэта намёк на яе, успамін пра ранейшае веданне.

Успамін пра ранейшае веданне блукае ў напластаваннях традыцый і культур. У "вершы" (маё адчуванне гэтага твора, некаму ён здасца мініяцюрай ці абразком) без назвы: "Калі мову маю паставяць пад сценку абыякавасці, хачу быць яе крыкам! І памерці, маючы гадоў трыццаць тры. Калі ж пачнуць хаваць яе ў магілу, хачу быць канём князя Яцвягі". Сімбіёз хрысціянскага і язычніцкага — з'ява не парадаксальная, а заканамерная, нават лагічная. У космасе "Лістоўя" пануе прынцып **суіснавання**, але не змены, не замяшчэння. Аднак існаванне ў адной прасторы роўнавялікіх ісцін не ідзе на карысць ніводнай з іх — зніжаецца каштоўнасць, здымаецца флёр непаўторнасці і адметнасці. Таму С. Яновіч "шыфруе" праявы той ці іншай традыцыі — карыстаецца пэўным метакодам, празрыстым і неспасцігальным адначасова: "Цень Візантыі ў пошуме клёнаў, бяроз. (...). Тырчыць праваслаўе над злежа-ным пяском магіл. Асколак Русі ля пад-ножжа дзевятай хвалі ўбогіх пагоркаў" ("Фэст").

І не ведаеш ужо, бачыш ты жаданы Сэнс на самай справе ці табе гэта толькі мроіцца?

●

Толькі мроіцца мне часам падабенства асобных твораў С. Яновіча то да мініяцюр Янкі Брыля, то да "Скарбаў жыцця" Максіма Гарэцкага. Аднолькавае адчуванне сябе ў прасторы вымагае аднолькавых сродкаў выражэння гэтай прасторы. Складанасць шматмернага быцця, імкненне перадаць пластыку зменняў і застыласці натуральна прыводзяць мастака да складаных (састаўных) эпітэтаў. Жыццё ў Янкі Брыля — бясконцыя пералівы колераў ("... гляджу на неба. **Лілова-папялістае,** ціхае"; "...па ўсім полі вытыркнуўся асот, ужо таксама спелы, **пухова-белагаловы**"; "**...сыта-зялёны,** паліты адвячоркавым сонцам агарод"). Свет Сакрата Яновіча — працяг і паўтарэнне гэтых бясконцых пералівaў, пераўвасабленняў, толькі колеры і пластыка — непадзельныя ("Мая трывога ў вечары кахання **чыстаквяцістага**"; "Веру ў каханне **крынічна-чыстае,** ды розум **нябесна-бяздонны**, і ў годнасць **таполе-блакітную**"). Схільнасць абодвух творцаў да жанру мініяцюры (на маю думку, — форма, якая найлепш выяўляе магчымасці "гарманізаванай" прозы) сведчыць пра адметнасць іх прасторы існавання, дзе слова, адкрытае іншаму, — знак неадкрытага, магчыма, больш каштоўнага.

Сімвалічнасць і знакавасць наводзяць на думку пра падабенства "вершаў" (суб'ектыўна — лепшых твораў "Лістоўя") С. Яновіча і да алегорый М. Гарэцкага. Тут адчуванне прасторы выяўляецца праз Сказ.

"Я іду сваім полем. Дзяцінства маё маячыць на небакраі; клёны ля дарогі надта ж выраслі. Уваходжу ў дом. На сценах яго іканастас успамінаў маіх, з матчынай усмешкай далёкай. (...). Добры конь жаданняў не скапыціўся" (С. Яновіч. "Роднае").

"Браму скарбаў сваіх адчыняю: падходжу і так, падходжу і гэтак, пасяджу адсапнуся — ізноў адчыняю, псую сабе гумар" (М. Гарэцкі. "Скарбы жыцця").

Падобнае не абвінаваціш у хаатычнасці і бяздумным бязладдзі, нягледзячы на відавочную складанасць. Адсутнасць "празрыстасці" ў стылях — і ёсць шлях, "брама" да празрыстасці думак, сэнсаў, магчымых ісцін.

Не хацелася б выглядаць "томнай" паненкай, якая ў пошуках уласнай адметнасці прыдумвае сэнсы, падабенствы

---

*Сакрат Яновіч. Лістоўе. Беласток, 1995.*

ды аб'ядноўвае рэчы несумяшчальныя. Творы Максіма Гарэцкага, Янкі Брыля, Сакрата Яновіча адрозніваюцца і сваімі стылёвымі адзнакамі, і пафасам ("крэда"), і музыкай. Але ўсе трое — філосафы, і паколькі імкнуцца да спасціжэння ісціны (не толькі яе зместу, а і формы) — то часам "сустракаюцца" на шляхах пошуку, і тады іх сусветы становяцца адной Прасторай. Хай сабе і на імгненне...

●

Хай сабе і на імгненне, але здасца, што і ты выдатна арыентуешся ў лабірынце фраз і асацыяцый. Адчуеш нават роўнасць паміж тым, хто стварыў, і тым, хто прызнаў гэта, народжанае, важным для сябе. Ды адчуванне роўнасці часцей за ўсё павольна (ды няўмольна!) пераходзіць у фамільярнасць. Невыносна чуць ваяўнічых прафанаў, што лічаць Літаратуру краінай няпужаных ідыётаў. Феномен "абываценя" (які калі-нікалі прыводзіць у замілаванасць сваёй непасрэднасцю і ўпэўненасцю ў тым, што навокал — выключна дэбілы) спрабуе асэнсаваць і С. Яновіч: "Гандляру сумленнем", "Вёскішча, багіня ганьбы", "Адысея паўмешчаніна", "Шпацыр па новай перыферыі". Ды творца ўспрымае гэтую з'яву надзвычай эмацыйна, балюча (нават хваравіта) перажывае прымат "мястачковага" над агульначалавечым, спрабуе ацаніць абываценя пры дапамозе філасофскіх катэгорый. Але, відаць, да гэткага "унікуму" падступіцца можна толькі з іроніяй. Крыўдна, безумоўна, што аб'ект роздуму проста не зразумее вытанчанасці насмешкі (як не разумее, між іншым, і глыбокіх высноў). Ды так хоць сябе пацешыш.

●

Сябе пацешыш, пакажаш "Суседзям па жыцці" сваю назіральнасць, калі заўважыш нешта недасканалае. Тут галоўнае "не перабраць", не ператварыцца ў вышэйзгаданага некампетэнтнага прафана (інакш рэпутацыя будзе загублена). Не забыцца б: не заўсёды дрэнь тое, чаго не разумееш ты. Можа быць, нехта не разумее цябе?..

Адметнае адчуванне свету і сябе ў ім выяўляецца ў будове фразы С. Яновіча. Схільнасць пісьменніка да інверсійнасці ў сказе, на мой погляд, — намёк на той шлях, які праходзіць думка творцы. Люстраны адбітак: звычайнасць, дакладнасць, а прыгледзішся — скажонасць, якую і не вытлумачыш. Безліч думак — безліч люстраў: галерэя праўдзівых скажэнняў, "перавернутасцяў" і фіналаў. Ці выберашся з яе? Надзея на выйсце даецца: амаль кожны твор з "Лістоўя" завяршаецца афарызмам. Вітаўтас Марцінкус пісаў: " А наша пакаленне любіць сентэнцыі. Яны выражаюць сутнасць з'яў. Жыццёвыя прынцыпы". Дык вось фінальныя акорды ў С. Яновіча — гэта сутнасць ягоных жыццёвых прынцыпаў (пададзеная праз алегорыю і знакавасць):

Веру ў жыццё, смерць яго і ўваскрашэнне.

**І ў вечнае, бо бязмежнае.**
**І ў чалавека.**
**І ў свет.**
**Веру!**

*("Веру").*

Але лаканічнасць можа і згубіцца пад цяжарам груваcткіх і чужых фраз-ланцугоў: "І яе з'яўленне руліла мне гаварыць праўду пра самога сябе, верачы ў аздараўленчыя ўласцівасці яе; прасіць аб спагаду, аб тое, каб блізкія не спяшаліся з высновамі наконт мяне"... Рэдкі сярод карнавалу яркіх восеньскіх лістоў гарбаценькі нягеглы госць.

●

Нягеглы госць у літаратуры — панылы твор графамана — таксама можа быць падставай для цэлага манаграфічнага даследавання, бо і гэта — **факт**, праява жыцця.

"Лістоўе" — імпануе мне, цікавіць мяне, абуджае мяне, патрабуе асэнсавання — штурхае да **маёй** творчасці, дае надзею на ўласную значнасць і... падманвае. Чытаю кнігу, бо яна трывожыць, дае шанц. Яна — працяг майго жыцця.

Аўтару ёсць што сказаць мне; мне ёсць што сказаць пра аўтара і ягоную кнігу. Хіба гэтага мала? Жыццё віруе...

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

Сярод кніг

# ГАРЫ, ГАРЫ, ЯГО ЗАРА...

Мне не даводзілася бываць у вёсцы Бурмакі, што на Валожыншчыне, але я добра ведаю, што паблізу яе ёсць невялікі хутарок, акружаны векавымі дрэвамі. Побач — глыбокая сажалка. Улетку, прачнуўшыся на світанні і падышоўшы да акна, можна ўбачыць, як, нікога не баючыся, нырне ў люстраную гладзь вады андатра...

Пра ўсё гэта мне расказваў неаднойчы гаспадар хутара Алесь Пісарык. Той самы А. Пісарык, які некалі, даўнавата ўжо, звярнуў на сябе ўвагу першымі сваімі вершамі. Вершы былі досыць дасканалыя, аднак немалаважна было і тое, што на той час аўтар працаваў на трактарным заводзе, а вядома ж, як тады ставіліся да прадстаўнікоў рабочага класа. На шчасце, паэзія для А. Пісарыка аказалася не забаўкай, у чым пераканалі яго чарговыя публікацыі ў рэспубліканскай перыёдыцы. А пасля з'явіліся і кніжкі — "Ліставір", "Белы май", "Дажджы яравыя"...

І раптам я даведаўся, што Алесь развітаўся са сталіцай, каб пасяліцца на тым самым невялікім хутарку паблізу вёскі Бурмакі. Аднак так і не запытаўся, чаму ён адважыўся на такі даволі нечаканы крок. Усё ж горад пакінуў не звычайны жыхар, а літаратар, якому ўсё ж варта быць у творчым асяроддзі, дзе і пішацца лягчэй, і надрукавацца прасцей...

Відаць, нагадалі аб сабе ўражанні маленства, што прайшло ў Пухавіцкім раёне (хоць і нарадзіўся ў Мінску ў сям'і рабочага). Школу заканчваў у славутай Дукоры. І вучыўся не ў каго-небудзь, а ў Васіля Савіча Гарбацэвіча. Няхай сабе аўтар славутых "Чырвоных кветак Беларусі" на той час і не працаваў у школе, але былі іншыя ўрокі — урокі жыццёвыя, урокі любасці да роднай зямлі, да Бацькаўшчыны, урокі беларускасці. А. Пісарык аказаўся тут здольным вучнем, вартым свайго настаўніка.

Вёска і паклікала да сябе, калі развітаўся з ліцейкай Мінскага трактарнага завода, калі папрацаваў у іншых месцах. І выбар быў зроблены. Назаўсёды? Час дасць адказ. А сёння многае вытлумачваюць новыя творы А. Пісарыка, сабраныя ў кнізе "Пакуль гарыць мая зара". Не дзяржаўнае выдавецтва дало ёй пуцёўку ў жыццё, а добравядомая лімаўскаму чытачу "Тэхналогія". То і дзякуй Богу, што знаходзяцца людзі, якія не за прыбыткам гоняцца, а працуюць на беларускаць. Папрацуе на яе, трэба думаць, і кніга А. Пісарыка.

У ёй тры раздзелы — "З жаўруком на плячы", "Усе кветкі жывыя" і "Звонка, молада, страсна..." Аўтар прадмовы "Паэтычнай зары разгарацца..." Віктар Гардзей так вызначыў іх змест: "першы — гэта ўвогуле шчырая сыноўняя споведзь Алеся Пісарыка перад роднай Беларуссю, другі прысвечаны бацькам, маці, усім добрым і прыветным беларусам, трэці, і можа, ці не самы хвалюючы раздзел — то моцны, сканцэнтраваны вялікім пачуццём сказ пра пяшчотнае, беззапаветнае каханне".

А ўся кніга прысвечана паэтам "светлай памяці маці Ніны Трафімаўны". Запеўкай жа да зборніка гучыць верш, што таксама ўспрымаецца своеасаблівым прысвячэннем:

**О, гэтая светлая туга**
**Па той зямлі, якая крылы**
**Дала душы і — пралягла**
**Ад нараджэння да магілы.**
**.......................**
**Куды б дарога ні вяла —**
**Не абмінуць аблогаў долі.**
**Прысядзе доля ля стала,**
**Журбы нап'ецца даспатолі.**

Туга па зямлі маленства, туга па Беларусі і роспачная, калі цяжка знайсці словы, — туга па маці, якая заўчасна пайшла з жыцця. Урэшце, вобраз маці ў вершах А. Пісарыка паядноўваецца з вобразам Бацькаўшчыны. Мастацкі прыём далёка не новы, ды ўсё ж гэта не замінае паэту гаварыць даверліва, шчыра, з непадробным болем:

**Мне баліць за цябе,**
**Беларусь,**
**Як за маму маю,**
**нябожчыцу.**
**Ты хварэеш,**
**І не ў пару**
**Пахаваць цябе некаму хочацца.**

Аднак гэта не значыць, што душа лірычнага героя напоўнена адным смуткам. Прысутнічае і ўпэўненасць, на якую здатны чалавек, што не цураўся свайго роду-племені: "Наша спадчына зноў абкрадзена.//Слава княжная чэзне ў агні.//А мне дадзена,//дазена//дадзена//Берагчы яе карані".

Рабіць гэта, на жаль, цяжка, бо поруч нямала тых, хто па-ранейшаму не можа прачнуцца ад сну нацыянальнага нігілізму, для каго матэрыяльныя выгоды на першым плане, а душа... Душа — нявольніца гэтай празмернай прагі дабрабыту. А ў выніку пакутуюць не адзін чалавек, не два:

**Суседзі правяць баль Свабоды,**
**Сагналі ідала з душы!**
**У нас жа —**
**Утрапёны подых,**
**Чужая — мова,**
**Дух — чужы...**

А свая ж — такая непаўторная і вабная, красы поўная, на слова шчодрая, карыстацца ёй — адно асалода. Пра гэта А. Пісарык цудоўна сказаў у адным са сваіх лепшых вершаў:

**Што ні край — свая гаворка,**
**Як валошка на мяжы.**
**І ці соладка, ці горка,**
**Іншай мовай не кажы!**

**Слова скача,**
**Слова плача,**
**Слова весела пяе.**
**Слова губіць,**
**Слова чубіць,**
**Слова крылы надае...**

**Мовай весніцы і брамы**
**Адчыняюцца штодня.**
**Слова мачахі і мамы —**
**Як праклён і дабрыня.**

Лірычны герой А. Пісарыка з людзей, якія паважаюць і шануюць тое, што было да нас, адначасова імкнучыся даць яму сваю ацэнку. У гэтым сэнсе цікавая паэма "Рэха ў гарах", прысвечаная памяці старшага сяржанта Мікалая Чэпіка, які загінуў у Афганістане. Герой той вайны, якую мы праклінаем. Ды хіба ў той авантуры ёсць віна простага беларускага хлопца? Ён быў частым і сумленным і сумнявацца ў чысціні і сумленнасці Чэпіка і яго аднагодкаў — не трэба.

Як тут не прыгадаць адзін з вершаў кнігі — "Забітыя ў баях за Беларусь". Паэт ужо не ад свайго імя прамаўляе, а ад імя мёртвых: "Я той, каго забілі на вайне,//Каго забылі нават абеліскі.// Пажоўклы фотаздымак на сцяне//Адной матулі дарагі і блізкі". Памяць жыве ў гэтым творы. Памяць, без якой цяжка сумленна глядзець у дзень заўтрашні.

Моцны ў кнізе лірычны раздзел — "Звонка, молада, страсна..." Інакш, пэўна, і не можа быць, бо пачуцці не дадзена "прыдумаць". Ці не самы лепшы верш тут — "...Ты любіла. І забыла..." Пра той момант, калі ўжо нічога не зменіш, а хісткая кладка ў колішніх узаемаадносінах і зусім знікла. Адно сэрца усё яшчэ не можа прымірыцца...

А што да заўваг, дык яны, у першую чаргу, тычацца асобных твораў з ярка выражаным публіцыстычным накірункам. І тут ужо бяда не аднаго А. Пісарыка. Ва ўсім неабходна захоўваць пачуццё меры. Тады не будуць з'яўляцца празмерна дыдактычныя (хоць, зразумела, і правільныя) развагі пра наша сённяшняе жыццё-быццё, а вершаваная канстатацыя звычайнай ісціны падавацца як паэзія.

Але я не пра гэта... Я пра кнігу "Пакуль гарыць мая зара", якая мяне па-сапраўднаму ўзрадавала і якая — у гэта хачу верыць — прынясе гэткае ж пачуццё і іншым чытачам.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Алесь Пісарык. "Пакуль гарыць мая зара". Вершы. Мінск, 1995.*

# ТОЛЬКІ НЕ ГАВАРЫ МАЁЙ МАМЕ

Выйшла чарговая кніга аўтара, які з'яўляецца ці не адной з самых амбітных і эксцэнтрычных фігур сучаснай беларускай літаратуры. Гэта імя на слыху ва ўсіх, хто мае хоць нейкае дачыненне да беларускай літаратуры. Сёй-той памятае бліскучыя дэбютныя кніжкі Адама Глобуса, камусьці на душы стала неспакойна за далейшы лёс нашай літаратуры пасля прачытання "Дамавікамерона", нехтанейкі цікавіцца выключна ягонай выдавецкай дзейнасцю. Кожнаму сваё.

Каторы год я назіраю адзін парадокс, звязаны з імем Адама Глобуса. Амаль усе беларускія выданні, хоць неяк звязаныя з літаратурай, без асаблівых крыўлянняў змяшчаюць на сваіх старонках творы гэтага аўтара. Але на выхад з друку ягоных кніг рэагуюць дружным маўчаннем. У лепшым выпадку ў гадавых крытычных аглядах узгадаецца імя, і пасля дадаецца колькі агульных, выштампаваных за апошнія гады, дзяжурных фразу, пра месца Адама Глобуса ў нашай роднай літаратуры.

Пасля, па-канструктывісцку жорсткага "Дамавікамерона", дзе ў кароткіх хлёсткіх саркатычных тэкстах Глобус імкнуўся сказаць болей, чым можа вытрываць папера, дзе хадзіў на мяжы фолу, тым не меньш ані разу не зваліўшыся ў брутальнае порна, "Толькі не гавары маёй маме" выглядае спакойнай і разняволенай кніжкай. Арытміі няма месца на яе старонках. Яна плаўная, спакойная, цягучая. І нават месцамі вальяжная, прыкладам — раман "Амстэрдам".

У гэтым тэксце цалкам адвольны сюжэт, роўны як звіліны на кары галаўнога мозгу ў вожыка. Аўтар прыязджае з братам у сталіцу Нідэрландаў, жывуць у гатэлі, ядуць па ўсякіх кавярнях, набываюць дыяменты, ходзяць у музеі і, натуральна, наведваюць раён Чырвоных Ліхтароў. Апісваецца краіна, горад, аэрапорт, норавы й звычаі, само сабою, толькі тыя, што на відавоку. Гэткі дзённік падарожнага чалавека, для якога за колькі дзён турыстычнага жыцця на пару таямніц нашага сусвету стала меней. Не болей.

Зрэшты гэты твор губляецца на тле моцных аповесцяў "Трохкутнік", "Мой дарагі Адам", "Млосці", стрыжань якіх — Перамога, гэта ключавое слова, якое адчыняе ім уваход у чужы свет. Дазваляе знайсці матывацыю. Дапамагае апраўдаць і зразумець франдзёрства — ну які такі аповед пра Перамогу без пахвальбы. Асабліва, калі ты гэтыя ачкі набраў у падлеткавым узросце. Так не бывае. І Глобус так не піша.

Перамога — не зусім перамога, пакуль пра яе ніхто не ведае. Ты павінен расказаць пра яе. Бо нічога не даецца дарма. Яна пакідае след на душы. Які замазаць, размыць або надаць прымальныя для цябе абрысы магчыма, адно толькі падзяліўшыся ёю з кім-небудзь. Хтосьці выбірае сабе суседа па цягніку, іншы піша прозу, трэці пойдзе на споведзь. Метода адна. Розняцца толькі інструменты. За кожны яблык з дрэва спазнання Дабра й Зла, мы мусім аддзячыць.

Зрэшты, мы пазнаем свет, толькі дзякуючы перамогам. Гэтая кніга ёсць перамога. Перамога над першым каханнем, над захапленнем з першага погляду, над першым праяўленнем мужчынскага стаўлення да жыцця. Дзякуючы гэтай кнізе, шмат хто можа пашырыць межы свайго сусвету. Яна штурхае на новыя перамогі, у дарозе да якіх нас ніхто не здолее саштурхнуць з абранае каляіны.

Кніга — інструмент пазнання. А веды — адна з праяваў перамогі.

Толькі мама — гэта той чалавек, які не чакае ад нас перамог. З мамай можна быць слабым, разбітым. Яна адзіная жанчына ў свеце, якая мае права ведаць пра твае паразы. І пакуль жыве, яна мае шанц скарыстаць гэтае права.

**Сяргей ДУБАВЕЦ.**

*г. Вільня*

*Адам Глобус. Толькі не гавары маёй маме. Зборнік інтымнае прозы. Вільня-Менск. "Наша Ніва", 1995.*

Андрэй ФЕДАРЭНКА



## ШТО ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ

**У гэтым годзе я, як ніколі раней, зразумеў, што змена ночы на дзень, зімы на лета, аднаго парламента на другі і г. д. і г. д. не ёсць штосьці часовае, не нейкі пераходны перыяд, не падрыхтоўка да чагосьці лепшага, — а ёсць уласна нашае ЖЫЦЦЁ, і другога проста не будзе.**

**Шкада.**

Алесь БАДАК



## УЗНЯЦЦА НАД БУДЗЁННЫМ

**1. У канцы года заўсёды хочацца азірнуцца назад, падвесці нейкія вынікі зробленага. Для мяне асабіста 1995 год стаў пачаткам маруднага вяртання ў літаратуру пасля не такога ўжо і доўгага, але, здаецца, залішне пладавітага "сужыцця" з яе Вялікасцю эстрадай. І справа не толькі ў тым, што летась у мяне выйшла адразу тры кніжкі. Зараз я ўсё лепей пачаў разумець, што, па-першае, залішне частыя песенныя практыкаванні, як гэта, можа, ні парадаксальна, паціху, непрыкметна забіваюць у табе паэта, а па-другое, я ўсё мацней адчуваю і бачу, што беларуская песня зноў становіцца беднай падчаркай у родным доме. Здаецца, такога не было і ў часы кіравання "розуму, гонару і сумлення нашай эпохі" — калі не памыляюся, ні на радыё, ні на тэлебачанні сёння не засталося ніводнай цалкам беларускамоўнай музычнай праграмы. Дзякуй Богу, што нашы рускамоўныя пісьменнікі пасля вядомага рэферэндуму яшчэ не дадумаліся патрабаваць, каб цяпер ва ўсе калектыўныя зборнікі ўключалі іх творы — "фіфці-фіфці". Ці па такім жа прынцыпе складаліся выдавецкія тэмпланы. Спадзяюся, сёння гэтыя словы яшчэ можна ўспрымаць, як жарт.**

**Зрэшты, ёсць і яшчэ адна прычына, да таго ж, ці не самая галоўная: за гэтыя год-два назбіралася вельмі шмат розных задум, і калі верыць Л. Дранько-Майсюку, што "ў трыццаць восем гадоў пісаць вершы сорамна", то трэба паспяшацца з іх рэалізацыяй.**

**Калі ж гаварыць увогуле пра жыццё напрыканцы года, то менш за ўсё хацелася б плакацца, некага ў нечым абвінавачваць і г. д. Некалі дырэктар маёй школы вучыў мяне: паспрабуй узняцца над будзённым, адарвацца ад усіх гэтых праблем, гэтага жыццёвага тлуму, і ты ўбачыш свет зусім іншым. І гэта сапраўды так. І менавіта пад Новы год я б раіў рабіць гэта ўсім нам.**

**2. Спадзяюся, што ў новым годзе хаця б частка з задуманага мной здзейсніцца. Спадзяюся, што наш новы парламент, выбранню якога сёння ўсе радуемся, як дзеці, у новым годзе пакажа, што ён можа зрабіць для нашай Бацькаўшчыны больш, чым цяпер многім з нас здаецца. Спадзяюся, што следам за выдавецтвам "Навука і тэхніка" не зачыніцца "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва". Зрэшты, на многае спадзяюся.**

**А ўвогуле, я заўважыў, што сёння і на вуліцы, і па тэлебачанні беларусы, апроч хіба прэзідэнта, вельмі рэдка ўсміхаюцца. Таму я жадаю ўсім нам у новым годзе як мага болей гэтых самых усмешак. Кажуць, яны прадаўжаюць жыццё, а так хочацца дажыць да лепшых дзён.**

Паэзія

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ



# "НЕ ТУШЫ МАЮ ЗОРКУ"

## ЗАМЕСТ ЭПІГРАФА

**Вы мне не належыце болей,**
**Хай доля Вам шчасная будзе!**
**Я вас**
**адпускаю**
**на волю,**
**Я вас**
**выпраўляю**
**у людзі.**
**Чаму ж мне трывожна да болю,**
**Што роспач халодзіць мне грудзі:**
**На волі**
**ці знойдзеце**
**волю,**
**У людзях**
**ці стрэнуцца**
**людзі?**

•

**Усход ружовы —**
**Гарыць зара.**
**Маліцца слову**
**Прыйшла пара.**

**Маліцца нашча,**
**Як Нестар колісь,**
**Прарокі нашы**
**Купала, Колас...**

**Малітвай строгай**
**І чыстай самай,**
**Як моліць Бога**
**У вёсцы мама.**

**Малюся слову,**
**А ў горніх высях**
**Маўчаць сурова**
**Стральцоў і Пысін.**

## НА СКАВЫШЫ

**І Прапойск, і Нясвіж**
**Працінае скавыш.**
**І сцюдзёна, і золка.**
**Ой, мароз, не марозь,**
**Не тушы маю зорку.**
**І не сціпшш скавыш,**
**І не выпусціш крыж,**
**І дарога пад горку...**
**Ой, мароз, не марозь,**
**Не тушы маю зорку.**

•

**Стаіўся птах**
**У голым вецці.**
**Задзьмуць ліхтар**
**Спрабуе вецер.**
**Нібыта з верша**
**Віці Шніпа,**
**Азяблы ліст**
**Прыліп да шыбы,**
**Каб у святле**
**Настольнай лямпы**
**Душу сагрэць**
**І легчы ў ямбы.**

## КАША З СЯКЕРЫ

**— Ніяк не паверу,**
**Што шкодна вячэраць,**
**З'еў бы, здаецца, вала...**
**— Ёсць каша з сякеры...**
**— З сякеры? Не веру!**
**Дзе ты сякеру ўзяла?**

•

**Любоў мая невылечная,**
**Чалавечая, пастаянная,**
**Стрыж над змялелаю рэчкаю,**
**Чмель на сухім святаянніку.**

**Колькі лёсам адведзена**
**Мне хадзіць тут і бавіцца,**
**Мне на іх не нагледзецца,**
**Мне ад іх не пазбавіцца.**

**Я з малітвай адзінаю**
**Да Ўсявышняга грукаю;**
**Хай маё стане сынавым**
**І хай сынава будзе ўнукавым.**

## РАБІНА НАД ВІРАМ

**Малюнак знаёмы,**
**Балючы і шчыры,**
**Рабіна на строме,**
**Рабіна над вірам.**

**Застыла ў здранцвенні**
**Ўдавою пакорнай**
**У яркім адзенні**
**Над безданню чорнай.**

**Адкуль гэта горасць**
**У бабіным леце,**
**З сівога фальклору**
**Ці з новых трагедый?**

**У стылым блакіце**
**Зноў журыцца вырай...**
**Спыніце, спыніце**
**Рабіну над вірам!**

•

**Недарэчнае, спрэчнае,**
**Мітуслівае, дробнае,**
**Дай памаліцца**
**Вечнаму,**
**Дай пакланіцца**
**Добраму:**
**Буслу за сярэбранай рэчкаю,**
**Каню на зялёным поплаве.**
**Дай павініцца грэшніку,**
**Не паломніку,**
**А палонніку...**
**Пры маладым алешніку,**
**Пры залатым сасонніку.**

•

*Анатолю ЗЭКАВУ*

**Мы колісь такія ж былі.**
**Гляджу на знаёмыя рысы:**
**Вось гэта — унукі Іллі,**
**А гэта, здаецца, Барысаў.**

**Гляджу, як злятаюць з гары,**
**Што некалі зваў я Эльбрусам,**
**Каб з'ехаў — памёр без пары!**
**Павер, не смяюся — баюся.**

**А мог жа калісьці і я**
**Вось гэтакім чортам праскочыць,**
**Адно каб сяброўка мая**
**Ў адчаі замружыла вочы.**

**А можа, давай рызыкнём,**
**І прагу, як смагу, спатолім...**
**Чаму ж ты не кажаш "магём",**
**Чаго ж ты задумаўся, Толік?**

•

**Вершы могуць здарацца,**
**Вершы могуць прысніцца,**
**Могуць плакаць, смяяцца,**
**Крычаць і маліцца.**

**Вершы могуць забыцца,**
**У куточак забіцца,**
**Замаўчаць, затаіцца,**
**Каб аднойчы адбыцца.**

**І — збыцца.**

Мікола ШАБОВІЧ



## МАНАЛОГ ЯНКІ КУПАЛЫ

*Служыць, служыць жадаў народу...*
*Я. КУПАЛА*

**Не суцяшай мяне, не трэба,**
**І слоў прыгожых не кажы.**
**Хоць нада мной радзімы неба,**
**Я ў гэтым горадзе чужы.**

**Няма ні веры, ні Айчыны,**
**І гэтак мала дабрыні.**
**Абразіць могуць без прычыны,**
**Не разабраўшыся ані.**

**Нібы якую лусту хлеба**
**Імкнуся вырваць з нечых рук,**
**Спяваць павінен я малебны**
**Таму, хто жорсткі, як павук.**

**Не быў сляпым прыстасаванцам,**
**Хаця сляпым, канечне, быў,**

•

**Як пакрываў залішне глянцам**
**Таго, хто край мой загубіў.**

**Хоць нада мной радзімы неба,**
**Куды ні глянь — адны крыжы...**
**Ну суцяшай мяне, не трэба,**
**Я ў гэтым горадзе чужы.**

•

**Праз цемру ценяў нацянькі —**
**Да зор, да неба.**
**Нялёгка пішуцца радкі**
**У час ганебы.**

**Калі варожыш: так ці не?**
**А хто мы самі**
**У васільковай сінізне**
**Між каласамі?**

**Апоўнач марым пра блакіт,**
**Пра поўню — поўднем.**
**Два берагі ў адной ракі,**
**Прытым, няпоўнай.**

**Яе аднойчы пераплыць, —**
**Ды страх цячэння.**
**Між берагоў, як рыба, жыць —**
**Адно мучэнне.**

•

**У росны ранак, сумны дзень,**
**ласкавы вечар**
**На хвілю здасца: на Зямлі нішто не вечна.**
**І будзь ты цар, ці то прарок, ці то паэта,**
**Аднойчы свой супыніш крок на свеце гэтым.**

**Ды не спяшайся шкадаваць,**
**што так нясмела**
**Хацела зорачка заззяць — і дагарэла,**
**Хацела думка паляцець —**
**дзе крылы ўзяці?**
**Хацела сэрцайка запець — а што спяваці?**

**Але ці варта наракаць, бо ўсё ад Бога:**
**Каму спяваць, каму араць, каму ў дарогу,**
**Каму карпець, каму зіхцець,**
**каму над пожняй**
**У белы вырай адляцець у свой апошні.**

**Калі пайду я назаўжды ў свет далёкі,**
**Вазьму з сабой свае гады і мар аблокі,**
**Пакіну вам, мае сыны, мая малеча,**
**Свой росны ранак, сумны дзень,**
**ласкавы вечар.**

•

**Пакуль не кволяцца гады,**
**Душы не млосна,**
**Давай жа вернемся туды,**
**Дзе росна, росна.**

**Дзе нас чакае далягляд**
**Такі азёрны,**
**Што помніць светлы твой пагляд,**
**Пагляд твой зорны.**

**Дзе сноў, расстанняў і сустрэч**
**Срабрыцца ранне**
**І дзе гайдаецца сінеч**
**Аж да змяркання.**

**Давай жа пройдземся ізноў**
**Па травах спелых.**
**Там засталося царства сноў**
**І мар нясмелых.**

**Хай спеў лунае ў вышыні**
**Дзвюх душ чуллівых,**
**Пакуль яскравяцца агні**
**На небасхіле...**

**Давай жа вернемся туды,**
**Дзе зорам росна,**
**Пакуль не кволяцца гады,**
**Душы не млосна.**

Уладзімір МІХНО

# АБАБІДЗЕ



АПАВЯДАННЕ

ГАРАДОК наш райцэнтраўскі вырас на сямі вятрах на самай крайняй поўначы Беларусі. Нападаюць вятры часцей заходнія, нападаюць ці то касымі сцюдзёнымі дажджамі, ці то мяцеляць завеямі, ці ўлетку вядуць наступ сухімі пыльнымі буранамі. Першай дастаецца аўтастанцыі, якая падставіла, дзівачка, спіну адкрытаму ветру на самым ускрайку горада. Затым перападае школе-інтэрнату. Ад сполаху зуб на зуб не трапляючы, жалобна енчаць шыбы, а па гарышчы ў гэты час быццам бы нехта ходзіць. Малыя, хто жыве на другім паверсе, пад самым дахам, пачуўшы тыя небяспечныя нетаропкія крокі, з галавою хаваюцца пад коўдраю... Нарэшце, даляцеўшы да цэнтра горада, трапляюць вятры на пляц Волі. Во дзе ім раздолле! Можна, зачапіўшыся ў скверыку за кашлатыя вяршаліны клёнаў, пагушкацца, праверыць на трываласць варонiны гнёзды, можна, разбіўшы шкло, пазрываць партрэты перадавікоў раённай Дошкі гонару, усё роўна спішуць на інтэрнацкіх, а можна нават заблытаць у дрэвах электраправады і зрабіць кароткае замыканне, якое пасля доўга будуць, мацюкаючыся, ліквідоўваць электрыкі.

Бронзавы Ільіч на п'едэстале, як і належыць правадыру, першым адчуў набліжэнне небяспекі, абачліва схаваў левую руку ў кішэню — там зацішней ад ветру, а праваю, служба ёсць служба, усё яшчэ, нягледзячы на гастрыню сучаснага моманту, указвае на гарадскі рэстаран.

"ПРАВИЛЬНОЙ ДОРОГОЙ ИДЕТЕ, ТОВАРИЩИ!" — высечана залатымі літарамі на гранітным п'едэстале.

Але ў рэстаран цяперака ўжо мала хто ходзіць. Часцей там абедае інфляцыя ды ладзяць гешэфты тлустыя ўкормленыя прусакі, якія даўно ўжо адчуваюць сябе там гаспадарамі.

Абабідзе ў рэстаране быў усяго адзін раз. Помніцца, прыязджала да іх у інтэрнат нейкая важная і багатая дэлегацыя ці не з самой Масквы. Да гасцей яны прывыклі, бо іх тут кожнага дня па дывізіі прыбывае, але гэтых чамусьці сустракалі як каралёў. Дзяцей апранулі, бы на продаж. Дырэктрыса Макітра гайсала па інтэрнаце як мыш абсмаленая. Аб'явілі аўрал. Выдраілі зубною пастаю падлогу, мэблю, павыбівалі пыл з паласаў і дываноў. Прымусілі нават хлопцаў сашкрэбці з дзвярэй у прыбіральні ўласнаручную яго, Абабідзы, мастацкую працу. Можна сказаць, не прыбіральня была, а галерэя, гордасць усяе інтэрнацкае пацанвы. Не якая-небудзь падробка, а сапраўдная эротыка ў стыле Metal! Ён пісаў гэтае палатно не дзень і не два — можа, з паўгода выдатнымі алейнымі фарбамі і ма-стакоўскім пэндзлем, якія хлопцы знарок для гэтага вывудзілі са склада. Пісаў вечарамі і нават ноччу, сяк-так расклаўшы сваю мастакоўскую майстэрню на... коўзкім халодным унітазе. Дыхаючы хлоркаю і не толькі ёю, хлопец, можа, ахвяраваў сваім здароўем дзеля будучага шэдэўра. І яго чакала прызнанне, а затым і слава, яго, інтэрнацкага "караля", мурзатага і неахайнага, каго дагэтуль толькі баяліся, перад кім запабягалі, ліслівілі толькі за тое, што добра ўмеў "лячыць" зубы, раптам запаважалі. Запаважалі Мастака. Кожны лічыў за гонар схадзіць да старшакласнікаў у прыбіральню, каб хоць разок зірнуць на карціну. Дазвалялі далёка не кожнаму...

А вось Макітра не ацаніла, не прызнала. Дзіва што. Карціна красавалася не ў інтэрнацкім фае і не ў чырвоным кутку. Што калі шаноўная дэлегацыя не ўпадабае атмасферы мастакоўскае майстроўні?

МАКІТРА — Марыя КІрылаўна ТРАЎкіна — была, зрэшты не мастацтвазнаўцам, а ўсяго толькі шараговым дырэктарам сціплае правінцыяльнае школы-інтэрната. Ёй, як і кожнаму нармальнаму чалавеку, балела галава за дысцыпліну і парадак, ёй хацелася не страціць аўтарытэту ў начальства — ёй хацелася жыць. І таму яна не вытрымала, адчыніўшы дзверы прыбіральні ды ледзь не падавіўшыся ўдушлівым і зусім не эстэтычным пахам, хапілася за сэрца:

— Нягоднікі, мярзотнікі, ідыёты! — прашапталі яе вусны, і пачалася істэрыка, яшчэ хвіліна — і загіне шэдэўр ад атрутнае кіслаты яе поўных жаху вачэй, — Зараз жа ўбраць гэтае паскудства! Мастака — да мяне...

Мастака! Мастака! Мастака!..

І тады ён заплакаў. Ён, хто не плакаў бы нават, калі б Гроб прымусіў яго ўкленчыць, грызці зямлю, уніжана прасіцца... З Гробам варагавалі яны спрэдку свету, так і не падзяліўшы месца пад сонцам. У Гроба быў цэлы горад, а ў яго, Абабідзы — толькі школа-інтэрнат. Інтэрнат не меў права сунуць нас ні на "дыскач" у Дом культуры, ні пагуляць увечары па парку, ні палазіць уначы па горадзе, каб палічыць на паўцёмных вуліцах рэдкія палахлівыя ліхтары. За гэта Гробу трэба было плаціць падатак — ГРАБАВЫЯ... Непамысна! То было абуральным парушэннем Міжнароднай канвенцыі аб правах чалавека. І таму Абабідзе будзе змагацца з Гробам да магілы... Колькі разоў сыходзіліся вої на закінутай пустэчы, што за вальерамі. "И бысть сеча..." Колькі разоў назіралі напалоханыя звяры з клетак за раз'юшаным, агаломшаным прагаю крыві чалавекам...

І тады ён заплакаў. Плакалася надрыўна і пякуча, ён нават не хаваў ад хлапцоў сваіх слёз. Плакалася ад безвыходнасці, злосці і бяссілля... Плакалася ці не ўпершыню пасля таго змрочнага позняга асенняга вечара, калі, вярнуўшыся са школы, убачыў дома, на кухні, маму... пасечаную на кавалкі. На падлозе, у лужыне крыві намокла яе любімая квяцістая сукенка... А побач выстраіліся, бы на парад, шарэнгі пустых бутэлек. І — кілбаса на талерцы, акуратнымі тоненькімі скрыдлікамі, аж свіцяцца, бацька так не ўмее рэзаць, у яго вечна рукі трасуцца. І — бацькавы шалёныя вочы, ЗВАР'Я-ЦЕЛЫЯ, НЕ-ЧА-ЛА-ВЕ-ЧЫЯ. Убачылі яго, Сеньку, УС-МІХ-НУ-ЛІ-СЯ...

— Хадзі, хадзі, сыночак, хадзі да мяне...

Бацька, каб злавіць раўнавагу, не ўпасці, абапіраўся на шырокі кухонны нож, акрываўлены, тарчмака ўваткнуты ў драўляны абедзенны стол...

— А-а-а-а! — Сенька кінуўся наўцёкі, бег. колькі неслі ногі, безвач, хоць яго, дзіва, ніхто не даганяў... Ён усё роўна адчуваў, як на шыі вільготнай халоднай пелькаю сціскаецца мяккі варсісты шалік, як халадзее ўсё ўсярэдзіне, даўкі камяк, падступіўшы да горла, засціць дыхаць, а сэрца, як спуджаны верабей, што трапіў у сіло, роспачна-безнадзейна тузаецца-рвецца, вось-вось выскачыць на волю і паляціць...

Бацька любіў гэтак "пажартаваць", калі яго, малога, вучыў завязваць шалік... Ён ведаў, што некалі ўсё гэта павінна скончыцца, ён, Сенька, чакаў...

А пасля шаноўная і важная дэлегацыя засыпала іх "Марсамі" і "Снікерсамі". Тады яшчэ імпартовыя шакаладкі толькі ўваходзілі ў моду. І, уяўляеце, кожнаму — па ўпакоўцы. Елі — і ўжо болей не лезла. А старэйшых дзяцей усім класам павялі ў рэстаран, да прусакоў. Ну, і што там? Ну, і ерунда там! Няхай і хлопцы скажуць. Абабідзе тую чорную ці чырвоную ікру ўпісваў за абедзве шчакі ледзь не кожнае раніцы — на сняданак. Здзівілі! А на абед давалі тут і бананы, і апельсіны, і нават мясцовыя калгасныя каровы спецзаказам для інтэрнацкіх даіліся птушыным малаком. Вось толькі даўно не спрабаваў Абабідзе падсушанае ля каптурка, загартаванае на маразах у скрынцы, якую мама падвешвала, бывала, на гарышчы, на кроквах, пад самы "каралёк", сырое дамашняе кілбаскі. Бярэш і рэжаш, і нават без хлеба ясі, заміж цукерак ці гумкі.

Затое пасля афіцыйнага прыёму ў рэстаране хлопцы наладзілі свой "прыём", бо трэба ж было памянуць, светлая ёй памяць, нябожчыцу-карціну. У тайнічку, за вентыляцыйнай рашоткаю, як ведалі, прыхавалі на чорны дзень дзве пляшкі. Закусь прынеслі са сталовай. Там дзяўчаткі працуюць — свае людзі. Колькі разоў выручалі. Нават калі Макітра, было, за тое, што не схацелі хадзіць на прадоўжанку, пазбавіла іх вячэры, хлопцы не баяліся зайсці ў сталовую. Пойдуць позна вечарам, як белыя людзі, паднаціснуць на свежую бульбачку з маласольнымі гурочкамі — і не бяда.

Вечарам Абабідзе строіў малечу на падаконніках, чысціў кішэні, рабіў рэвізію у тумбачках. Хлопец не ведаў, на кім спагнаць злосць і крыўду, куды прагнаць гора і знявагу, якія з бруднымі нагамі без стуку ўварваліся ў пабудаваны яго ўяўленнем ПАЛАЦ, загаспадарылі, і не засталося там месца ні СВЯТЛУ, ні ВЕРЫ, ні НАДЗЕІ. Застаўся адзін НЕАДЧЭП.

... — Цішановіч! Мне надакучыла твая агідная філасофія... Мне, уяві сабе, непрыемна бачыць цябе на сваім уроку. Я, калі хочаш ведаць, таксама чалавек. І калі цяжкое дзяцінства: коўзкія падаконнікі і цацкі, прыбітыя да падлогі — я, верыш, не вінаватая.

— Веру, Марыя Кірылаўна... Веру, і вельмі ахвотна. Але што я такое зрабіў?

— Ты зрабіў мне балюча, Цішановіч. І няхай нас з табою... няхай нас рассудзіць Бог. Зрабі ласку, пакінь клас...

— Назаўсёды?

— Як хочаш.

Абабідзе падняўся. Нехаця, як ведаў, паклыпаў да дзвярэй. Іншым разам ён вылецеў бы з класа імкліваю страпою, бо каму ж не хочацца пагуляць падчас урокаў.

"Ты зрабіў мне балюча..." Быццам ён кнутом з тым жалезным набалдэшнікам не па дэбільнай парце — аж водгулле пайшло па класу — а па хітрай Макітры... Проста ў яго быў яшчэ не выпрабаваны кнут і быў настрой... Вось і ўсё. А Макітры ён і сапраўды надакучыў, бо так і не змог ёй дараваць апаганенае душы. Нічога, калі вырасце, ён абавязкова напіша такое палатно, якое не пад сілу нікому апаганіць...

Чырык! Ты?.. Цябе таксама высадзілі з карабля? — хлопец здзівіўся, што на пустэльным інтэрнацкім калідоры аказаўся не ён адзін. Чамусьці нават не мог уявіць сабе, што да борта прычаліць выратавальная шлюпка. Ля акна стаяла дзяўчына, якая некалі нават займала часцінку яго сэрца. Не, першага яго кахання яшчэ не прынеслі сюды ветравеі, але часцінка сэрца, ён гэта добра памятае, сто гадоў таму была аддадзена Чырыку, каб сябраваць.

— Абабідзік, — здзіўлена падняла вочы тая, — ведаеш, у цябе напэўна паехаў на Карлуху дах.

Карлухаю называлі такое месца ў горадзе, куды з'язджаліся на адпачынак усе ашалеўшыя ад жыцця людскія дахі...

А гэтыя ж дзяўчаты-нягодніцы і абазвалі яго экзатычнаю грузінскаю клікухаю, затое, мабыць, што Абабідзе ніколі не быў у Грузіі. Клікуха прыліпла да хлапца, як сала да падэшвы, каб болей не расставацца з ім ніколі. Гэта пасля яе ўпадабалі, абеларусілі, пачалі скланяць...

— Чырык, я цябе люблю... сёння...

— А заўтра?

— Заўтра ты будзеш любіць мяне... Хочаш, я цябе зараз жа і пацалую, ну, у шчочку.

— Ты звар'яцеў?!

— А не. Я ж толькі яшчэ вучуся... вар'яцець. А хочаш, давай махнём з табою на край свету...

— На край свету? Гэта куды — да белых мядзведзяў?

— А точна. Давай лепей да бурых. Мы зараз паедзем з табою да вальераў, і я падару табе самага прыгожага мядзведзя.

Праз паўгадзіны яны ўжо імчалі на падарожнай машыне туды, дзе чалавек пасадзіў у турму звяроў. Драпежнікі, закратаваныя ў сталёвыя рамкі хцівых чалавечых законаў, дакорліва пазіралі на прышэльцаў. Быццам гэтыя прышэльцы былі з нейкае іншае планеты. Ваўкі, якім сам Бог наказваў быць крыважэрнымі, заняволіўшыся, падобныя да звычайных сабак, насцярожана стрыглі вушамі. Маленькія лахудрыкі-мядзведзікі гарэзліва валтузіліся на зямлі, гуляючы самі з сабою, як хатнія кацяняты, а дарослыя з абурэннем пазіралі на неразумных дзяцей сваіх і насцярожана — на людзей, якія няпрошанымі гасцямі прыйшлі, сталі ля вальераў. Дарослыя мядзведзі гатовыя былі ў любы момант кінуцца абараняць сваіх дзяцей ад чалавека, які хітра іх перамог. Але быў сярод іх і адзін дзівак, які, відаць, на старасці гадоў здзяцінеў, бо зрабіўся цыркавым. Ён ахвотна браў цукеркі з рук і за гэта вытанцоўваў, учапіўшыся калматымі лапамі за краты. Як жа лёгка бывае купіцца за цукерку, пачаць скакаць... Суседзі-мядзведзі здзекліва ківалі галовамі, але ўсе маўчалі.

А можа, толькі здалося Абабідзу, бо ён яшчэ не ведаў, што звяры лепей за людзей умеюць маўкліва спачуваць.

— Слухай, Чырык, яны нешта ведаюць такое, чаго не ведаем мы.

— Хто?

— Звяры, вядома. Глядзі, якія грацыёзныя, гордыя казулі, якія яны асцярожныя. Відаць, адчуваюць, што клетка не на ўсё жыццё, а будзе яшчэ лес, дзе трэба трымаць вуха востра. Я хачу намаляваць іх у палёце, абавязкова чырвоным алоўкам, неакрэслена, проста штрыхамі. Хочаш, я намалюю і заўтра падару табе?

— Дзякуй, ты падарыў мне жывога мядзведзя.

— Дык выбірай, чаго стаіш! Мы яго зараз заарканім і ў інтэрнат павядзём.

— Макітры не хапае мядзведзя.

— Схаваем...

— За вентыляцыйным акенцам...

— А чаму б і не. Будзем прыносіць яму са склада шакаладкі, цукеркі — цэлымі ўпакоўкамі.

Яны па-змоўніцку зарагаталі.

О, як прыемна было блукаць тут між елак і сосен, між звяроў і... зорак — адным у цэлым Сусвеце. О, як не хацелася да людзей... А можа, і не вяртацца? Падумаць, хто іх чакае? Макітра? Сама ж дазволіла — назаўсёды. Але куды падацца, акрамя інтэрната? Каму яны патрэбныя?

Вярталіся позна ўначы, любаваліся асавеўшымі вачыма сонных гарадскіх ліхтароў, радаваліся крывым завулкам і нават калюжынам, што расплыліся на ўсю дарогу, не давалі прайсці... Як мала чалавеку трэба для шчасця, і як многа...

— Гуляемус?.. "Ба, знакомые все лица!" Кароль Абабідзе першы. Першы і апошні. Вашае Вялікасці дакладваем, што вы парушылі дзяржаўныя граніцы і, такім чынам, знаходзіцеся на тэрыторыі варожай вам краіны...

— Каціся, Гроб, не месца для разборак, і не час. Не бачыш, я з дзяўчынаю. Па ўсіх, між іншым, правілах, па пісаных і няпісаных...

— Ах, праведнік. Падсцілачку сабе знайшоў, вось мы зараз і дапаможам ёй... прылегчы.

Гроб імгненна падставіў падножку, і Чырык знянацку плюхнулася ў калюжыну, брудная, слотная, абразлівая вада раўчукамі пацякла за каўнер, апякала холадам і адчаем.

Абабідзе адразу ж усё зразумеў... Ён бачыў: сілы няроўныя, аднаго супраць гэтай зграі яго надоўга не хопіць, але нельга было нават падаць выгляду, каб не напалохалася Чырык. Хлопец успомніў, што некалі займаўся каратэ і, дзіка з асалодаю ўскрыкнуўшы, наводмаш ударыў Гроба кулаком у сківіцу. Яшчэ ўдар, яшчэ — налева, направа...

— Цякай, Чырык, — паспеў прахрыпець, — я іх тут пакуль... затрымаю...

Баяцца паміраць ён не паспеў. Ён ніколі раней не бачыў у вочы смерці. А прыйшла... матуля. Жывая, у любімай квяцістай сукенцы, сумна ўсміхнулася, паківала:

— А хіба ты жыў, сынок?.. Хадзем да нас, са мною табе будзе лепей...

Прывідная і такая жаданая, яна пяшчотна, як колісь у маленстве, дакранулася да яго рукі, лёгкім, бадай паветраным крокам павяла за сабою...

Гарадок наш райцэнтраўскі па-ранейшаму любяць вятры. Нагуляўшыся ўволю на пляцы, яны хаваюцца за старым млыном, на гарадскіх могілках, на начлег. Там на сонечным узмежку парос салодкімі суніцамі курганок, да якога нават на радаўніцу ніхто не прыходзіць паплакаць. Хіба час ад часу пагалосіць-памяне ў ельніку вецер...

Анатоль КАЗЛОЎ



## ДАЙ, БОЖА, УСІМ НАМ...

**Балюча і сорамна хаваць вочы ад тысяч жабракоў, якія грыбамі ўзраслі на вуліцах горада, у падземных пераходах і метро. Прыкра слухаць перадачы па радыё і глядзець тэлебачанне, дзе "разумна" вучаць няшчасных, як стаць шчаслівымі.**

**Балюча за нацыянальную культуру, гісторыю, мастацтва і літаратуру. За цяпер ужо мінулы год, усё падмялі пад ногі людзі новай улады, тыя, хто павінны клапаціцца, аберагаць і дапамагаць набіраць сілу яе здаровым парасткам.**

**Калі паглядзець вакол, то здаецца, што творчая інтэлігенцыя нашай самастойнай і суверэннай краіны ўвогуле непатрэбна, яна, як быццам, з'яўляецца баластам на шляху да эканамічнага дабрабыту беларусаў.**

**Спадзяюся, што 1996 год зменіць становішча да лепшага. У выдавецтвах, нарэшце, пачнуць выходзіць рэгулярна кнігі пісьменнікаў, выставачныя залы парадуюць вернісажамі і новымі экспанатамі, тэатры перастануць "карміць" гледачоў толькі замежнымі (іншы раз нізкапробнымі) спектаклямі, у школах беларуская мова не будзе падчарыцай, а зойме пачэснае месца.**

**І ўрэшце, большасць дзяржаўных мужоў зразумее простую, але важную ісціну: не хлебам адзіным жыве чалавек!**

**Дай жа, Божа, гэтага ўсім нам у Новым годзе!**

Адам ГЛОБУС



## ШАРЫ

**У 1995 годзе мяне моцна закранула трагедыя ў небе над вёскаю Бяроза, калі ўзброеныя сілы Рэспублікі Беларусь па загадзе Маркоўкіна расстралялі з кулямёта паветраны шар і забілі двух аэранаўтаў. Абурэнняў выказвалася шмат, спачуванняў таксама. Толькі я далучыўся да здарэння містычным чынам... У далёкім 1983 годзе ў Мінску абвясцілі падрыхтоўку да выставы, прысвечанай спорту. Як мастак апалітычны я выбраў тэму паветраплавання на шарах. Захапляўся я ў той час вывучэннем супрэматызму, таму шары выглядалі на карціне чырвонымі кругамі, а люлькі — чорнымі прастакутнікамі. Два чырвоныя шары ціхамірна прыплылі ў Палац мастацтваў, дзе пільныя змагары за сацыялістычны рэалізм алоўкам накрэмзалі на падрамніку гнюснае слоўца "отклонить". "Шары" знесліся з палаца і павесіліся ў бацькоўскай кватэры на сцяне. Яны там віселі, віселі, пакуль адзін з намаляваных шароў не лопнуў самым натуральным чынам. У сярэдзіне аднаго круга з'явілася трэшчынка, потым фарба адслаілася ад палатна і пачала пацІху згортвацца. Рэстаўраваць шар жадання не ўзнікала... Таму, калі бацькі выязджалі з той кватэры, я нібыта незнарок палатно забыўся. "Шары" колькі тыдняў прастаялі на лесвічнай пляцоўцы, пад дзвярыма У. Някляева, пакуль іх не забраў мой былы сусед па пад'ездзе М. Клімковіч. Ён нават спытаў, ці няма ў мяне намеру паднавіць прыпсаваны твор. Адмовіўся. Трэснутая карціна вісела высока пад столлю. Яна б і зараз вісела на цвіку, каб не пільнасць супрацьпаветранай абароны. Пасля смерці аэранаўтаў я папрасіў, на ўсялякі выпадак, Клімковіча вярнуць "Шары". Ён прынёс карціну, і зараз "Шары" ціха стаяць у шафе, каля сейфа, у рэдакцыі часопіса "Бярозка". Так што ёсць яшчэ адзін апошні шар, каб узняцца...**

# ВЕЧНЫ РУХ

### КОЛЬКІ СЛОЎ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ НАРОДНАЙ АРТЫСТКІ БЕЛАРУСІ КЛАРЫ МАЛЫШАВАЙ

У глыбіні маёй памяці захоўваюцца даўнія, яшчэ дзіцячыя, а таму, магчыма, асабліва каштоўныя ўспаміны, звязаныя з казачным, паэтычным балетам "Папялушка". Геніяльная музыка С. Пракоф'ева, велізарныя маляўнічыя дэкарацыі, таямнічы паўзмрок сцэны, — усё гэта так моцна ўздзейнічала на дзіцячае ўяўленне, што засталося ў памяці на два дзесяцігоддзі. Гэтак жа, як высакародны Прынц, акурат казачны, і галоўная гераіня — невысокага росту, у белым напудраным парычку. Шчаслівая і разгубленая пакідае яна апоўначы каралеўскі палац... Папялушка — Клара Малышава.

Потым я паспела пабачыць балерыну ў "Альпійскай баладзе", у ролі італьянскай дзяўчыны Джуліі, у партыі Няўзіры ў "Выбранніцы" (абодва балеты на музыку Я. Глебава ў пастаноўцы А. Дадзішкіліяні). Шкадую, што маіх успамінаў, якія датычаць вобразаў, створаных балерынай на беларускай сцэне, так мала, бо за няпоўныя дзесяць гадоў яна паспела асвоіць, станцаваць, перажыць многія вядучыя партыі тагачаснага балетнага рэпертуару. Сярод іх былі Кітры, Джульета, Аўрора, Эгіна, Дорская дзева і шмат іншых.

Яна прыйшла ў наш тэатр у 1965 годзе, маючы за плячыма балетную адукацыю, атрыманую ў славутым Пермскім вучылішчы (ці ведаюць пра гэта яе шматлікія вучаніцы?) і амаль дзесяцігадовы артыстычны вопыт, набыты на сцэнах Горкаўскага і Чэлябінскага тэатраў оперы і балета. Артыстычны талент К. Малышавай найбольш яскрава выявіўся ў сярэдзіне 60-х і на пачатку 70-х гадоў. (Менавіта яна была першай выканаўцаў партыі Джуліі ў харэаграфічнай версіі быкаўскай "Альпійскай балады". Ад сваёй прэм'еры ў 1967 годзе спектакль пражыў больш за два дзесяцігоддзі, паказваўся больш за сто разоў, і гэта яшчэ адно сведчанне мастацкай трываласці, закладзенай у сцэнічны твор яго стваральнікамі — пастаноўшчыкам і артыстамі). К. Малышава належыць да таго пакалення выканаўцаў, што і Н. Давыдзенка, А. Карзянкова, Л. Ражанава і І. Савельева, В. Давыдаў і М. Шэхаў, Л. Чахоўскі і В. Міронаў. Гледачы старэйшага ўзросту яскрава памятаюць уласнае захапленне іх танцам. балетаманы маладзейшага веку ведаюць пра іх творчасць дзякуючы кнігам, альбомам, кінаплёнкам, фотаздымкам... Але мастацтва згаданых артыстаў не зрабілася з цягам часу набыткам адной толькі гісторыі. Іх творчыя заваёвы сфарміравалі ШКОЛУ, зрабіліся тым падмуркам, на якім цяпер грунтуюцца поспехі і міжнароднае прызнанне беларускага балета.



*Сцэна з балета "Лаўрэнсія": у цэнтры — К. МАЛЫШАВА.*

Развітаўшыся ў 1977 годзе з акадэмічнай сцэнай, Клара Мікалаеўна амаль паўтара дзесяцігоддзя была мастацкім кіраўніком харэаграфічнага вучылішча. Колькі клопатаў, турбот, спрэчак (творчых і нятворчых), нарэшце, якіх моцных нерваў вымагае такая пасада, ведае толькі той, хто пакаштаваў гэтага хлеба. Вучылішча не мела тады спецыяльнага прыстасаванага будынка, тых умоў і, скажам шчыра, тых спонсарскіх грошай, якія яно мае сёння. Умовы працы былі досыць суровыя, але тым не менш традыцыяй зрабіліся штогадовыя справаздачныя канцэрты на сцэне тэатра. Менавіта ў гэты час у рэпертуары вучылішча з'яўляюцца аднаактовыя балеты "Пахіта" Л. Мінкуса і "Фіеста" М. Рымскага-Корсакава. А самае галоўнае, 70—80-ыя гады былі дужа багатыя для вучылішча і балетнай трупы тэатра на яркія таленты, індывідуальнасці. Сапраўды, "зорны час"! Нельга лічыць гэта заслугай аднаго чалавека, бо такія перыяды ўзлётаў, творчага ўздыму падрыхтаваны намаганнямі многіх — педагогаў, рэпетытараў, балетмайстраў. Каб пералічыць найбольш яркіх выпускнікоў вучылішча таго часу, трэба назваць ці не ўсіх цяперашніх салістаў акадэмічнай трупы...

Чалавек творчы — гэта звычайна асоба шматаблічная, шматгранная. Амаль на кожным справаздачным канцэрце выхаванцы вучылішча прадстаўляюць на суд гледачоў некалькі танцавальных нумароў, пастаўленых іх педагогам Кларай Мікалаеўнай. Ведаю: мясцовыя "эстэты", здараецца, моршчаць насы, маўляў, вучэбная, "прыкладная" харэаграфія! Але балетных нумароў, якія ўлічваюць тэхнічныя і артыстычныя магчымасці вучняў, катастрафічна не хапае. Сапраўды, няма прарокаў у Айчыне сваёй! Згадваю, як аўтарытэтныя балетныя крытыкі з Санкт-Пецярбурга Марына Ільічова і Вольга Розанава, якія прыязджалі ў Мінск на міжнародны фестываль, прысвечаны 50-годдзю нашай харэаграфічнай школы, аднадушна казалі пра балетмайстарскія ўдачы Малышавай.

На працягу многіх гадоў клопат Клары Мікалаеўны — японскія балерыны, якія з ахвотай прыязджаюць у Беларускае харэа-

# БАМ ПРАДСТАЎЛЯЕ...

Мінулай восенню ў зале Беларускай акадэміі музыкі адбыўся канцэрт з назвай "Парад віртуозаў". Так пачалася серыя канцэртаў з цыкла "Вечары папулярнай класічнай музыкі". На працягу 1995—96 гадоў запланавана пяць канцэртаў гэтага цыкла (дарэчы, другі, прысвечаны музыцы С. Манюшкі, прайшоў з вялікім поспехам).

26 снежня, у "Вечар вальса", навагоднім падарункам сталася выступленне Сімфанічнага аркестра БАМ пад кіраўніцтвам М. Казінца. Творы беларускіх кампазітараў — у праграме, запланаванай на 22 лютага 1996 г. І апошні канцэрт цыкла пройдзе 21 сакавіка (удзел бярэ оперная студыя акадэміі).

Мэта правядзення такіх канцэртаў у тым, каб БАМ зрабілася сапраўдным цэнтрам музычнай культуры рэспублікі, а яе ўтульная зала — прэстыжным і прывабным канцэртным асяродкам сталіцы.

Ідэя стварэння "Вечароў папулярнай класічнай музыкі" ўзнікла ў першага прарэктара, доктара педагагічных навук прафесара В. Яканюка два гады таму. Яму патрабавалася толькі знайсці аднадумцаў і спонсараў, без дапамогі якіх сёння немагчыма зарганізаваць годны канцэрт. Бо публіка павінна не толькі слухаць выканаўцаў, але і адчуваць святочную атмасферу ў зале, бачыць з густам аформленую сцэну.

Згадайма самы першы канцэрт, які не адбыўся б, калі б у яго аснове не было "саюза чатырох": прафесара В. Яканюка, галоўнага рэжысёра свята; Э. Скуратавай — кіраўніка выканальніцкай практыкі; Л. Івановай — адначасова рэжысёра, дызайнера (афармленне сцэны — яе заслуга), адміністратара залы. А таксама турыстычнай фірмы "Блакітная птушка", фінансавая падтрымка якой адыграла вельмі важную ролю ў арганізацыі канцэрта.

У той вечар зала была поўная. Прыемна было пабачыць не толькі прадстаўнікоў акадэміі, але і вучняў музычных школ, ліцэя, іх настаўнікаў і бацькоў і проста меламанаў. Канцэрт жа быў сапраўды "парадам віртуозаў", лаўрэатаў міжнародных і нацыянальных конкурсаў, "залатой беларускай музычнай моладзі", — ад вучняў ліцэя да асістэнтаў-стажораў БАМ.

Адкрыў канцэрт дыпламант Міжнароднага конкурсу піяністаў імя У. Горавіца (Украіна, 1995), вучань 8 класа ліцэя пры акадэміі (клас У. Нехаенкі) В. Нетук. Ігра ягоная ўразіла стыхійнасцю, размахам, яркасцю і артыстызмам, што падмацоўваецца першакласнай тэхнічнасцю. Перад юным піяністам стаіць задача навучыцца валодаць сабой, дысцыплінаваць пачуцці.

Г. Шыбаева (студэнтка І курса БАМ, клас дацэнта І. Алоўнікава), лаўрэат трох міжнародных конкурсаў піяністаў, найперш здзівіла сваёй знешнасцю. Гэтая крохкая, невысокая, таямнічая дзяўчына выконвала вельмі цяжкі ("мужчынскі") твор, Эцюд N 6 Н. Паганіні — Ф. Ліста. Увогуле яна справілася, да таго ж, Ганна мае дзівосную здольнасць "самазапаляцца", чым захоплівае слухачоў.

Студэнтка ІІ курса акадэміі (клас Л. Шаламенцавай), лаўрэат Міжнароднага конкурсу піяністаў імя Б. Дварыёнаса (Літва, 1986) Н. Белан сваім выкананнем адразу далучыла гледачоў да імпрэсіяніскай атмасферы твораў М. Равеля "Ундзіна" і "Скарбо" з фартэпіяннага цыкла "Начны гаспадар". Настасся — адна з нешматлікіх асоб, пра чыю ігру ў гэты вечар можна сказаць адным словам: годна. Яе ігра дасціпная і лёгкая, каларыстычная і гарманічная. Увогуле, піяністка ўражвае цэласнасцю натуры, валодае эмацыянальнай шчырасцю і выканальніцкай чароўнасцю.

Лаўрэат Міжнароднага конкурсу (І-я прэмія па кампазіцыі, 2-я па фартэпіяна, Румынія, 1995) Славамір Заранок, студэнт ІІІ курса (настаўнікі — У. Кузьменка па фартэпіяна і А. Мдзівані па кампазіцыі). Ён зрабіў на публіку досыць супярэчлівае ўражанне, сыграўшы тры творы, кожны з якіх раскрыў розныя бакі творчай натуры выканаўцы. (Эцюд Ф. Шапэна, ф. 25, N 10, "Руская" з фартэпіяннай сюіты "Пятрушка" І. Стравінскага, аўтарскі твор — "Прэлюд").

Відавочна, усе гэтыя маладыя піяністы вызначаюцца добрай тэхнічнай базай, ім не страшныя ні хуткія тэмпы, ні іншыя выканальніцкія цяжкасці. Яны маюць свабоду выяўлення, творчую энергію і багатую фантазію. Некаторым з іх засталося дадаць змястоўнасці, большай выразнасці, пачуцця меры і густу.

З музыкантаў-духавікоў найбольш уразіў В. Іваноў, лаўрэат усесаюзнага і міжнароднага конкурсаў, пяцікурснік акадэміі (клас І. Брычыкава). Гэта выканаўца высокай музычнай культуры, "моцнымі бакамі" якога можна назваць лірычны пачатак, сцэнічную арганічнасць.

Два іншыя віртуозы — саксафаніст А. Хрушчоў, лаўрэат пазалеташняга Рэспубліканскага конкурсу выканаўцаў на духавых інструментах, студэнт ІІ курса (клас Б. Нічкова) і трубач А. Кавалінскі, лаўрэат двух міжнародных конкурсаў, студэнт І курса (клас М. Волкава) — выглядалі крыху аднапланава. Гэта сур'ёзныя музыканты, іх ігра вылучаецца ўпэўненасцю і ўстойлівасцю, лагічнасцю і ўдумлівасцю. Можа быць, ім



*У дуэце з М. КРАСОЎСКІМ (спектакль "Дон Кіхот").*



*На занятках з японскімі балерынамі.*

графічнае вучылішча. Суперсучасная тэхнакратычная Японія не мае дзяржаўных балетных школ, усе яны толькі прыватныя. Таму дапамога нашых педагогаў, іх вопыт і методыка аказваюцца вельмі карысныя і каштоўныя. Частку гэтых заняткаў Клара Мікалаеўна праводзіць у далёкай Японіі, таму творчыя вандроўкі — пералёты праз палову зямнога шара — зрабіліся для яе амаль звыклымі.

Перпетуум мобіле... Калі вы мяркуеце, што ён не вынайдзены, зазірніце ў балетную залу вучылішча, дзе К. Малышава рэпеціруе з нашымі або японскімі балерынамі, і вы зразумееце, што памыляліся. Рух цела і душы, адлюстраваны ў танцы артысткі; нястомны, заўсёдны рух волі і энергіі педагога, што перадаецца вучаніцам, жывіць іх творчыя дасягненні, — ці не вызначае гэта ўрэшце творчы лёс?.. Лёс маленькай адважнай жанчыны, заўсёды энергічнай, рашучай, незалежнай і часам рэзкай у меркаваннях. Але яе дзівоснае няўменне спяваць у агульным хоры вартае многіх, па-руску кажучы, "добродетелей".

Вечны рух, які ўяўляе сабой кожны танец, спектакль, наогул артыстычны лёс, рух да зіхатлівых вяршынь мастацтва, — ці не зарука ён заўсёднай маладосці творцы, апантанасці мастацтвам, калі "круглыя" даты маюць сэнс не самі па сабе, а толькі адкрываюць новыя творчыя далягляды?..

А наконт юбілею... Казаць пра гады ў дачыненні да жанчыны, а тым больш артысткі, ніякавата... Зазірніце ў энцыклапедыю. Тая ўсё ведае.

З днём нараджэння вас, Клара Мікалаеўна!

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

---

пакуль не хапае індывідуальнасці, характарыстычнасці.

Спынюся яшчэ на ансамблі салістаў духавых драўляных інструментаў пры Дзяржаўным канцэртным аркестры. Калектыў з васьмі першакласных музыкантаў (кіруе Б. Нічкоў) прывёў публіку ў вялікае захапленне — і не дзіўна, бо выканаўцы не ігралі музыку, а стваралі яе. Ігра "маленькага аркестрыка" ўразіла беззаганным майстэрствам і зладжанасцю ансамбля, лёгкасцю, зграбнасцю і яснасцю. Адным словам, — азарэнне. Яно прыходзіць, калі на сцэне з'яўляецца, раскрываецца, адбываецца штосьці неверагоднае, непаўторнае, які б твор ні гучаў.

Віртуозы-вакалісты былі прадстаўлены імёнамі А. Амбразевіч, студэнткі V курса БАМ (клас Л. Галушкінай), дыпламанта нацыянальнага конкурсу вакалістаў імя Л. Александроўскай, і У. Мароза, студэнта II курса (клас А. Генералава), лаўрэата гэтага конкурсу. Пры агульным валоданні голасам, не пазбаўленым моцы, А. Амбразевіч не хапіла вакальнай гнуткасці, артыстычнасці. Вельмі дастойна выглядаў У. Мароз, уладальнік прыгожага "аксамітнага" барытону — адначасова мяккага і гучнага, чыстага і роўнага. А добрая дыкцыя — сведчанне высокага прафесіяналізму.

В. Мішула, лаўрэат Нацыянальнага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах імя І. Жыновіча, асістэнт-стажор акадэміі (клас дацэнта Т. Сергіенкі), уразіла сваёй ігрой на цымбалах.

Адзначу і яшчэ адну "дзейную асобу" канцэрта: гэта С. Тургель, канцэртмайстар, дыпламант міжнародных конкурсаў, чалавек, улюбёны ў сваю прафесію. Не так часта сярод канцэртмайстраў можна сустрэць такую энергічную, дзейсную, тэатральна-творчую натуру.

**Наталля КСЁНЦ,**
**студэнтка Беларускай**
**акадэміі музыкі**

---

# ШЧАСЦЕ, ШТО ГЭТА — ЁСЦЬ...

Калі б вам давялося трапіць у Вільню ў дні Другога Міжнароднага конкурсу піяністаў імя М. Чурлёніса, што праходзіў тут увосень 1995 г., найлепшай візітоўкай для вас былі б словы: "Я з Беларусі". Рэакцыя ўсіх, хто знаходзіўся паблізу філармоніі, кансерваторыі ды іншых музычных цэнтраў, была б аднолькавай: "Відаць, вы знаёмы з Ванем Сцепанцовым і яго педагогам Арыяднай Гужалоўскай". Канешне, слухалі Ваню ў канцэртах і сочым за ягонымі поспехамі, як і за поспехамі іншых выхаванцаў нашага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі... А ў тыя восеньскія дні ўвага музычнай Летувы і шматлікіх замежных гасцей — журналістаў, прафесійных музыкантаў і меламанаў, што з'ехаліся ў Вільню, — была літаральна прыкаваная менавіта да яго, самага маладога ўдзельніка прадстаўнічага і прэстыжнага конкурсу. Конкурс жа сабраў 36 піяністаў і 17 арганістаў з 17 краін свету (у асноўным, дарэчы, ужо сталых музыкантаў, лаўрэатаў розных конкурсаў з Германіі, Ізраіля, Італіі, Латвіі, Летувы, Расіі, Украіны, Францыі, Швецыі, Эстоніі, Японіі і інш.).




Пасля выступлення Вані на першым туры, дзе ён іграў Баха, Шапэна, Рахманінава, Скрабіна, Чурлёніса, было ўжо зразумела, што на музычным небасхіле ўзыходзіць новая зорка, незвычайная па яркасці і колеры, якая зачароўвае і вабіць да сябе. Насуперак усім конкурсным правілам, што забараняюць авацыі і "бісы", публіка, якая запоўніла філарманічную залу, доўга не адпускала Ваню Сцепанцова са сцэны пасля такога дэбюта. Потым нават на ягоныя рэпетыцыі збіраліся шматлікія слухачы — і не толькі, так бы мовіць, "балельшчыкі", але й сапернікі-канкурсанты, і чальцы журы. Прыходзілі, каб працягнуць шчаслівыя імгненні сустрэчы з яго незвычайным мастацтвам — таямнічым, тонкім і адначасова валявым і маштабным. З яго адухоўленым, неверагодна артыстычным і адначасова — такім шчырым і пранікнёным выкананнем. З чароўным гукам, што мае столькі адценняў, з жывой і трапяткой пульсацыяй інтанацый-думак і інтанацый-пачуццяў, інтанацый-вобразаў і сімвалаў. Прыходзілі, каб далучыцца да працэсу станаўлення пад ягонымі пальцамі жывой і рухомай, як іртуць, формы-плыні, формы-працэсу і — разам — маналітнай формы-структуры, бездакорнай у сваёй лагічнасці пабудовы, у якой арганічна і натуральна суадносяцца часткі і цэлае, фрагменты і агульная панарама. Каб дакрануцца да цуду той адзіна магчымай, падаецца, трактоўкі твора, у якой ён нібыта "прарастае" ў вечнасць, не губляючы чароўнасці кожнага свайго імгнення.

Адчуванне цуду (а я веру сведкам віленскага трыумфу, якія менавіта так вызначалі свае ўражанні, бо, слухаючы Ваню, сама не раз адчувала тое ж) узмацнілася яшчэ больш пасля другога тура конкурсу. Праграма, з якой выступіў у ім піяніст, была, так бы мовіць, "не конкурснай", г. зн. не разлічанай на знешні эфект (для спецыялістаў удакладню: саната Шуберта ў цэнтры выступлення — такое рэдка можна пачуць на конкурсах). Аднак калі анёл спускаецца на зямлю, яго магіі не можна не скарыцца... Нарэшце, заключны, трэці тур з бліскучым лістаўскім канцэртам — парывістым і дынамічным, імклівым і тэмпераментным... Журы было аднадушна ў сваім рашэнні: бясспрэчна і безумоўна першае месца (яно было падзелена з даўняй любіміцай віленскай публікі, маладой летувіскай піяністкай Гуодай Гедвілайтэ).

"Вялікі талент, мастацкая адухоўленасць, цудоўная тэхніка, здольнасць ствараць своеасаблівую канцэпцыю", — так характарызаваў мастацтва Івана Сцепанцова старшыня журы, славуты амерыканскі піяніст, прафесар Каліфарнійскага універсітэта Даніэль Полак. Многія газеты змясцілі і іншыя ўсхваляваныя водгукі, сярод якіх найбольш характэрным, абагульняючым успрымаецца, бадай, выказванне летувіскай журналісткі Юратэ Кацінайтэ: "Калі Іван сядае за раяль, я забываюся, што яму толькі 16 гадоў, і бачу чалавека, які цалкам сфарміраваўся, які жадае і мае што сказаць слухачам... У яго ігры адчуваецца і моц, і пяшчота, і любоў, і страсць. Усё з вялікім густам, не экзальтавана, гарманічна...". Адкрыццём, сенсацыяй конкурсу, незвычайнай індывідуальнасцю, рэдкім талентам называлі Ваню многія тамтэйшыя газеты.

Несумненна, бліскучая перамога ў год, абвешчаны ЮНЕСКА годам Чурлёніса (з нагоды 120-гаддзя з дня нараджэння кампазітара і мастака) — вялікая падзея ў жыцці маладога музыканта. І гонар для Беларусі. Ён, між іншым, атрымаў яшчэ дзве ўзнагароды — як самы юны ўдзельнік гэтага "дарослага" конкурсу і як лепшы выканаўца твора летувіскага кампазітара В. Баркаўскаса.

Але варта прыгадаць, што прызнанне беларускай фартэпіяннай школы, і ў прыватнасці "школы Гужалоўскай", як можна было б сказаць зараз, адбылося ў Летуве даволі даўно. Яшчэ ў 1982 г. званне лаўрэата атрымаў на чурлёнісаўскім жа конкурсе (тады яшчэ міжрэспубліканскім) наш вядомы піяніст, колішні вучань Арыядны Мікалаеўны Уладзімір Дулаў. Потым, у 1994 г., перамога ў Вільні, на міжнародным конкурсе імя Б. Дварыёнаса, Дзяніса Маслюка. Я нагадваю гэта Арыядне Мікалаеўне, а яна кажа: "Проста мне пашчасціла на вучняў". І называе іншых сваіх выхаванцаў-"зорак": Ігара Галянкова — лаўрэата міжнароднага прэзідэнцкага конкурсу ў Італіі (1991 г.), Цімура Шчарбакова, які нядаўна ў Румыніі стаў лаўрэатам конкурсу імя К. Фільча адразу па дзвюх "пазіцыях" — як піяніст і як кампазітар (клас В. Карэтнікава). І ўсё ж у працы з Ванем, лічыць педагог, ёсць свая спецыфіка. Галоўнае — не парушыць яго ўласную выканальніцкую канцэпцыю, што складаецца неяк спантанна, нават стыхійна, але заўсёды аказваецца надзвычай пераканаўчай.

Неверагодна складана перадаць навыкі высокага прафесіяналізму (а ў ім, як вядома, непазбежны элемент прымусу, абмежавання і адначасова пэўнай універсалізацыі) і пры гэтым не дапусціць нівеліроўкі індывідуальнасці, страты надзвычай каштоўнага і рэдкага дару — адчування штохвіліннага свята творчасці, самарэалізацыі, раскрыцця, вызвалення той унутранай стваральнай энергіі, што даецца толькі адзінкам, выбраным... Неварагодна складана накіроўваць, не стрымліваючы, раіць, не загадваючы, прапаноўваць, не настойваючы. Зрабіць неабходнае жаданым, адзіна магчымым, дадзеным звыш, арганічным у спалучэнні з уласнымі памкненнямі. Менавіта ў гэтым і ёсць вялікае майстэрства, дадзенае толькі педагогам ад Бога.

Невыпадкова ўсе яе, Арыядны Мікалаеўны, вучні такія розныя, хоць і паяднаныя ў адным — сваёй удзячнасці ёй (і я таксама, бо з першага па апошні год школы вучылася ў яе). Невыпадкова ў сваіх інтэрв'ю Ваня заўсёды гаворыць: "Мае бацькі — музыканты, і я ўдзячны ім за выбар для мяне прафесіі, але ўсім я абавязаны свайму педагогу...". А яшчэ ён і ўсе мы вельмі ўдзячныя тым людзям, якія ўжо колькі гадоў апякуюцца ім ( ды й не толькі ім, а і іншымі юнымі талентамі, і музычным ліцэем у цэлым), падтрымліваюць і спансіруюць, — перш за ўсё кіраўніцтву фонду "Дзецям Чарнобыля" Ірыне і Генадзю Грушавым. Дарэчы, менавіта дзякуючы падтрымцы фонду, Івану ўдалося паехаць у 1993 г. на шапэнаўскі конкурс у Гецінген, дзе ён стаў дыпламантам (апрача ўсяго, яго, вельмі тады хворага, літаральна ўзнялі з ложка лекі, набытыя нямецкімі сябрамі фонду).

Дык няхай і далей шчасціць табе, Ваня, на прызнанне, на сустрэчы з чулымі, таленавітымі людзьмі і на творчыя здзяйсненні. Няхай і нам пашчасціць на будучыя сустрэчы з тваім мастацтвам. Зрэшты, як лічаць у Летуве — мы ўжо шчаслівыя, бо заўсёды маем магчымасць паслухаць Івана Сцепанцова...

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**
*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

---

# ЯЎХІМ КАРСКІ І ЯГО "БЕЛАРУСЫ"

135 гадоў назад у вёсцы Лоша пад Гроднам нарадзіўся чалавек, якому было наканавана лёсам стаць заснавальнікам беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства, увайсці ў гісторыю навукі (і не толькі беларускай) вядомым этнографам, фальклярыстам, палеографам. Яўхім Карскі напісаў больш за 700 прац па славістыцы, беларусістыцы і русістыцы. Ім была падрыхтавана "Праграма для збору асаблівасцей беларускіх гаворак" (1897 і 1916). Але найбольшую вядомасць Я. Карскаму прынесла яго фундаментальная трохтомная праца "Беларусы" (1903—1922), што складаецца з сямі выпускаў і з'яўляецца свайго роду энцыклапедыяй беларусазнаўства. Увогуле, "Беларусы" — найвышэйшае дасягненне еўрапейскай славістыкі пачатку дваццатага стагоддзя ў вывучэнні і даследаванні беларусаў як нацыі. Я. Карскі ўпершыню навукова абгрунтаваў самабытнасць беларусаў, як асобнага славянскага народа.

•

Безумоўна, супадзенне выпадковае і ўсё ж: менавіта ў гэтыя дні, калі адзначаецца 135-годдзе з дня нараджэння Я. Карскага, у выдавецтве "Навука і тэхніка" пабачыў свет першы том шматтомнага выдання, што таксама мае назву "Беларусы". Гэтая фундаментальная праца, напісаная знакамітымі навукоўцамі, ставіць за мэту падрабязна расказваць пра розныя бакі жыцця нашага народа. Першы том называецца "Прамысловыя і рамесныя заняткі". У ім у навукова-папулярнай форме разглядаюцца такія даўнія промыслы, як збіральніцтва, паляўніцтва, пчалярства, рыбалоўства, а таксама лясныя і леса-хімічныя промыслы. Не абыдзены ўвагай і розныя рамёствы — ткацтва, кавальства, ганчарства, пляценне, вышыўка...

Уладзімір КЛІМОВІЧ



## ЯШЧЭ АДНО СПАДЗЯВАННЕ

**Трывожна і радасна. Трывожна, бо злавіў сябе на тым, што адчуваю, быццам за мной хтосьці ўвесь час назірае, сняцца (вельмі выразна) якіясьці незразумелыя мне сны — нешта касмічнае, міфічнае...**

**Радасна, што, нарэшце, скончыўся Год Свінні. Для мяне гэта быў не самы лепшы год: я нарадзіўся пад сузор'ем Льва і не магу трываць абразы і плёткі, ліслівасць і падман. Але што зробіш, калі хтосьці атрымлівае найвялікшую асалоду якраз ад таго, што стварае гэткую гніль? Апошні год, магчыма, навучыў мяне толькі аднаму: трымацца як мага далей ад бруду, не зважаць на яго.**

**Цяпер перачытваю стос нумароў "Першацвета", каб вызначыць, каму ўручыць Прэмію Перспектывы за лепшую прозу. Дзякуй Богу, ёсць з каго выбіраць. У гэты раз, і надалей, вырашыў замест нейкіх сімвалічных па сённяшнім дні грошай уручыць лаўрэату грант на выданне першай кнігі і поўнасцю фінансаваць яе.**

**Радасна, што ў гэты год змог дапамагчы, і вельмі сур'ёзна, некалькім чалавекам... Сумую па Адзіноце.**

**Спадзяванняў на год Новы ў мяне шмат: спадзяюся,**

**— што мяне не пакіне натхненне;**

**— што са мной, як і раней, будуць ісці мае сябры. Няхай нешматлікія, затое правераныя і надзейныя;**

**— што ў "Мастацкай літаратуры" выйдзе запланаваная яшчэ на мінулы год кніга. Вычытваю гранкі;**

**— што запішу аўдыё-зборнік "Адзінокая здань";**

**— што, нарэшце, буду жыць у тым раёне горада, у тым доме і ў той кватэры, дзе і хачу. Буду сядзець у фуфайцы і лячыцца агменем, кідаючы ў жэрла сухія дровы;**

**— што будзе жыць мая прэмія;**

**— што атрымаецца прыязджаць у вёску часцей. Бываць на магіле бацькі;**

**— што ўцяку ў "Іслач". Я вельмі стаміўся ад уласнай актыўнасці. Але ставіцца да жыцця па-іншаму ў мяне наўрад ці атрымаецца... Вось толькі сны мае трывожныя. Ускокваю сярод ночы і, як зомбі, іду да стала, каб скончыць пачатае апавяданне. Разгортваю сшытак — апавяданне непачатае. Спадзяюся, "Іслач" падорыць Адзіноту і ўсё адразу стане на свае месцы;**

**— што на ўсе мае задумы хопіць часу;**

**— што ўсё ж паеду ў Егіпет. Я даўно павінен быў бы наведацца туды. Мяне вабіць маўклівасць пірамід, жорсткасць Сфінкса, смеласць Тутанхамона, жар і соль Чырвонага мора... Я нікуды гэтак не хачу, як у Егіпет! Адзін мой знаёмы ўрач-экстрасенс, жанчына, якой дастаткова проста зірнуць на чалавека, каб паставіць правільны дыягназ, пакапаўшыся (так сказала яна) у маёй Карме, вельмі сур'ёзна глянула мне ў вочы і паведаміла, што ў пазамінулым жыцці я быў фараонам — таму падсвядома і мкнуся ў Егіпет. Магчыма... Я ведаю — мне абавязкова прыйдзецца штосьці напісаць пра Егіпет, каб стала трохі лягчэй дыхаць пад гэтым невыносным цяжарам. Бо чаму гэтак выразна я бачу тысячы рабоў, якія цягнуць і цягнуць каменныя слупы грандыёзнай будоўлі, пазнаю рысы іх потных твараў? Чаму я бачу піраміды — яшчэ зусім маладыя, але такія блізкія? І чаму Сфінкс, страшны вартаўнік Вялікай Спадчыны, схіляе перада мной галаву, устае з гарачага пяску, пацягваючы свае замлелыя каменныя лапы, і нясе мяне гіганцкімі скачкамі па зямлі Егіпта, быццам апраўдваючыся, што ад усяго ён змог абараніць гэты край — толькі не ад Часу Гісторыі... Так, магчыма, я і быў фараонам.**

**Ну што ж, няхай гэта будзе яшчэ адно маё спадзяванне.**

# "ХОЧАЦЦА ВЕРЫЦЬ, ШТО НАШЫ ЛЮДЗІ ПАЧАЛІ ДУМАЦЬ..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

проста не могуць дзейнічаць так, як дзейнічаюць людзі з каманды таго, хто заняў пасаду прэзідэнта. Культурныя людзі разлічваюць на гуманныя метады дасягнення прагрэсу, а не на тэрор, а не на тое, каб браць за пелькі альбо за аблычка і душыць... Канешне, можна гаварыць, што Шушкевіч быў наіўны, калі разлічваў паладзіць з людзьмі, якія дзесяткі гадоў "сядзелі ў крэслах" і ведалі, як гэта выгадна, якія выдатна ўсведамлялі, што значыць мець уладу, і якія зусім не думалі ісці разам з Шушкевічам, так бы мовіць, у адной калоне. І Шушкевіч давяраў ім. А тыя ўзялі дый, груба кажучы, з'елі яго. Помню, як на пасяджэнні Прэзідыума ВС пачалі патрабаваць, каб кожны выказаўся, каго выбраць замест Шушкевіча спікерам. Я быў членам Прэзідыума, і калі дайшла чарга да мяне, я спытаў: "Адкажыце спачатку, растлумачце, за што "з'елі" Шушкевіча?" Мёртвая цішыня ў адказ, ніхто нічога не адказаў... А ўсё ж было загадзя спланавана, усё хітра прадумана. Перад гэтым, успомніце, двух сілавых міністраў скінулі. А пасля было 13 красавіка, калі дэпутатаў апазіцыі палкамі выгналі з залы парламента... Вось вам і магчымасці, вось вам і ўлада... Цяпер тыя, што пляскалі ў ладкі, калі выганялі дэмакратаў, і самі могуць апынуцца ў гэткай жа сітуацыі — хай толькі новы Вярхоўны Савет паспрабуе запярэчыць таму, што яму будзе прадыктавана...

**— Вы сур'ёзна дапускаеце ўсталяванне дыктатуры ў нашай краіне?**

— Я не бяруся сказаць, што будзе заўтра. Пра самае горшае ўсё-такі думаць не хацеў бы, але чакаць нас могуць вельмі невясёлыя рэчы. Чацвёрты пункт рэферэндуму, як вы памятаеце, дае прэзідэнту права разганяць Вярхоўны Савет, калі апошні парушацьме Канстытуцыю. Хто дакажа "ўсенародна абранаму", што парламент не парушае Канстытуцыю?! Ніхто! Скажа: "Парушыў!" — і ўсё тут. І я вас разганяю, і ўстанаўліваю прамое прэзідэнцкае кіраванне. А гэта значыць — дыктатуру адной асобы.

Асабіста я быў катэгарычна супраць увядзення ў Канстытуцыю раздзела аб прэзідэнцтве. Як у ваду глядзеў, не для пахвальбы кажучы. Проста адчуваў: мы не гатовыя да прэзідэнцкай формы кіравання. Нам калі і трэба было выбіраць прэзідэнта, дык такога, як у Германіі, — там гэта чыста прадстаўнічая пасада, а галоўную ролю выконвае канцлер. Мы ж захацелі моцнага прэзідэнта. А праз рэферэндум яшчэ і дадалі яму ўлады...

Калі глядзець на сённяшні стан рэчаў зусім рэалістычна, то, сапраўды, усё паказвае на набліжэнне дыктатуры. Вы ж паглядзіце, ужо і свабода слова душыцца. А што будзе далей?! Я не хачу вас страшыць, і думаю, што вы — не з баязлівых, але паўтаруся, сітуацыя можа і пагоршыцца, крыві папсаваць інтэлігенцыі могуць яшчэ нямала. Што ж, відаць, да той долі, пра якую марылі і пра якую марыцца, проста і лёгка прыйсці немагчыма.

**— І ўсё ж, калі дыктатура — дык якая яна будзе? Жорсткая, крывавая, "памяркоўная"? Пад якім, умоўна кажучы, сцягам яна будзе насаджацца? У сваёй кнізе "Фашызм" Жэле Жэлеў, як вядома, адрознівае чырвоную і белую дыктатуры...**

— Я чытаў гэтую кнігу прафесара і цяперашняга прэзідэнта Балгарыі Жэле Жэлева. Ён падарыў яе мне, калі я быў у Сафіі, яна была напісана яшчэ ў 1967 годзе, выдадзена толькі ў 1982, і за яе Жэлеў нямала калісьці пацярпеў...

Ну, здаецца, чырвоная дыктатура ў нас ужо была. Але справа, думаю, не ў колеры і не ў азначэнні. На вашае пытанне я адказаў бы так: дыктатура — яна і ёсць дыктатура, як яе ні называй. Праўда, яна і сапраўды можа быць рознай. Успомнім, напрыклад, як душыўся рэспубліканскі рэжым у Іспаніі і ўстанаўлівалася дыктатура генерала Франка. Колькі ахвяр было, колькі крыві пралілося! Дастаткова пералічыць імёны адных толькі рэпрэсіраваных паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў! Але потым, пасля вайны, патроху-патроху дыктатура пачала мякчэць, слабець, урэшце, так бы мовіць, сама сябе зжыла — і цяпер у Іспаніі сапраўдная дэмакратыя. Прыкладна тое самае мы можам сказаць і пра рэжым Пінахета ў Чылі. І тым не менш гэтыя прыклады перараджэння дыктатуры не могуць апраўдаць тых шматлікіх і страшных ахвяр, якія яна забірае. А ўжо для нашага шматпакутнага народа дыктатура можа азначаць і самы горшы зыход лёсу, можа, і канчатковую яго пагібель...

**— Ніл Сымонавіч, у пачатку вы ўжо казалі пра бруд палітычнай барацьбы, жорсткасць яе законаў і г. д. Але ж палітык — усё-такі перш-наперш чалавек, а тады ўжо палітык. Як узаемапранікаюць гэтыя паняцці: чалавек і палітык, чалавек і "ўладумаючы"? І што ў гэтым сэнсе вы можаце сказаць пра сябе асабіста?**

— Больш за ўсё ў чалавечых паводзінах я не прымаю хамства і гвалту. Нават на побытавым узроўні: скажам — проста на вуліцы. Яшчэ страшней, калі хам становіцца палітыкам. Так ужо здарылася, што самых культурных і самых інтэлігентных у нас вельмі доўгі час вынішчалі. Да ўлады прыходзілі людзі, далёкія ад культуры. Што з гэтага выходзіць — мы бачылі і добра бачым цяпер.

Палітыка, як я ўжо казаў напачатку, так ці інакш звязана з уладай. А да ўлады розныя людзі ставяцца па-рознаму. Ёсць людзі, якім гэта вельмі імпануе: кіраваць, камандаваць, загадваць. А ёсць людзі, для якіх гэта — ну зусім не па характары. Я належу да апошніх. Улады мне ніколі не хацелася, больш таго, я яе заўсёды пазбягаў. Яшчэ з педвучылішча, калі, помню, мяне сілком прымусілі ўзначаліць камсамольскую арганізацыю, а я адчуваў, што гэта — не для мяне... Але жыццё распараджалася мною не лепшым чынам. Мне неаднойчы даводзілася ратавацца ад улады. Вось і тады, калі я быў першым сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў: пакуль чацвёртай заявы не падаў, не мог пазбавіцца ад гэтай пасады. Я проста не ўяўляў, што такое ўлада. Я думаў, што ўсе пісьменнікі зацікаўленыя ў адным: каб наша літаратура развівалася, багацела, расла. Я спадзяваўся, што перш за ўсё пра літаратуру будзем клапаціцца. А чым прыйшлося займацца? Хадзіць выбіваць кватэры, машыны для пісьменнікаў, пасля Іслач будаваць: тармасіць міністраў, званіць у Літву, каб дастаць чарапіцу, у Баку, каб дастаць туф, і так далей — словам, ніякай прыемнасці. Не паэты, не пісьменнікі павінны гэтым займацца! Таму я і сышоў тады з высокай пасады ў СП...

**— Ніл Сымонавіч, вы кажаце, што ніколі не хацелі ўлады. Але ж самі ўлады вас, здаецца, любілі і падтрымлівалі...**

— Вы глыбока памыляецеся, калі так лічыце. Улады са мной не сябравалі і да канца не давяралі мне. Была б вельмі доўгая гісторыя, калі б прыгадаць усе факты, як мяне "любілі і падтрымлівалі". Але хоць пра некалькі выпадкаў раскажу. У 1957-м, будучы аспірантам, я збіраўся паехаць у складзе дэлегацыі ў Польшчу. Гэта мелася быць мая самая першая паездка за мяжу. І вось за тыдзень да ад'езду даведваюся, што мяне з дэлегацыі выкінулі. Або — такі факт. Пачынаючы з 1945-га, кожны год адзін беларускі пісьменнік уключаўся ў дэлегацыю БССР на асамблею Аб'яднаных Нацый. Значыць, недзе каля сарака пісьменнікаў і паэтаў там пабывалі. Нават такім беспартыйным дэмакратам, як Адамовіч і Барадулін, аказалі давер, і маіх былых студэнтаў у дэлегацыю ўключалі. І ні разу, ніколі не прапанавалі з'ездзіць мне — нават калі быў кіраўніком СП і членам партыі... Дарэчы, наконт партыі. Мяне часам пытаюць: а навошта вы паступалі ў яе? Адказваю, як было. Спачатку я доўгі час усяляк адмаўляўся, але нарэшце ўбачыў, зразумеў і пераканаўся: калі ты хочаш больш зрабіць для Беларусі, для беларускай мовы і культуры — ідзі, паступай, магчымасці будуць большыя. Прыкідкі ж нейкай, што жыццё можа інакш павярнуцца, што развалiцца СССР і так далей, — нават і блізка не было тады...

**— Значыць, раней, скажам, у гады вашай маладосці, нельга было нават здагадавацца, што нешта ўсё-такі робіцца не так, што калі-небудзь настануць перамены? Няўжо вы не бачылі, што партыяй насаджаюцца фальшывыя каштоўнасці, што гвалтуецца мова, што душацца беларускія школы?**

— Па-першае, забягаючы наперад, я хацеў бы вам сказаць: не спяшайцеся быць суддзямі, не спяшайцеся судзіць... Бо калі, крый Божа, усталюецца дыктатура, якая ўжо была, тады той, хто яшчэ будзе з майго пакалення жывы, паглядзіць, дзе акажуцца сённяшнія смелыя, мужныя ды адважныя, як яны будуць трымацца і што пісаць... А цяпер адкажу на ваша пытанне. Што зробіш, настолькі нас зашорылі марксісцка-ленінскай літаратурай, што мы і сапраўды былі доўгі час сляпымі. Ну, хіба маглі мы прачытаць хоць бы адну праўдзівую кніжку пра тое, што такое рэвалюцыя 17-га, што такое грамадзянская вайна, што такое калектывізацыя, што такое 1937 год і г. д.? А мог бы нам расказаць пра гэта хоць адзін старэйшы чалавек, які ведаў? Мог, увогуле. Але мне на гэта не пашанцавала. Я не ведаю, каму з майго пакалення нехта са сталых людзей альбо са старэйшых пісьменнікаў утлумачыў прыкладна так: "Слухай, хлопча, ты вось верш пра партыю напісаў. А ты знаеш, што пад яе кіраўніцтвам...?" Я не ведаю, каму так пашанцавала. Гэта я кажу пра свае студэнцкія гады, але калі толькі пачала надыходзіць сталасць і калі мы, я ў прыватнасці, пачалі разумець, што робіцца, мы сталі пратэставаць. Прыкладна з сярэдзіны 50-х гадоў я рэгулярна выступаў у абарону беларускай мовы, з 60-х (калі асабліва пачалі душыць беларускія школы) — ужо і зусім адкрыта выступаў. І петыцыі ў ЦК пісалі, і на сустрэчах у ЦК гаварылі. Бачылі, што робіцца — і пратэставалі. У рамках магчымага, натуральна.

**— Раз вы загаварылі пра мову і пра школу, прычым у непасрэднай узаемасувязі, то пытанне наступнае: як вы ставіцеся да ўтварэння Таварыства беларускай школы? І ці не здаецца вам, што функцыі ТБШ магло б выконваць і ТБМ?**

— Сапраўды, баюся, што мы можам наствараць безліч розных таварыстваў і ўсякіх арганізацый, а відочнай карысці з гэтага не будзе. Наконт Таварыства беларускай школы: канешне, можна было б абысціся і без гэтай арганізацыі, калі б усе суполкі ТБМ працавалі належным чынам, а не існавалі фармальна. Скажам, хай бы ў кожнай школе дзейнічала суполка ТБМ, куды б уваходзілі бацькі, дзеці якіх вучацца. Тады б мы маглі абмежавацца і адным ТБМ.

І ўсё ж ТБМ — гэта ТБМ: гаворка тут ідзе толькі пра мову, пра яе пашырэнне, абарону, пра культуру мовы і гэтак далей. Таварыства ж беларускай школы можа ставіць шырэй задачы: матэрыяльнае становішча іменна беларускай школы, падбор кадраў і інш. Патрэба ў гэткай арганізацыі ёсць. Галоўнае, каб працавала.

**— Ніл Сымонавіч, давайце нарэшце адарвёмся ад спраў грамадскіх, палітычных, надзённых... Якія вашыя найлюбімейшыя паэты?**

— Цяжка адказаць на гэтае пытанне з ходу. Прычым, знаеце, адна справа, што ты вось усведамляеш: гэта — вялікі паэт, а іншая рэч — калі табе хочацца чытаць і перачытваць якога-небудзь паэта.

Купала, Колас, Багдановіч... Усе тры — нашы выдатныя паэты-класікі. Але часцей за ўсё я здымаю з паліцы не Купалу і Коласа, а Багдановіча. І так, як некалі ў зусім зялёным узросце, чытаю, перачытваю, і — няма мяжы майму захапленню. Ведаеце, гэта нават і не захапленне, а нешта іншае, нешта большае... Можа, нейкае зачараванне, ці што?

Калі ж гаварыць пра пэўныя перыяды маіх чытацкіх захапленняў, то, можа, першым вялікім адкрыццём для мяне ў свой час быў Багушэвіч — іменна як народны паэт, і не толькі зместам і духам твораў, але і ўсім стылем сваім народны. Увесь на прыказках, на прымаўках, просты, дасціпны — надта ж блізкі і любы мне быў! Затым Багдановіч — і ўжо на ўсё жыццё. Тады — Панчанка і Куляшоў. А вось Максіма Танка я для сябе адкрыў пазней — можа быць, толькі ва універсітэце. Быў шчаслівы, памятаю, калі Цютчава адкрыў, прычым не ў школе, а пазней... Вы ведаеце, як мы вывучалі паэзію ў школе? Адзін-два вершы ў хрэстаматыі і ўсё. Кніжак жа тады, калі я вучыўся, не было... Зрэшты, напэўна, бываюць такія часы, калі хочацца чытаць менавіта гэтага, а не іншага паэта — пад уплывам настрою, думак уласных. На кожным пэўным этапе жыцця выбар можа быць розны. Думаю, і з вамі будзе гэтак.

**— Дзякуй вам, Ніл Сымонавіч, за гутарку.**

— Дзякуй і вам за тое, што запрасілі, паслухалі мяне. Галоўнае, дарагія мае, каб добра пісалася, каб добра думалася, каб добра жылося — добра, значыць, нязмрочна. Я вось нядаўна вычытаў у М. М. Бахціна такое паняцце: "лёгкі чалавек". Лёгкі — не ў сэнсе лёгкадумны і лёгкаважкі, а той, які лёгка ходзіць па зямлі, у якога лёгкія (светлыя, не цяжкія, як камень) пачуцці да людзей, які любіць гэтае жыццё, гэты свет. У гэткім сэнсе — жыць паэт павінен усё-такі лёгка...

**Гутарку падрыхтаваў да друку Мікола ЧЭМЕР**

# АПАВЯДАНЕЙКІ ПРА САБАК

## АХ, ГЭТАЯ ЛЮБОЎ...

Мне будзе вельмі горка, калі хто-небудзь пачне хоць крыху падазраваць, быццам я думаю пра людзей адно кепскае і стаю на тым, што яны завялі сабак толькі дзеля таго, каб іх муштраваць, дрэсіраваць, каб здзекавацца з іх. Калі сярод людзей і ёсць такія, дык гэта хутчэй не правіла, а выключэнне. І я вам зараз дакажу, што ёсць людзі, якія набываюць сабаку, каб ён іх выхоўваў і дрэсіраваў, а яны б яму ўслугоўвалі. Такія людзі мараць пра сабаку, каб было пра каго клапаціцца, нават калі іх сабачка бяжыць трушком дзе-небудзь зводдаль, і заплюшчваюць вочы на тое, калі той бяжыць, куды яму хочацца. Яны самі ходзяць за сваім сабакам, і іх перапаўняе не злосць за іх самавольства. Іх душа перапоўнена трапяткой радасцю і ўдзячнасцю за тое, што іх улюбёнец не даў дзёру. Такім людзям так мала трэба, хоць і ад гэтага светлых пачуццяў у іх аж цераз край.

Дык вось: яны і ёсць лепшыя з сабакаводаў, яны ўвогуле проста ўпрыгожваюць род чалавечы. Чаму? А таму, што адносяцца да свайго сабакі насуперак усім правілам дрэсіроўкі і ўтрымання чатырохлапых, але з вялікаю душэўнаю дабратою. А гэта важней за ўсё.

Нехта сказаў, быццам гаспадары праз нейкі час робяцца падобнымі на сваіх сабак. Пра гэта нават у кнігах пісалі — фізіягноміка навука называецца, — таму што даўней верылі, быццам рысы твару чалавека выдаюць уласцівасці яго характару.

Арыстоцель, напрыклад, сцвярджаў, што чалавек падобны на якую-небудзь жывёліну, і гэтае падабенства не толькі знешняе. Чалавек мае і адпаведныя якасці гэтых жывёлін.

Многа пазней, у XVIII стагоддзі, вучоныя нават верылі, што па форме чэрапа можна вызначыць, які ў чалавека характар. Бо на яго, думалі яны, мае ўплыў нават іх рост. Высокі мужчына любіць жанчын маленькіх, і наадварот. А здаравячок з пунцовымі шчочкамі мае схільнасць да анемічных дзявок і ў сваёй выбранніцы марыць бачыць твар бледны, з тонкімі рысамі. Муж і жонка, якія пражылі разам доўгае жыццё, робяцца падобнымі адзін на аднаго. І не толькі муж і жонка. Чалавек пачынае рабіцца падобным на свайго любімага сабаку. Ёсць і такія, паглядзіш — ну выліты бульдог з твару, а вунь той — чысты выжал, і морда ў яго такая ж востранькая.

І ўсе гэтыя вымудры распускалі, з дазволу сказаць, вучоныя, абцяжараныя сваімі ведамі, чынамі і званнямі універсітэцкіх прафесараў. А чаго ўсё гэта варта, не трэба і казаць.

Калі ж вам сустрэнецца чалавек круглатвары з прыплюшчаным носікам, чыя фізіяномія вельмі нагадвае морду баксёра, што спаважна тэпае-лэпае побач, каля яго нагі, то ведайце: не чалавек змяніў сваё аблічча, каб быць падобным на свайго любімага чатырохлапага сябра, а хутчэй за ўсё ён выбраў баксёра ці бульдога за яго кірпатую морду! Якраз такі сабака і здаўся яму самым прыгожым.

Я магу, вядома, паверыць у падабенства характараў, і ўсё заканамерна, калі людзі, па прыродзе сваёй мяккія і незласлівыя, выбіраюць сабаку, які здасца ім гэткім жа самым. Яны стараюцца і сабаку выхаваць так, каб быў падобны на яго, на гаспадара, сваёй дабрадушнасцю, а не стаў драпежнікам, што гатовы распатлашыць суседа на мэтлахі. Толькі гэтым я магу патлумачыць і ўсё тое, што было з маім прыяцелем, якога ўсе ведаюць як дабрака і дзівака.

Сябра мой з галавою ў навуцы, дыхнуць няма калі. Сабака ж у яго, на першы погляд, такое натурыстае страшыдла, убачыш — заікацца станеш. А напраўду, дык гэта такая ўжо далікатная істота — не выказаць. Да таго ж не сабака, а сабачы мудрэц, бо сам датумкаў, што якраз трэба яго гаспадару. Не, з аднаго слова ці паўслова гэты псюк яго не слухаецца. Разумее, што інакш пазбавіў бы свайго гаспадара задавальнення і радасці, ператварыўся б у простага сабачага зануду. Кеміць, што стомленаму, з задураной галавою вучонаму трэба даць адпачыць ад праблем, якія прыхаваліся ў старажытных тэкстах, над якімі ён карпее, і чалавек гэты жадае, каб яго крыху развесялілі-пацешылі.

Ад вучонага не пачуеш грозных каманд, не ўбачыш, каб застрашліва махаў павадком. Хутчэй можна пачуць цудоўныя дыялогі з сабакам, нібы ў якой смяшлівай п'есе:

— Эндзя, ты чуеш? Мы на горку ідзём, а не з горкі. Не чуе... Тады паўтару: лезем на горку! Не ўніз, а наадварот: угору! Не прыкідвайся, што не чуеш, ты не глухі... І ты ж паслухмяны. Калі хочаш ведаць, я і выбраў цябе за паслухмянасць, парода твая такая. Ты бачыш, куды я іду? Угору... А ты... Каб цябе чэрці схапілі, чаго ты ўсё ляціш уніз? Як быццам ты атрымаў філасофскую адукацыю і ведаеш, што паняцці "ўгору" і "ўніз" адносныя, і толькі той, хто ідзе ўніз, потым пойдзе ўгору. Бо калі б ён адразу падняўся ўгору, то потым давялося б спускацца ўніз. Значыць, калі ты бяжыш уніз, то робіш правільна: толькі гэтак можна патрапіць наверх. Праўда, зрэшты, нам усё роўна, куды ісці...

І вучоны-дабрак тупаціць уніз са сваім сабакам. А Эндзя, як толькі згледзеў, што гаспадар ахвотна кіруе за ім, разумее, што выканаў тое, чаго ад яго чакалі, разварочваецца і прэ ўгору.

Вучоны цвіце ад захаплення:

— Ну, ці бачылі калі такое стварэнне? Не так словы мае ловіць, як думкі ўгадвае. Мысляр, а не сабака, не выконвае слепа загады, любіць, каб яго пераконвалі. А як важкія довады прывядзеш, аргументы — не пярэчыць.

Бываюць выпадкі, што і такі гаспадар-дабрак не вытрымлівае. І тады пачуеш:

— Да нагі! Ты чуеш, што я сказаў? Да нагі... А ты куды прыпусціўся? У кусты! Ты, мабыць, аглух, і мне давядзецца павышаць голас.

І павышаў, выдаваў такі лямант-крык, што людзі барзджэй зачынялі вокны, голасна абураючыся: і што за хуліганы тут з'явіліся? Ні ўдзень, ні ўвечары прыстойнаму чалавеку няма ад іх спакою! Сабака і то лепш паводзіць сябе, прастуе сабе ціха ў кусцікі, ніякага гвалту не робіць.

Часам гаспадар спрабуе прымусіць сабаку слухацца, хоча падзейнічаць на яго спалохам. Пачынае выдаваць такія гукі — рык, хрып, мармытанне, быццам тут, перад сабакам, сам д'ябал з'явіўся. Ляскае нават скураным павадком, а калі і гэта не дапамагае, пачынае сцябаць сам сябе: маўляў, глядзі, што цябе чакае, абармот.

— Ты бачыш гэты раменьчык? Бачыш, бачыш, не прыкідвайся... А каб ты ведаў, як гэта баліць... А во бачыш, што я падняў? Камень! І ён зараз паляціць у цябе, калі не паслухаешся.

Псюк стаіць ды толькі касавурыцца на свайго дарагога гаспадара: ну й артыст! Ну й дае!

Пераканаўшыся, што гаспадар ужо добра нацешыўся, сабака нечакана спакойна, з гонарам падыходзіць да яго. А дабрак вучоны ажно замілоўваецца:

— Даўно б так, дурненькі... Ты такі паслухмяны таму, што я добра цябе выхаваў. Глядзі, што скора і ў цырку зможаш выступаць. Ну дык бліжэй жа падыдзі, дуралей, дай я цябе пагладжу. Ты заслужыў.

Сабаку лашчаць, чухаюць за вухам. Шчаслівы момант прымірэння!

І прагулка працягваецца, а вучоны муж разважае сам сабе: выдатны сабака, хоць і бегае, куды захоча. Але ж трэба і справядлівым быць! Я ж таксама іду, куды хачу. Вядома ж, калі адзін іду. А калі з сабакам, то даводзіцца ўжо за ім, куды яму захочацца. Але чаму б і не пайсці за ім, калі ён такі разумны і выхаваны? Вы згодныя?

Бо шчасце не звонку, яно ў саміх нас, і яно толькі ўспрыманне, а не рэальнасць. І паслухмянасць — усяго толькі наша ўспрыманне, і рэчы такімі з'яўляюцца, якімі мы іх бачым. Вядома ж, і людзі такія, і сабакі.

А хіба кепска было б, каб сярод нас было паболей людзей ласкавых, як дзеці? Як вы лічыце, дарагія сабакаводы?

Іржы МАРЭК



"Дуэт".

Фота Аляксея МАЦЮША

## ВЕРНАСЦЬ

Яна выйшла пагуляць з сабакам першы раз. Ён у яе з'явіўся ўсяго некалькі месяцаў назад, і людзі, што разбіраліся ў сабаках, папярэджвалі: калі займееш немаладога сабаку і нічога пра яго не ведаеш, то можа здарыцца ўсякае. Так што будзьце напагатове.

Яна вяла яго на павадку, і сабака ішоў побач спакойна, часам прыўзнімаў галаву і паглядваў на яе, быццам чакаў, што яна скажа: добра ён ідзе? Задаволена яна ім? Кожны раз жанчына ўсміхалася сабаку і лёгенька лашчыла яго.

— Такі разумнік, — казала яна кожнаму сустрэчнаму. — І так любіць мяне.

Жанчына напаткала гэтага сабаку за горадам, як ездзіла ў лес у грыбы. Рабіла гэтыя выезды нярэдка, бо адзінота рабілася невыноснаю. Смешна сказаць, але чалавек адчувае сябе адзінокім у горадзе, а не ў лесе. Бо людзей процьма, а ведаць — амаль нікога не ведаеш. А от як у лесе ходзіш, то не адзін і не адзінокі: столькі ўсяго акружае цябе там, так перапоўнена ўсім душа!

І раптам на ўзлеску яна ўбачыла сабаку. Ён выскачыў з кустоў і прыпусціў да яе. "Не пазнаў, мабыць, зблытаў мяне з некім", — падумала яна. Але сабака быў невялікі, і яна не спужалася яго. Падбег той і заскуголіў, сцепануўся так, што ва ўсе бакі паляцелі пырскі гразі і вады. Выпацкаўся, мабыць, у ручаіне.

— Ты ад каго гэта даў дзёру? — папытала жанчына.

Сабака зноў жаласліва заскуголіў, нібы хацеў нешта сказаць, і ёй стала вельмі шкада яго.

— Перастань, не плач, бяжы лепш дадому!

Сабака не адыходзіў, і калі жанчына скранулася з месца, пайшоў услед.

"От прывязаўся... — яна хацела адагнаць яго, але нічога не атрымалася. Заблудзіўся, мабыць... І галодны, галодны..." — падумала яна. З той перакускі, што брала ў лес, амаль усё аддала яму. Сабака з такою прагнасцю накінуўся на яду, што жанчына ажно перапужалася. Каўтаў не жуючы, і яна скарміла яму ўсё дарэшты. Глытаў сабака яду з вялікаю жадобаю. Пасля пабег трушком за жанчынаю, толькі раз спыніўшыся, каб папіць вады з канавы.

Прыйшлі яны з лесу ў вёску. А там яна даведалася, што сабака нічый, мусіць, з тых валацуг, на якія робяць аблавы.

— Людзі цяпер такія, — сказалі ёй у сельсавеце. — Прыдбаюць сабаку, пазабаўляюцца з ім, а потым выкідваюць на вуліцу ці звозяць у лес... О-о, гляньце! Ды ў яго на аброжку кавалак павадка застаўся. Мусіць, прывязалі ў лесе, а ён перагрыз. А-яй-яй, што робіцца!.. У нас у вёсцы ён нікому не трэба, у кожным двары свой. Так што смела забірайце сабе.

Вось гэткім чынам з'явіўся ў жанчыны сабака. Як даведалася яна, гэта быў пудзель, так званы — сярэдні. Парода добрая. І не стары яшчэ, мо гадоў два якіх ці менш.

Калі яна выкупала-вымыла яго, сабака стаў такі харошанькі, кучаравенькі.

А вось як звалі яго, так і не даведалася.

Раней у жанчыны не было сабак, а з'явіўся ён, і давялося перайначваць свой лад жыцця. Спаць у кухні новы жылец адмовіўся, пагадзіўся толькі на вітальню. Подсцілку і куплены новы намордпік доўга, быццам прыдзірліва, абнюхваў. Кожную раніцу будзіў яе, скрабучыся ў дзверы. Упускала яго ў спальню і радавалася, як дзіця. А колькі пацехі было, як садзіліся снедаць. Сабака станавіўся слупком і смешна перабіраў пярэднімі лапкамі, просячы цукру.

На рабоце пасмейваліся з яе: іх каляжанка стала дамай з сабачкам. Не крыўдавала: хай гавораць. Часта ездзіла з пудзелем за горад, але толькі не ў лес. Заўважыла, што сабака панічна баяўся яго.

А вось як ішлі па вуліцы, людзі азіраліся на яго з добрай усмешкай: такі кучаравы прыгажунчык! "Не даць бы толькі яму выкачацца, вымазацца, бо белыя сабакі чамусьці вельмі любяць гэта рабіць... А, можа, і мною любуюцца людзі?" — думалася жанчыне.

І вось аднойчы...

У той дзень жанчына пабывала ў двух магазінах, а сабака паслухмяна чакаў яе каля вітрыны, прывязаны. Паглядваў на пешаходаў, нервова павіскваў, часам скавытаў, тоненька ўзбрэхваў: калі выйдзе гаспадыня з пакупкамі? А толькі выходзіла — адразу бура захаплення, скокаў і радасці.

Ішлі ўжо дадому, як раптам сабака насцярожыўся, цяўкнуў і кінуўся наперад, залівіста брэшучы.

Павадок напяўся, як струна, жанчына ледзь стрымлівала пудзеля, а той цягнуў яе за сабою. Душыўся аброжкам, з горла вырываліся дзіўныя гукі: у іх быў не толькі няўцерп, але і здзіўленне, страх.

Людзі спыняліся, дзівіліся на яе паядынак з сабакам.

— Ды што з табою? — ушчувала яго жанчына. А той трымцеў усім целам, не перастаючы рвацца наперад.

Уперадзе яна заўважыла мужчыну ў клетчатым пінжаку і капелюшы. Ён ішоў, не азіраючыся на іх, і ўсё прыспешваў крок. Урэшце не вытрымаў, пабег і на прыпынку ўскочыў у аўтобус. Дзверы за ім стуліліся.

А сабака шалеў, тузаўся, не слухаў ніякіх угавораў. Памкнуўся яшчэ за аўтобусам прабегчы.

— Гадкі ты які! — сердавала жанчына. — Ну хіба ж можна так сябе паводзіць? Ну чаго табе яшчэ хочацца?

Сабака ўжо, здаецца, нічога не хацеў. Ён толькі глядзеў у той бок, куды паехаў аўтобус. Разумеў ужо, мабыць, што брашы не брашы, нічога не выбрашаш. Жаласліва завыў...

— Гэта быў твой гаспадар? — здагадалася жанчына. — І ты не памятаеш, дзе ён жыве?

А што мог адказаць сабака? Ён яшчэ колькі разоў тузануўся з рук і быццам абвяў. Не мог забыць свайго гаспадара? Чалавека, які прывязаў яго ў лесе, кінуўшы на галодную смерць? Вярнуцца хацеў да яго ці ўкусіць, адпомсціць? Усё забыў, усё, а яна ж столькі зрабіла яму добрага, так увіхалася каля яго...

А мо проста хацеў паведаміць таму мужчыне, пахваліцца, якую новую гаспадыню сабе знайшоў?

Больш яны ўжо нікуды не заходзілі. Жанчына спяшалася дадому, і пакутлівыя думкі не пакідалі яе.

"Вось так... Няўжо ён кінуў бы мяне, перабег да таго?"

Дома сабака нібыта пачаў прасіць у яе прабачэння. Прынёс у пярэдні пакой мячык, чакаў, што жанчына будзе разам гуляць з ім. А жанчына не хацела гуляць, і пудзель лёг, паклаўшы мордачку на выцягнутыя лапы, заскуголіў.

"Які няверны! Здраднік... А мо, наадварот — вельмі верны? Таму верны, першаму... Крыўдзіцелю, які і другі раз выракся яго, адцураўся, уцёк..."

Жанчына ўсхліпнула ад горычы, знясілена апусцілася ў крэсла.

Сабака падышоў да яе, стаў на заднія лапы, пачаў лізаць рукі, стараўся дацягнуцца языком да твару.

Зразумела жанчына: яе выбраў сабака, яе. Канчаткова!

Абняла яго, прыціснула да сябе.

(Працяг на стар. 15)

Алесь ПАШКЕВІЧ



## ПАД КРЫЛОМ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

**І стары, і новы год, і драбок наступных — апошніх — паўстанкаў другога "тысячніка" ўспрымаюцца мной у адзінстве — як канцавыя старонкі сусветнай анталогіі, за якімі хутка будзе ўпісаны яе змест. Гэта не фатальнасць: і новы Зборнік давядзецца распачынаць нам, і няма адчаю, бо ідзём па жыцці ўжо не безвач, і "я не самотны", бо — за сціплым выдадзеным томікам вершаў — закончыў сёлета аповесць-практопію "Антыбраты". Адно шкадую, што не маю магчымасці давесці сённяшняй палітыцы (якая заклікала — і правільна — не абіраць у Вярхоўную Раду "паэтаў і пісьменнікаў") даўнішнюю думку Персі Бішы Шэлі: "Паэты — непрызнаныя заканадаўцы свету". І пасля сцверджаных імі старадаўніх законаў усёпаглынальнага сімвала і ўсёстваральнай метафары хто, калі не Цёмны, прыдумаў сённяшні антыпаэцкі гратэск?**

**Сузіраючы амерыканскі "Лінкольн", які нагадвае мне тэхнакратычнага Пераса, думаецца аб тым, што выратаваць нас можа ўжо толькі эстэтычная сугестыя — мэтанакіраванае ўздзеянне мастацкім словам на псіхіку хворага: хворага чалавека, хворага грамадства. Амерыканцы ж патрацілі сваю моўную сугестыю, разгубілі яе расійцы, звыкліся з ёй палякі. Таму і хочацца, каб на гуманітарных факультэтах ужо з будучага года раскрылі дзверы Акадэмія слова, Акадэмія паэзіі, Акадэмія філасофіі, а не ўтапічная Акадэмія кіравання (ці як там?).**

**У год новы хацелася б не толькі адмыцца ад чырвона-зялёнага таўра, але і пачаць Кнігу — аб якой тры дзесяцігоддзі летуценіў парнасавец Стэфан Малармэ, якую не далі стварыць Уладзіміру Дубоўку, Язэпу Пушчу, Уладзіміру Жылку, якую не паспеў дапісаць Алесь Салавей. А яшчэ верыцца, што такія арфічныя летуценні будуць — не зважаючы ні на што! — саграваць і ўзнімаць па-над празаічнай быційнасцю не толькі хапаткія скрыдэлкі гадоў, але і бясконцыя крылы тысячагоддзяў...**

Міхась СКОБЛА



## І — "ДУХАМ ПАЛЫМНЕЦЬ"

**На схіле старога года жонка ўганаравала мяне пашанотным званнем — бацька. Дачку назвалі без залішніх мудрошчаў, проста Сафійка. Калісьці храм святой Сафіі сімвалізаваў магутнасць і незалежнасць краіны, хай жа і дачушка мацуе, прасвятляе і ўзвялічвае нашу сямейную дзяржаву. Так што ёсць усе падставы казаць пра спробу адбудовы незалежнасці ў асобна ўзятай сям'і. Зразумела, што гэтыя спробы ва ўмовах частых агрэсій з боку "рынкавага сацыялізму" і зацягнутай аблогі прывідамі пажыццёвага бескватэр'я вымагаюць пэўных высілкаў.**

**Шўто да спадзяванняў на год новы, то яны ў мяне больш вызначаныя на бліжэйшыя паўстагоддзя, чымся на наступныя два-тры гады, за якія наўрад ці што зменіцца да лепшага. Чым даўжэй зацягваецца хвароба, тым большае жаданне ачуняць. Праўда, потым ёсць пагроза апасці на ногі, але і — "духам палымнець".**

Леанід ЛЫЧ

# КАРДЫЯГРАМА ДЭБЕЛАРУСІЗАЦЫІ

СУПРАЦЬ такой заганнай, шкоднай практыкі, якая без асаблівага спазнення павінна была б вельмі істотна спрычыніцца да размывання нацыянальных асноў духоўнага жыцця беларусаў, выступіла, праўда, крайне нерашуча — а інакш і нельга пры савецкай таталітарнай сістэме — невялічкая жменька найбольш нацыянальна самасвядомых і смелых выкладчыкаў і навучэнцаў. У гэтым супраціўленні пераважалі чыста асветніцка-растлумачальныя накірункі, пісьмовыя звароты ў адпаведныя дзяржаўныя і партыйныя органы з мэтай даць ім зразумець, што адукацыя ў нас не служыць карэнным нацыянальным інтарэсам беларускага народа. Характэрна, што асаблівую занепакоенасць яе станам выказалі будучыя педагогі і студэнты Баранавіцкага настаўніцкага інстытута, навучэнцы Ганцавіцкага, Пастаўскага і Глыбоцкага педагагічнага вучылішчаў, а таксама некаторыя настаўнікі г. Слоніма. Амаль адначасова ў пералічаных педвучылішчах узнік "Саюз беларускіх патрыётаў", галоўнай мэтай якога прызнавалася адраджэнне беларускай культуры і мовы, што нельга не палічыць за вельмі прагрэсіўную з'яву, бо над імі паўстала сур'ёзная пагроза непазбежнага заняпаду. Вялікі гонар і хвала гэтаму Саюзу, што сябры яго так своечасова разабраліся з тым, што нясе беларускаму народу пабудова адукацыі на чужым нацыянальна-культурным грунце.

Зусім інакш паглядзелі на гэтую патрыятычную акцыю ідэалагічныя работнікі партыі і паслухмяныя ім спецслужбы, якім удалося вельмі рана натрапіць на след Саюза, за што яго сябры панеслі несувымерна іх дзейнасці кару. Да расстрэлу справа не дайшла, але сяму-таму 25 гадоў турэмнага зняволення ўсё ж далі.

Судовыя працэсы над педагагічнай інтэлігенцыяй, студэнтамі і навучэнцамі вяліся ў строгай тайне ад народа. Практычна, якія планы выношвала нацыянальна-патрыятычная частка моладзі педагагічных вучылішчаў і якую за гэта яна панесла кару, грамадскасць рэспублікі анічога не ведала. Толькі дэлегатам XIX з'езда КП(б)Б сёе-тое паведаміў міністр Дзяржбяспекі БССР Л.Цанава. Выступаючы 17 лютага 1949 г., ён сказаў: "На тэрыторыі Баранавіцкай, Маладзечанскай, Полацкай і Пінскай абласцей былі выкрыты і ліквідаваны падпольныя антысавецкія нацыяналістычныя арганізацыі, гэтак называемыя "Саюз вызвалення Беларусі", "Саюз беларускіх патрыётаў", "Чайка", "Вольная Беларусь" і г. д., у складзе якіх знаходзілася звыш 30 камсамольцаў, прынятых ў шэрагі камсамола ў 1945-47 гг. Усе яны ў перыяд нямецкай акупацыі з'яўляліся ўдзельнікамі антысавецкіх, нацыяналістычных арганізацый "СМБ" і "Беларускай краёвай абароны". Беспадстаўнае абвінавачванне навучэнцаў у прыналежнасці да гэтых арганізацый было зроблена Л. Цанавам, зразумела, выключна толькі з мэтай апраўдаць неабходнасць выкарыстання супраць іх суровых захадаў і падкрэсліць пільнасць працы органаў дзяржаўнай бяспекі.

Кіраўніком ліквідаванай у Полацкай вобласці падпольнай нацыяналістычнай арганізацыі, гэтак называемага "Саюза беларускіх патрыётаў", паводле слоў Л. Цанавы, з'яўляўся актыўны член "СМБ", які працаваў да арышту сакратаром камсамольскай арганізацыі Глыбоцкага педвучылішча. Дэлегатам з'езда было паведамлена, што ў Баранавіцкай вобласці выкрыты актыўны ўдзельнік "Беларускай краёвай абароны", які ўдзельнічаў непасрэдна ў карных экспедыцыях супраць савецкіх партызан. Да арышту ён працаваў інструктарам Казлоўшчынскага РК ЛКСМБ. У Брэсцкай вобласці затрыманы і асуджаны былы актыўны член "СМБ", які да арышту з'яўляўся сакратаром пярвічнай камсамольскай арганізацыі ў Камянецкім раёне і, выкарыстоўваючы гэта як прыкрыццё, кіраваў узброенай бандыцкай групай".

Л. Цанава лічыў, што з-за адсутнасці належнага ўплыву кампартыі на камсамол сюды "сумелі пралезці некалькі соцень былых удзельнікаў "СМБ" і іншых антысавецкіх нацыяналістычных арганізацый альбо тых, хто служыў у нямецкіх карных атрадах".

Як бачым, Л. Цанава і думкі не дапускаў, што ў дзейнасці педагагічнай інтэлігенцыі і ў яе маладой змене маглі быць выключна нацыянальна-патрыятычныя матывы, абуджаныя несправядлівым стаўленнем партыі і ўрада да беларускай культуры і мовы. Яму было куды лягчэй і зручней усё звесці да варожага ўплыву на моладзь былых прыслужнікаў акупантаў ці беларускіх нацыяналістаў, што "звілі сабе гнёзды ў эміграцыі і бударажаць няўстойлівыя ў палітычных адносінах слаі грамадства".

Інфармацыю Л. Цанавы аб наяўнасці ў навучальных установах, асабліва ў педагагічных, антысавецкіх нацыяналістычных арганізацый пастараўся ўсяляк падмацаваць у сваім выступленні на XIX з'ездзе КПБ і яе сакратар па ідэалогіі М. Іаўчук. Членаў такіх арганізацый ён назваў агентамі замежных імперыялістаў, у інтарэсах апошніх нібыта і вялася імі варожая нацыяналістычная прапаганда. З'яўленне такіх настрояў у моладзі М. Іаўчук тлумачыў найперш тым, што "звычайна справа палітычнага выхавання студэнтаў абмяжоўваецца прахаджэннем грамадскіх навук па вучэбным плане, пры гэтым нярэдка пакідаецца ўбаку і не папулярызуецца гісторыя барацьбы партыі бальшавікоў супраць нацыяналізму, гісторыя барацьбы КП(б) Беларусі супраць беларускага нацыяналізму. Наша навучэнская моладзь часта застаецца ў няведанні ў тым, якое шалёнае супраціўленне аказвалі нацыяналісты будаўніцтву беларускай савецкай дзяржавы, развіццю народнай гаспадаркі рэспублікі, росквіту нацыянальнай культуры беларускага народа, як яны здраджвалі свайму народу і служылі чужаземным прыгнятальнікам — польскім і нямецкім.

Абавязак нашай прапаганды, — працягваў прамоўца, — паказаць навучэнскай моладзі, што нацыяналісты заўсёды былі лёкаямі замежных імперыялістаў, лютымі ворагамі беларускага народа. Абавязак ЦК КП(б)Б навога складу, Міністэрства асветы і мясцовых партарганізацый заключаецца ў тым, каб ажыццявіць гэтую задачу".

Пастаўленую М. Іаўчуком перад кампартыяй баявую задачу па барацьбе з беларускім нацыяналізмам, выхаванні моладзі ў інтэрнацыяналісцкім духу не давялося ажыццяўляць ні яму, ні М. Гусараву, бо Масква перавяла іх на іншыя ўчасткі ідэалагічнага фронту. Але такая праца ні на дзень не прыпынялася. 3 ліпеня 1950 г. яе ўзначаліў прысланы Масквою Мікалай Патолічаў. Яму, ураджэнцу Уладзімірскай губерні, Беларусь была зусім незнаёмым, чужым краем. У яго нават і думкі не з'явілася пасля прыбыцця ў гэтую саюзную рэспубліку, чаму тут усё грамадска-палітычнае, культурнае жыццё будуецца без уліку нацыянальных інтарэсаў карэннага насельніцтва.

Нацыянальна самасвядомай інтэлігенцыі, у тым ліку пісьменнікам, станавілася ўсё цяжэй фармаваць у народа павагу і любоў да сваёй зямлі разам з яе культурай і мовай, бо вельмі лёгка можна было трапіць у разрад нацыяналістаў. А гаварыць жа неяк трэба было з людзьмі пра набалелае. Паспрабавалі гэта зрабіць хоць вуснамі ўкраінскага паэта Уладзіміра Сасюры, на радзіме якога таксама адбываліся, толькі ў меншых, чым на Беларусі маштабах, дэнацыянальныя працэсы. Каб даць народу зразумець гэта, Уладзімір Сасюра піша верш "Любі Україну". Гэты твор прыйшоўся даспадобы беларускім паэтам, таму ён і з'явіўся ў перакладзе ў перыядычным друку. Чагосьці антысавецкага ці антыінтэрнацыяналісцкага ў ім не было, а вось таго, што вучыла людзей любіць сваё роднае, нацыянальнае, хапала. А яно ж вельмі мала цікавіла бальшавікоў.

З тэкстам верша азнаёміліся супрацоўнікі аддзела ЦК КП(б)Б, што курыраваў пісьменніцкую арганізацыю рэспублікі. Па іх указанні ёй давялося разбірацца даным пытаннем, аб чым так скажа ў верасні 1952 г. на XX з'ездзе КП(б)Б старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР П. Броўка: "Абмяркоўваючы артыкул "Правды" — "Против идеологических извращений в литературе", пісьменніцкай арганізацыяй выкрыты сур'ёзныя памылкі ў творчасці паэтаў А. Бялевіча і К. Буйлы. Пад суровую крытыку трапіў часопіс "Беларусь", які надрукаваў шкодны, нацыяналістычны верш У. Сасюры "Любі Україну" ў перакладзе на беларускую мову". Але яшчэ да П. Броўкі факт надрукавання гэтага верша ў часопісе "Беларусь" строга асудзіў М. Патолічаў у справаздачным дакладзе XX з'езду кампартыі бальшавікоў Беларусі.

У нас сёння не павінна існаваць сумненняў адносна таго, ведалі ці не ідэалагічныя службы ЦК КП(б)Б аб тым, да якіх трагічных вынікаў можа прывесці і ўжо вядзе іх заганная палітыка ў культурна-моўнай галіне. Ведалі, таму што ў апараце даных службаў працавала шмат адукаваных асоб. Яны ўмела адурманьвалі людзей, наўмысна не гаворачы праўды пра рэальны стан іх нацыянальнай культуры і роднай мовы. А калі ж што-небудзь, хоць самае мізэрнае, і рабілася па іх захаванні і развіцці, дык гэта немаведама як узносілася. Ці ж можна, скажам, лічыць праўдападобнымі словы дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б Ф. Новікавай з выступлення на XX з'ездзе кампартыі Беларусі, што выданне твораў У. Леніна і І. Сталіна на беларускай мове "дало магчымасць яшчэ шырэй разгарнуць прапаганду марксізму-ленінізму ў рэспубліцы, загартаваць тэарэтычна нашы кадры", што "гэта з'явілася вялікай падзеяй у ідэйным жыцці беларускага народа, яркім сведчаннем трыумфу ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, сведчаннем найвялікшага росту беларускай культуры". Як цяпер нам добра вядома, такога роду пераклады твораў У. Леніна і І. Сталіна на нацыянальныя мовы не адыгралі станоўчай ролі нават і ў тых саюзных рэспубліках, дзе мовы іх карэннага насельніцтва не знаходзіліся ў такім гаротным становішчы, як гэта здарылася з беларускай на яе спрадвечнай зямлі. Нельга пагадзіцца



*Малюнак А. КАРПОВІЧА*

*Заканчэнне. Пачатак у NN 51-52*

і з наступнай думкай згаданага вышэй прамоўца: "Пераклад твораў класікаў марксізму-ленінізму садзейнічае далейшаму развіццю і ўзбагачэнню беларускай мовы за кошт вялікай рускай мовы, удакладненню і стварэнню палітычнай тэрміналогіі", бо гэтая праца выконвалася без належнай увагі да захавання і выкарыстання беларускай нацыянальнай лексікі, дапускалася суцэльнае калькаванне тэрмінаў і выразаў з рускай мовы, што якраз і адпавядала бальшавіцкай тэорыі збліжэння і зліцця моў у адну мову як неабходнай перадумовы пабудовы камуністычнага грамадства.

Бадай, нішто не знаходзілася ў такой непавазе дзяржаўных і партыйных органаў пасляваеннай Беларусі, як яе нацыянальная мова, што фармавала адпаведныя адносіны да апошняй і сярод работнікаў іншых сфер грамадскага жыцця і ўрэшце — сярод саміх прыродных носьбітаў беларускай мовы. Вялікую шкоду нашым нацыянальным інтарэсам наносілі тым, што пра чысціню беларускай мовы асабліва не клапаціліся нават пры выданні слоўнікаў, арыгінальных ці перакладных школьных падручнікаў па гуманітарных і прыродазнаўчых дысцыплінах. Замест выкарыстання наяўных у беларускай мове магчымасцей для стварэння аўтэнтычнай навуковай тэрміналогііі, і ў дадзеных выпадках таксама займаліся звычайным калькаваннем слоў з рускай лексікі, што, аднак, адважыліся паставіць у заслугу беларускім мовазнаўцам аўтары выдадзенага ў 1953 г. у Маскве "Русско-белорусского словаря". У яго прадмове чытаем: "У святле сталінскіх прац аб слоўнікавым складзе мовы нанова быў пераледжаны і даны Руска-беларускі слоўнік, у выніку чаго ў яго былі ўнесены значныя змены і праўкі.

(...) у выніку мудрай ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі, беларуская мова стала дзяржаўнай мовай і, як уся культура беларускага народа, за гады савецкай улады дасягнула высокага развіцця. Яна выпрацавала свае літаратурныя нормы, значна палоўніла лексічны запас за кошт слоў роднай ёй рускай мовы... (...) Беларускі народ, верны дружбе народаў, ахоўваў чысціню сваёй мовы, палаўняючы яе з невычэрпных крыніц рускай мовы".

Дзіўна, няўжо складальнікі слоўніка не разумелі, што такім спосабам палаўнення толькі засмеціш мову, а не захаваеш яе чысціню?

Рабіць рознага няўзважаныя эксперыменты ці больш дакладна — хуліганіць на беларускай культурна-моўнай ніве дазваляла партыйным і дзяржаўным органам адсутнасць крытычнай масы нацыянальна самасвядомай і высокаадукаванай інтэлігенцыі. Натуральна, нават пры самым вялікім жаданні яе не так проста было сфарміраваць. Ва ўмовах, калі з-за недахопу высокай кваліфікацыі прадстаўнікоў нацыянальнай творчай інтэлігенцыі зведваліся такія цяжкасці з арганізацыяй дзейнасці розных галін культуры, партыя і ўрад маглі б падумаць, як вярнуць сюды на працу буйных, таленавітых спецыялістаў сваёй справы, якія апынуліся ў эміграцыі, баючыся стаць ахвярай савецкай Феміды за тое, што прыцягваліся нямецкімі акупантамі ці самі пажадалі прыйсці на службу ў створаныя імі ўстановы культуры і асветы, выдавецтвы, рэдакцыі газет і часопісаў. Для партыі і ўрада, напэўна ж, не з'яўлялася сакрэтам, што абсалютная большасць такіх людзей не ўяўлялі асаблівай небяспекі ні тады ні цяпер і таму маглі б быць з вялікай аддачай выкарыстаны ў галіне навукі, асветы і культуры. Не, партыя і ўрад не пайшлі на такі крок, бо іх не цікавіў нацыянальны аспект беларускай культуры. Галоўным заставаўся сацыялістычны змест апошняй, а ў гэтым інтэлігенты-эмігранты, зразумела, аніякай карысці не прынясуць. Іх высокая нацыянальная самасвядомасць нікому непатрэбна была, хоць яна і вельмі добра спалучалася з багатым прафесіяналізмам, вялікім жаданнем працаваць на ніве беларускай культуры. Пра такіх людзей стараліся зусім не гаварыць, а калі яны і упаміналіся, дык толькі з мэтай абняслаўлення. Як глядзеў урад Савецкай Беларусі на пасляваенную эміграцыю, можна меркаваць па выказванні Л. Цанавы на XIX з'ездзе КП(б)Б: "...англа-амерыканскія разведвальныя органы выкарыстоўваюць для падрыўной работы супраць Савецкага Саюза лідэраў беларускай эміграцыі, што ўцяклі ад народнага пакарання, аселі ў заходніх зонах акупацыі Германіі і перайшлі на службу да англа-амерыканскіх імперыялістаў і каб дагадзіць сваім новым гаспадарам, яны аб'ядноўваюць вакол сябе кадры беларускай эміграцыі, рыхтуюць з іх шпіёнаў, дыверсантаў, эмісараў і накіроўваюць на Беларусь для насаджэння нацыяналістычных фарміраванняў і іншай варожай работы.

Акрамя таго, англа-амерыканскія разведвальныя органы, — працягваў дакладчык, — завязваюць пісьмовую сувязь з савецкімі грамадзянамі цераз іх родзічаў, якія пражываюць у Англіі, Амерыцы, Канадзе і іншых капіталістычных краінах, пасылаюць розныя "падачкі" ў выглядзе пасылак з падношаным адзеннем, абуткам і цацкамі.

Для пашырэння сваіх сувязяў на тэрыторыі Беларусі амерыканскай разведкай створаны ў ЗША вялікі лік розных "камітэтаў", "зямляцтваў" і "аб'яднанняў", гэтак званыя: "Мазырскі камітэт", "Баранавіцкі камітэт", "Бярэзінскі", "Чэрвеньскі" і г. д., якія пад выглядам дабрачынных мэт развілі выключную актыўнасць па зборы розных разведвальных даных аб нашай рэспубліцы шляхам "бяскрыўднай" перапіскі".

З вуснаў міністра дзяржбяспекі прагучала, што на вудачку амерыканскіх разведвальных органаў трапіла шмат камуністаў, асабліва Полацкай, Бабруйскай і Мінскай абласцей, якія атрымалі "падачкі" з ЗША ў выглядзе пасылак. Таму "партыйныя" арганізацыі павінны ўдарыць па гэтых фактах страты пільнасці, рабалепства і нізкапаклонства перад замежжам, каб надалей яны не паўтараліся, а нашы камуністы не ганьбілі высокае званне члена бальшавіцкай партыі".

Не думаю, што ўсе пагаджаліся з такой ацэнкай Л. Цанавы беларускай эміграцыі, але ж ніхто яму не запярэчыў. Значыцца, ні партыя, ні ўрад не збіраліся мяняць свайго стаўлення да нашых суродзічаў за мяжой.

Негатыўнае стаўленне фармавала партыя ў народа і ў дачыненні да тых, хто па сканчэнні тэрміну зняволення ў дзікіх кутках неабсяжнай Краіны Саветаў вяртаўся да сябе на Бацькаўшчыну. Вось як характарызаваў гэтую з'яву сакратар ЦК КП(б)Б М. Іаўчук у сакавіку 1948 г. на XVI пленуме ЦК КП(б)Б: "... у нас ёсць факты, якія сведчаць аб тым, што некаторыя людзі, якія з'яўляліся ворагамі народа і вярнуліся з сылкі, імкнуцца пралезці ў розныя культурныя ўстановы, узабрацца зноў на ідэалагічную вышку. Прычым магчымасць дзеля гэтага ствараецца ў выніку прытуплення пільнасці, дзіўнага і недапушчальнага для камуністаў мецэнацтва з боку паасобных кіруючых работнікаў у адносінах да гэтых палітычна-чужых нам людзей". У якасці прыкладу прыводзіўся паэт Андрэй Александровіч, які, будучы засуджаны на 15 гадоў, прыбыў у Мінск пасля 8 гадоў зняволення, а цяпер сёй-той з высокіх службовых асоб дамагаецца для яго водпуску грошай, прызначэння на пасаду рэдактара сцэнарнага аддзела кінастудыі "Беларусьфільм". М. Іаўчук не бачыць ніякіх падстаў для зняцця судзімасці з А. Александровіча, але аб гэтым ужо склаў хадайніцтва ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР Саюз савецкіх пісьменнікаў Беларусі. Даны факт, на думку Іаўчука, "сведчыць аб тым, што знаходзяцца заступнікі ў людзей, якія прыбываюць з ссылкі і спрабуюць пралезці ў ідэалагічныя ўстановы". Да такіх ён аднёс і пісьменніка Нічыпара Чарнушэвіча, які ўжо паспеў атрымаць прэмію ад Кіраўніцтва па справах мастацтва за п'есу, хаця тэатр адмаўляецца ставіць яе. "Вазьміце, — працягваў М. Іаўчук, — мастацтвазнаўства. Тут, у Інстытуце літаратуры (АН БССР. — **Л.Л.**) працуе Ус. 10 гадоў прасядзеў за антысавецкую дзейнасць і пасля таго, як яго пусцілі ў Інстытут літаратуры, працягвае нацыяналістычныя погляды прапаведваць, піша кніжкі па гісторыі мастацтваў, у якіх шэраг пытанняў трактуе з нацыяналістычных пазіцый. І толькі пасля нашага ўмяшання, пасля рашэння XV пленума ЦК КП(б)Б Інстытут літаратуры знайшоў час зрабіць яго працы прадметам крытыкі.

(...) Я лічу, што трэба з трыбуны пленума папярэдзіць нашых кіруючых работнікаў аб тым, што мы не можам дапусціць да ідэалагічнай працы людзей, якія з'яўляліся ворагамі народа, што нам трэба пакончыць з дабрадушнасцю і бяспечнасцю ў гэтай справе і змагацца за ідэйную чысціню кадраў на культурным фронце".

Такім чынам, бальшавікі Беларусі рабілі ўсё, каб не даць належнай прасторы для творчай дзейнасці "ворагаў народа" з ліку навуковай і творчай інтэлігенцыі, з душ якіх не змаглі выпетрыць беларускасць і суровыя ўмовы зняволення ў сталінскіх лагерах. Большасць гэтых людзей магла б вельмі многае зрабіць, каб не дапусціць такога страшэннага разгулу дэнацыяналізацыйных працэсаў у пасляваеннай Беларусі.

Ва ўмовах, калі да нацыянальнага заняпаду ідзе адзін славянскі народ, зусім лагічна, што яму тут жа на дапамогу прыходзіць хтосьці з гэтай этнічнай супольнасці людзей. У нас па нейкіх прычынах такога не атрымалася. Ужо першыя пасляваенныя гады пераканаўча паказалі, што не здзяйсняюцца тыя задумкі, пра рэальнасць якіх так упэўнена гаварыў у чэрвені 1947 г. на XIV пленуме ЦК КП(б)Б М. Іаўчук: "Усе нашыя кадры — беларускія і рускія будуць сумеснымі намаганнямі развіваць беларускую савецкую культуру, рухаць наперад навуку і мастацтва... рыхтаваць нацыянальныя кадры інтэлігенцыі". Беларускую савецкую культуру развівалі так, што ў ёй усё больш і больш збядняўся нацыянальны патэнцыял за кошт узбагачэння інтэрнацыянальнага, у нашых умовах гэта азначала: рускага, а што датычыць падрыхтоўкі сапраўды нацыянальных кадраў інтэлігенцыі, дык гэта адбывалася толькі на беларускіх аддзяленнях філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў.

Прарабам нацыянальнай палітыкі аблягчаў будаваць беларускае культурна-моўнае жыццё паводле чужых стандартаў той разброд, што практычна ўвесь час панаваў у асяроддзі нашай інтэлігенцыі. Яе блізкія да афіцыйных партыйных і савецкіх улад пласты толькі ў выключна рэдкіх выпадках выступалі ў ролі абаронцаў беларускай нацыянальнай культуры. Наадварот, з іх дапамогай ЦК КП(б)Б вельмі часта ідэйна распраўляўся з тымі, каго не задавальняў, моцна непакоіў гаротны стан беларускай культуры. Ніхто іншы, як сам старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР П. Броўка дае дыхту загадчыку кафедры беларускай літаратуры БДУ М. Ларчанку за тое, што ў сваіх праграмах для ВНУ і школ прапагандаваў шкодную тэорыю "аб адзінай плыні" ў беларускай літаратуры", разглядаў апошнюю як сродак барацьбы беларускага народа толькі за сваю нацыянальную незалежнасць, зусім абыходзячы яго класавую барацьбу. П. Броўка за вялікае дасягненне лічыў, што "асноўным напрамкам" нашай крытыкі пасля першага з'езда (маецца на ўвазе з'езд пісьменнікаў БССР 1934 г. — **Л.Л.**) была барацьба супраць нацыяналістычных установак у галіне гісторыі беларускай культуры і літаратуры, а таксама супраць нацыяналістычных уплываў на сучасную літаратуру".

Нават маладасведчаны ў пытаннях нацыянальнай палітыкі чалавек разумеў тады ўсю несправядлівасць дзе адкрытага, а дзе скрытага выцяснення беларускай мовы са службовага справаводства дзяржаўных і партыйных органаў, з навучальна-выхаваўчага працэсу вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, навукі, у значнай ступені нават і з самога культурнага жыцця, а П. Броўка на чэрвеньскім (1953 г.) пленуме ЦК КПБ, дзе так прафесійна і ўзважана вызначаліся шляхі выратавання беларускага народа ад русіфікацыі, заяўляў: "... я не бачыў якога-небудзь спецыяльнага ўціску беларускай мовы і культуры ў Беларусі на працягу апошніх год". І з радасцю адзначыў: "Буржуазны нацыяналізм разбіты і ён ніколі не ўзніме галавы на нашай зямлі".

Сур'ёзныя, надзвычай цяжкія сваімі паследкамі хібы ў рэгуляванні міжнацыянальных адносін на Беларусі, за што самая вялікая віна кладзецца на ЦК КП(б)Б, а ў найбольшай ступені на яго першых сакратароў П. Панамарэнку, М. Гусарава, М. Патолічава, накіраваных сюды Масквой, не гэтак адмоўна адбіліся на эканамічным, колькі на культурным развіцці беларускага народа, стане яго нацыянальнай самасвядомасці.

Усе гэтыя гады характар і змест нацыянальнай палітыкі на Беларусі вызначаліся выключна Масквой. Ажыццяўлялася гэта з дапамогай прысланых ёй сюды для заняцця высокіх і прэстыжных пасад партыйных і савецкіх работнікаў. Яшчэ і вясной 1953 г. у заходніх абласцях рэспублікі са 1175 партработнікаў толькі 121 належаў да карэннай нацыянальнасці. Зусім небеларускім быў у нас кіраўнічы апарат Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства дзяржаўнай бяспекі, уплыў якіх на нацыянальную палітыку быў надзвычай вялікім. Увесну таго ж года сярод 173 начальнікаў райаддзелаў МУС БССР беларусаў было толькі 33.

За разгледжаны мною параўнальна кароткі для гісторыі час у выніку мэтанакіраванай дзейнасці партыі бальшавікоў беларуская культура, асвета, навука панеслі вялікую страту з прычыны размывання іх нацыянальнага патэнцыялу. У гэтых найважнейшых для кожнага народа сферах духоўнага жыцця свядома перавага аддавалася інтэрнацыянальнаму, прычым у самых пачварных яго формах, над нацыянальным. Пазіцыі апошняга заставаліся трывалымі толькі ў мастацкай літаратуры, у народным фальклоры. Беларускі народ ратавала ад яшчэ большай ступені дэградацыі высокая ўдзельная вага вясковага насельніцтва з традыцыйна ўласцівым яму магутным нацыянальным патэнцыялам, у які пакуль што досыць марудна пранікала савецкая інтэрнацыянальная культура рускага ўзору, але такія працэсы ўжо мелі месца ў жыцці.

# АПАВЯДАНЕЙКІ ПРА САБАК

(Працяг. Пачатак на стар. 13)

## ЛАГЕРНЫЯ АЎЧАРКІ

Я з вамі не спрачаюся, сабака – вельмі кемлівая жывёліна. Здаецца, што яго можна чаму хочаш навучыць. І ратаваць людзей, і забіваць.

Калі б ваенных злачынцаў судзілі па заслугах, то тых, хто навучыў сабак забіваць людзей, трэба было б караць па ўсёй строгасці закона. А мне здаецца, што якраз гэтыя і пазбеглі пакарання.

Я сам служыў у "Гундэскаманда" — "Сабачай камандзе", як у нас яе называлі, і ў нас была задача — стаяць каля клетак, дзе ўтрымлівалі аўчарак. У той час, калі элегантныя, чыста адзетыя малойчыкі шарфюрэра Гломке прыносілі ім міскі з ядою (сабакі пад той момант вылі ад голаду, а гэта было часткаю дрэсіроўкі), у гульню ўступалі мы.

Нас павыбіралі для гэтай мэты спецыяльна — самых змэнчаных дахадзяг у брудным, смярдзючым рыззі. І як толькі ў дзверцах клеткі бразгатала засаўка і міска з духмяным, толькі што вараным мясам падсоўвалася пад сабачую пысу, і псюк ужо прыхопваўся жэрці, мы павінны былі гэтую міску ў сабакі адабраць. Гэта было нялёгка, і сёй-той з нас застаўся без пальца ці меў вырвіны на целе... Мы адбіралі міску, аўчаркі шалелі і вылі, кідаліся на сценкі клеткі, а мы дакладвалі, што загад выкананы.

Потым мы адбягалі ўбок, і зноў падыходзілі малойчыкі ў чорнай выпрасаванай уніформе і ласкава-паважліва вярталі міскі сабакам.

Гэта быў прымітыўны, але дзейсны трук. Сабакі ненавідзелі людзей у рызманах, гэтых усохлых, скуры ды косці, бедакоў у круглых шапках на брытых галовах, бо яны былі ворагамі. Як што якое — сабакі такіх істот разрываюць на кавалкі.

Яшчэ хлапчуком я трымаў дома сабак: Звычайных, беспародных дварнякоў, як гэта бывае ў вёсцы, і навучыўся добра разумець сабачы позірк. Цяпер жа я ўважліва вывучаў аўчарак, у якім чысціў клеткі. Часам мне здавалася, што я заўважаў у іх вачах тое, чаго не прыкмячалі эсэсаўцы. Гэта быў, я сказаў бы, пробліск нейкай чалавечнасці...

Часам я спрабаваў сказаць сабаку — ціхенька! — што-небудзь ласкавае. Хай ведае, што я не злосны. У адной аўчаркі гэтых праблескаў было больш, чым у астатніх, і я радаваўся поспеху. Яна не гыркала, як іншыя, калі я нават забіраў у яе міску, наглядала за мною не напружана, а здзіўлена, і дзікай ярасці зусім не было.

Шарфюрэр Гломке парашыў, што гэты сабака не прыгодны для адказнай службы, і яго "спісалі".

Аднойчы, не вытрымаўшы голаду і не заўважыўшы, што за рогам каля клетак стаіць сам Гломке, я адабраў у сабакі міску і выхапіў кавалак мяса, што плаваў у варыве. Я ўклакаваў яго сабе ў рот з такой жа паспешлівай прагнасцю, як толькі што гэта рабіла аўчарка.

Звяруга ўзняў страшэнны лямант, а я, не могучы нават пажаваць мяса, стараўся сутаргава, як звер, заглынуць яго. Аўчарка ашалела кідалася на сценкі клеткі.

Тут я заўважыў, што падыходзіць Гломке, і зразумеў, што ён усё бачыў. Я ведаў яго і зрыхтаваўся ўжо да смерці. Ён наблізіўся да мяне ўшчыльную і ціхенька сказаў:

— Гут... Я, я, зэр гут. Фсё ошань карашо!

Я чакаў, што ён хоць аплявушыць мяне, але нічога такога не было.

— Дафай, жары! Толькі мацней чафкай і фсё!

І я чаўкаў, цмокаў, сёрбаў. У сабакі ад злосці вочы наліваліся крывёю.

Ад таго часу нам усім загадалі так рабіць. Кожны, схапіўшы міску, павінен быў голасна чаўкаць, есці каля саменькай клеткі. І сабакі аж вар'яцелі.

Гломке стаяў зводдаль, ківаўся з пальчыкаў, на пяткі — рукі пад рамень — і задаволена жмурыўся.

Я, нікольki таго не хочучы, адкрыў новы элемент у дрэсуры...

У канцы вайны, калі запанаваў хаос і мы нечакана апынуліся на волі, у нашым лагеры вязні перастралялі ўсіх сабак. Хоць, калі сказаць папраўдзе, яны былі невінаватыя, бо іх навучылі толькі аднаму — ірваць на мэтлахі вязняў.

А Гломке знік, як зніклі і яго малойчыкі. І я ніколі не чуў, каб дзе каго судзілі падобнага на іх за тое насілле, той гвалт, што чынілі яны над душамі сабак.

**Пераклаў з чэшскай**
**Павел МІСЬКО**

Міхаіл ПРУЖНІК

# НАВАГОДНІ ВІНЕГРЭТ

## ГУМАРЭСКА

Ці ведаеце вы, каму сёння найлепш жывецца?

Нізашто не адгадаеце!

Таму, у каго склероз. Не, я маю на ўвазе не часовы склероз, а са свістам. Са свістам — гэта тады, калі, напрыклад, мужчыны датэрмінова сустрэлі Новы год і вяртаюцца дадому. Падходзяць яны да адной хаты, стукаюць у шыбку:

— Хто тут жыве?

— Пані Загарулька! — чуецца з сярэдзіны.

— А яна дома?

— Гэта я.

— Тады няхай выйдзе і скажа, хто тут з нас пан Загарулька, а мы, астатнія, патупаем далей.

Гаворка ідзе пра іншы склероз. Пастаянны. Як градусы ў гарэлцы з перцам. Бо тым, у каго няма склерозу, зараз цяжкавата. Збяруцца і пачынаюць успамінаць: "А памятаеш... на тры капейкі... А памятаеш, ікру лыжкамі? А шпроты? А ліверная каўбаса? А пры Мікалаі II?.." Стаяць, успамінаюць і толькі насамі шморгаюць. Іншая рэч, калі ў мужчыны склероз. Заходзіць ён у краму. Учора хлеб каштаваў тысячу, а сёння — тры. І мужчына, усміхаючыся, пытаецца:

— А што, "Дарніцкі" зноў падзешавеў?

У прадаўшчыцы вочы на лоб лезуць. Яна гірай па прылаўку, як малатабоец у кузні па накавальні — "бабах":

— Хто вам дазволіў здзекавацца? Вы тут не ў парламенце!

— А ўсё ж такі добра падзешавеў, — працягвае мужчынка, у якога склероз. — Ці, можа, гэта на новыя грошы?

— Ага! На долары! — зелянее прадаўшчыца. — А на купоны — вунь булкі без маку... солі і маргарыну...

Ды вось, перад самым Новым годам жонка і мяне ў краму паслала.

— Купі, — кажа, — салёных агуркоў. Прыгатую да святочнага стала твой любімы вінегрэт.

Патупаў я ў гароднінны магазін. А там якраз і новую кадку з агуркамі адкрылі. Агуркі — жоўтыя насеннікі. Вялізныя — як гранаты. Да гранатамёта. Праўда, трапляюцца і меншыя. Амаль карантышыкі. Як лімонкі Ф-1. Прадаўшчыца кінула адзін на вагі і кажа.

— Тры дзвесце. Хто бярэ?

— Гэта вага, ці цана? — пытаюцца.

— І вага, і цана, — пагардліва паглядзела на чаргу прадаўшчыца. — Мы цяпер вагу да цаны плюсуем. Гіперінфляцыя. Сесію трэба слухаць. Па "Бібі-сі".

— Вы б туды яшчэ б і сваю вагу плюсавалі, — прапанаваў нехта з чаргі.

— Я магу так прыплюсаваць, што ўсё жыццё на аптэку будзеш працаваць, — супакоіла прадаўшчыца жартаўніка, узяўшы ў рукі ўспучаную бляшанку з зялёным гарошкам.

— Дык бярэ хто агурок ці не? А то будзем зачыняцца для тручэння грызуноў і ім падобным.

— Божа, — я калісьці за такія грошы гарбатага "Запарожца" з прычэпам купіў! — пралепятаў адзін пенсіянер. — А цяпер толькі адзін агурочак-чак-чак! — не дагаварыў ён і знепрытомнеў.

Давялося банку расолу на яго выліць.

Усе стаяць, глядзяць, ніхто не купляе.

І адзін здаравяк, з такім чырвоным, як стоп-сігнал, рылам, узяў. Мабыць, рэкецір. Бо ўзяў бясплатна і пайшоў да выхаду. Выйшаў ён з магазіна гародніны, азірнуўся. А непадалёк ад магазіна, на плошчы, дзікі такі базарчык арганізаваўся. Дык гэтая чырвоная морда агурок уверх падняла і як крыкне:

— Лажыцеся. Бо ўсіх прыкончу!

Хто быў на тым базарчыку, на жываты і пападалі. А рэкецір паклаў на сярэдзіну плошчы агурок і пайшоў.

Ён пайшоў, а насеннік ляжыць. Сапраўды на гранату падобны. Усе вытарашчыліся: "Выбухне ці не выбухне?!!"

Хто яшчэ на сухім асфальце ляжыць — нічога. А каля тых, хто цюлькай гандляваў — лужыны. Дзве салёныя, а адна — не.

Тым, што ў салёнай ляжалі, — нічога. Толькі ўжо маласольныя. А адзін у лужыну без расолу плюхнуўся. Добрая такая лужына і глыбокая. Базарны, можна сказаць, Байкальчык.

А пад вечар стаў брацца марозік. Пачаў той Байкал замярзаць. А прадавец цюлькі на жываце ляжыць сіні, як селядзец. А вочы ўжо — як у камбалы. Бо жывот прымёрз. І калі б толькі жывот. Потым ледзьве яго з лёду ламамі вызвалілі. Але позна. Ён цяпер толькі для таго, каб цюльку прадаваць, і варты.

Ну гэта ўжо пасля яго з лёду вызвалілі, а спярша прыехалі салёры і забралі агурок.

Плюнуў я на ўсё гэта, падняўся з асфальту і пабег дадому. Бо і сам на марожанага хека стаў падобны. Прыхекаў дадому і ледзьве за навагоднім сталом адагрэўся. Бо пілі за стары год, за Новы, пасля за партыі і рухі, потым... за грыўну, за сабаку Пірата і за ўсё на свеце. Усе налягалі на вінегрэт. І ніхто, акрамя нас з жонкай, і не заўважыў, што ён быў без агурка.

А праз некалькі дзён чытаю ў вячэрняй газеце: "Падраздзяленню, якім камандуе лейтэнант Завіруха, аб'яўлена падзяка за паспяховае размініраванне агурка. Учора за горадам прагучаў мірны выбух". Мабыць, усё-такі кадка з агуркамі трапілася са стратэгічных запасаў.

**Пераклаў з украінскай**
**Валерый БАБЕЙ**

Васіль ВІТКА

# АЎТОГРАФЫ І ЭПІГРАМЫ

## ТАНГА

*А. РУСЕЦКАМУ*

**Ёсць свой табель аб рангах,**
**Як у спорце, ў балеце.**
**У атлетыцы — штанга,**
**Танец — у піруэце.**

**Без падняцця жалезя**
**Рэкорд маладзецкі**
**Паказаў і ў паэзіі**
**Алёша Русецкі.**

**Так расчуліўшы тангам**
**Інтэрнацымутантаў,**
**Застаялых мустангаў**
**Усіх імперскіх рангаў.**

**Сталі ў строй скамарохі,**
**Выкапні той эпохі,**
**Зноў гатовыя ў танцы**
**Да канца дэтантанца.**

## ДАГОДНАМУ І МОДНАМУ

**Залежны ад павышэнняў**
**І дзеля ўласных кішэняў,**
**Згодна апошніх рашэнняў,**
**Па вывешаных мішэнях**

**Цаляў ты ў згодзе**
**са зместам**
**І адпаведна зместу**
**Часам нават з падтэкстам,**
**Цяпер выключна —**
**з падсексам.**

## КАРЫСЛІВЕЦ

**Зямлю абнюхвае**
**з карысцю.**
**Бывае, што падыме вочы,**
**Зірне на сонца,**
**калі чхнуць захоча,**
**І то з карысцю,**
**Каб нос прачысціць.**

## ГЛІНА

**На каго мая эпіграма?**
**Бог з гліны стварыў Адама.**
**Мы з гліны**
**вылепілі бажка.**
**Бажок не зляпіў і гаршка.**

## АМОН І ГЕГЕМОН

**Правіў намі Гегемон —**
**Распраўляецца Амон.**

## НАВУХАДАНОСАР

**Нават цар Вавілона**
**Навуханосар**
**Не любіў, як вядома,**
**На вуха даносаў.**

Анатоль КРЭЙДЗІЧ

# ЯНКАЎ СОН

"Сход! Сход! Сход! Усе на сход! Дзынь-дзынь-дзынь", — заклікае званочак дзятву ў самы вялікі клас. І вось усе сабраліся і дырэктар пачаў:

— Сёння, шаноўныя вучні, вам трэба зрабіць важны выбар. Мы з году ў год выслухоўваем вашыя скаргі на тое, што ў праграме навучання шмат лішняга, незразумелага і непатрэбнага. Асабліва гэта датычыцца літаратуры. Таму сёння і правядзём галасаванне па гэтай дысцыпліне. Астатнія пакуль на парадак дня ставіць не будзем. Давайце вызначымся з вамі, якіх пісьменнікаў выкінуць з праграмы, якіх пакінуць, а якіх уключыць у яе".

Пакуль Янка кумекаў-меркаваў, каго ж можна выкінуць з праграмы, першым ускочыў з лаўкі несусветны двоечнік з бандыцкімі замашкамі Пятрок Шыпулька, які за сем гадоў вучобы ні разу не падняў на ўроку рукі.

— А што тут рашаць, — рубануў з-за вуха гэты завугольны аўтарытэт, якога Янка больш за ўсіх у класе баяўся за яго нахабства і помслівы характар. — Усіх, каторыя цяперака ў праграме, трэба вытурыць прэч на які глухі сметнік, а замест іх... Замест іх... Ну, як яго... Гэтага... Ну...

— Забыўся, — хіхікнуў нехта ззаду і прыкрыў галаву рукамі. Але не ўбярогся. Шыпулька таўшчэзнай хрэстаматыяй з усяго маху агрэў насмешніка па карку.

— Мо Чэйза? — шапнуў бяскрыўдны Петракоў сябрук Шурык.

— Якога Чэйза, прыдурак. Трэба гэтага, ну, Жоржа... Жоржа...

— Жорж Санд? — Дык то не ён, а яна. Жорж Санд — жанчына, — здагадалася прыгажуня з 8-га класа па імені Жанна.

— А ну вас, ідыёты! — незадаволена махнуў рукою Шыпулька і сеў.

— А чаму б і Чэйза не ўвесці? Чым нейкімі там Дастаеўскім альбо Гогалем мазгі задурваць, якія пішуць адно, а трэба падразумяваць нешта зусім іншае, дык лепей Чэйза. Там усё зразумела і цікава, — загулі адразу некалькі галасоў, а Янка сядзеў і маўчаў, бо ні Чэйза, ні Жорж Санд не чытаў, затое захапляўся якраз Дастаеўскім ды Гогалем.

— Ну, а акрамя дэтэктываў? — паставіў пытанне дырэктар.

— Фантастыку!

— Якую?

— Любую!

— Цікавую!

— І прыгоды!

— І Тарзана яшчэ, Тарзана!

— Кнігі з серыі жахаў. Я ад іх мле-е-е-ю.

— А пра ка-ха-а-анне? — праспявала надта ж сентыментальным голасам яшчэ адна школьная прыгажуня Віка, якая з восьмага класа бегала на танцулькі і валачылася за хлопцамі. Жанна падтрымала сяброўку і ўдакладніла:

— Ма-до-о-онну-у-у.

Янка не верыў вачам. Тыя, хто на ўроках сядзеў, як тыя мышы пад дзеркачом, тут паказалі гэтакі спрыт, што Янку зрабілася страшна. Паспрабуй скажы што супраць, калі ўсе гэтак настроены. З іншага боку, Янку вельмі шкада стала тых мілых, разумных і добрых пісьменнікаў, якіх паспеў моцна палюбіць.

Калі вэрхал крышачку сціх, ён такі асмеліўся падняць руку. Яго маленькая, як у дзяўчынкі, далонька прыцягнула ўвагу ўсіх. Ведама ж, круглы выдатнік, вундэркінд. Кожнаму цікава, што ж скажа ён?

— Даруйце, — нясмела пачаў Янка, — я не чытаў ні Крысці, ні Чэйза. Тарзана чытаў, і прыгодніцкія кнігі, і фантастыку. Я думаю, навошта ўключаць у праграму Тарзана, яго і так усе прачытаюць. А я дзве першыя кніжкі прагартаў і выкінуў, нічога для душы не знайшоў (сход нягучна зашумеў). Прыгоды і фантастыка таксама розныя ёсць, дык трэба выбраць такія, каб яны рабілі нас лепшымі. Іх можна дадаць да праграмных твораў, а выкідваць нічога не трэба. Хіба ж можна выкінуць Купалу ды Коласа, ці Змітрака Бядулю, ці Кузьму Чорнага, ці, вунь, Някрасава, Лерман...

Тут левая шчака Янкі моцна запякла і ён ажно прысеў. З вачэй пырснулі слёзы. Гэта Шыпулька стрэльнуў у яго з маленькай рагаткі. Нехта, па прыкладзе Петрака, агрэў яго партфелем па спіне. А пасля невядома колькі дужых рук запхнулі Янку пад лаўку.

Хлопец яшчэ пачуў, як нейкая дзяўчынка запішчала: "Што вы робіце, што ён такога сказаў, ён жа правільна..." і, войкнуўшы, заплакала. Відаць, нехта балюча тузануў яе за касу.

— Мы што, будзем слухацца гэтага плаксівага слізняка, га? — Грымеў на ўвесь клас Шыпулька, які раптам адчуў у сабе нечуваную сілу. — Давайце галасуйма, бо зараз як...

Янка высунуў з-пад парты галаву і спалохана круціў ёю вакол сябе. За тое, каб выкінуць з праграмы ўсіх пісьменнікаў, якія былі ў ёй, і ўвесці ў яе прапанаваных Жорж Санд, Чэйза, Агату Крысці ды іншых, падняўся лес рук. У хлопца зайшлося сэрца.

— Шыпулька! — крыкнуў, не чуючы і не помнячы сябе ад хвалявання, Янка. — Калі зараз вы прамяняеце Талстога на Чэйза, а Кузьму Чорнага на Крысці, я ніколі больш не дам вам спісваць хатнія заданні. Ні па хіміі, ні па матэматыцы, ні па...

— Ха, напалохаў. — Шыпулька абыякава-задаволена скрывіўся і паказаў цераз плячо вялікім пальцам на крыху смешнага ў сваёй рашучасці, натапыранага Янку. — Атрымаеш у патыліцу, дык дасі. Нікуды не дзенешся.

— Паміраць буду, а не дам. — Увесь Янкаў выгляд пацвярджаў, што і напраўду не дасць.

— Не дасі, і не трэба. Мы прагаласуем яшчэ і за замену гэтых прадметаў іншымі, дзе не трэба ўрокаў рабіць. — І Шыпулька пераможна зірнуў на клас: — Ну што, суркі, хто за замену?

Супраць прагаласавалі ўсяго па некалькі чалавек з кожнага класа. З Янкавага, восьмага, трое: Мікола, які, хоць вучыўся слабавата, але заўсёды быў сур'ёзным і да яго не чапляўся нават Пятрок, і яшчэ дзве кандыдаткі ў выдатніцы. Яны ўсё марылі дагнаць па вучобе Янку і па-добраму зайздросцілі яму. Зайздросцілі і паважалі. Янка ніколі не выхваляўся сваім розумам, быў сціплым. Чаму ж яго не паважаць. Спісваць ён таксама нікому не шкадаваў. Таму яго, як і Міколу, і дзяўчат-выдатніц, вельмі здзівіла: чаму тыя, каго Янка часцей за ўсё выручаў, хто часцей за ўсіх карыстаўся ягонымі дабрынёй і працаю, цяпер аднесліся да яго з найбольшай жорсткасцю. А цяпер з рагаткі па ім, сапляком абазвалі, ранцам агрэлі, у каршэнь натаўкалі?..

Хлопцу закарцела запратэставаць зноў. Адкуль толькі бралася тая смеласць. Нічога, што галасаванне ўжо запратакалíравана, што цягнік, як той казаў, адышоў. Зараз ён дасць ім разгон, пацягае за чупрыну Петрака, дасць па шыі яшчэ каму...

Але што гэта? Янка намагаецца ўстаць, а быццам стопудовая гіра цягне яго ўніз. Хоча закрычаць, а з горла вырываецца адно толькі шыпенне, як у гусака. Ён яшчэ больш высільваецца, напружваецца, колькі ёсць сілы, і... вочы міжволі расплюшчваюцца.

Янка азіраецца і пачынае смяяцца, задаволены тым, што гэта быў усяго толькі сон. Самы звычайны, няхай сабе і жудасны, сон. Ён ускоквае з ложка, узбрыквае, як тое жарабя, і доўга-доўга гарлае на ўсю хату::

— Ура, гэта сон! Ура, гэта сон!

Ура? Гэта сон?




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 332-204
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтэрыя — 268-640



*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра "ЛіМ"**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6080.
Нумар падпісаны 4.1.1996 г.
Заказ 8543/Г

П123456789101112
М123456789101112